КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 8 (377) ◂ 28 лютага ◂ 2014 г.
www.novychas.info

# Новы Час



РЫГОР ВЯЧОРКА

Стар. 30–31

**З-ЗА ЗАРОБКАЎ ПРЭСТЫЖ МНС МОЦНА ЎПАЎ**

«Служы дурачок, атрымаеш значок», — гэты выраз я пачула ад некалькіх прадстаўнікоў высакароднай і рызыкоўнай прафесіі. Як разыходзяцца чаканні і рэальнасць работнікаў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях — у расповедзе з першых вуснаў

Стар. 6

**НАФТАВЫ ШОК: ГІСТОРЫЯ КРЫЗІСУ**

Сорак гадоў таму ўвесь Захад быў ахоплены так званым першым энергетычным крызісам. Аналізуючы яго наступствы, эксперты прызнаюць, што менавіта тады былі створаныя контуры цяперашняга свету

Стар. 28

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**ХТО ЗАСТРЭЛІЎ ГАННУ КАРОЛЬ?**

Нарыс Сяргея Чыгрына

ВЫБАРЫ




# У ДЭПУТАТЫ — ПА РАЗМЕРКАВАННІ

Сяргей ПУЛЬША

**Здавалася б, сістэма адсеву кандыдатаў і працэдуры галасавання даўно адладжаная. Да таго, што нават сябры камісій не ведаюць, як прагаласавалі людзі. Але тое, што мы бачым зараз…**

Зараз увогуле рэалізуецца варыянт: ты не прагаласуеш «няправільна», нават калі вельмі гэтага захочаш.

Цэнтрвыбаркам скончыў рэгістрацыю кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў. Вынікі — надзвычай цікавыя. Усяго ў Беларусі 18 816 выбарчых акругаў. На іх зарэгістравана 22 338 кандыдатаў. Гэта значыць, што сярэдні конкурс на дэпутацкае месца — 1,2 чалавекі. Вялікі конкурс у Мінску — 3,5 чалавекі на месца. Як падлічылі праваабаронцы, выбары будуць безальтэрнатыўнымі ў 90% акругах. То бок, фактычна па ўсёй Беларусі.

Нідзе ў краіне няма такога, каб на акрузе не было ніводнага кандыдата ў дэпутаты мясцовых саветаў. Такое можа быць толькі ў двух выпадках. Выпадак першы — нерэальны. Гэта калі ўсе 22 тысячы кандыдатаў сабраліся недзе разам і «падзялілі» паміж сабой акругі, каб адзін аднаму не перашкаджаць. А каб была бачнасць дэмакратыі, стварылі «конкурс у Мінску». Але пра такі схадняк кандыдатаў грамадства б даведалася. Дый не можа быць такога сцэнару, бо не змаглі б паміж сабою дамовіцца найперш прадстаўнікі апазіцыі. Да прыкладу, па Гомельскай-Навабеліцкай акрузе, дзе ў 2012 годзе праваліліся выбары дэпутата Палаты прадстаўнікоў, паўторныя выбары ў ППНС праходзяць зараз. На гэтую пачэсную пасаду прэтэндавалі 7 чалавек, з іх трое — кандыдаты ад апазіцыі. Пасля рэгістрацыі засталося пяцёра, з іх — двое апазіцыянераў. Калі ўжо на адной акрузе апазіцыя не здолела дамовіцца аб адным дэмакратычным кандыдаце, дык што казаць пра ўсю краіну?

І выпадак другі — больш рэальны: вылучэнне і рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты кіраваліся з адзінага «цэнтру», які сам абіраў кандыдатаў, патрэбных рэгістраваў, а непатрэбных выкрэсліваў. У гэтым «цэнтры» ўсё і было размеркавана так, каб на кожнай акрузе абавязкова быў кандыдат, і нідзе б не было «правалу».

Ёсць і яшчэ цікавыя лічбы. Так, колькасць адмоў у рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты ў Мінскі гарсавет склала 25,6%, у саветы раённага ўзроўню — 1,9%, у сельскія Саветы — 0,2%. Гэта значыць, што дасведчаныя ў зборы подпісаў і вопытныя ў палітычных баталіях сталічныя партыйцы і актывісты пры падачы дакументаў памыляліся як мінімум у 15 разоў больш, чым кандыдаты ў дэпутаты саветаў ніжэйшага ўзроўню. Атрымліваецца, што ў сталіцы людзі, прайшоўшыя не адну палітычную кампанію, аказваюцца менш дасведчанымі ў выбарчых працэдурах, чым кандыдаты ў глыбінцы.

Праваабаронцы лічаць, што пры рэгістрацыі кандыдатаў выбарчыя камісіі «селектыўна» падыходзілі да кандыдатаў у дэпутаты і рабілі кандыдатамі тых, на каго з невядомага «цэнтру» паступіла «размеркаванне».

Даходзіла нават да анекдотаў. Згодна з новымі зменамі ў Выбарчы кодэкс, кандыдат у дэпутаты павінен прадаставіць сертыфікат аб адукацыі альбо пацвердзіць профіль працы. Напрыклад, калі вы напісалі, што вы палітычны аналітык, вы павінны альбо працаваць у гэтай якасці, альбо прадставіць у камісію адпаведны дыплом аб адукацыі. Аднаму з прэтэндэнтаў кампаніі «Гавары праўду!» было адмоўлена ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты з-за таго, што ён прадставіў у камісію дыплом аб заканчэнні нямецкага ўніверсітэта. Ці то ў камісіі нямецкай мовы не зразумелі, ці то ў нас сапраўднымі з'яўляюцца толькі «айчынныя» дыпломы. Але факт застаецца фактам.

Камісіі таксама памыляюцца. Глыбоцкага актывіста Яраслава Берніковіча зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты. Але потым яму пазванілі з камісіі, папрасілі прыйсці наноў і адабралі кандыдацкае пасведчанне — маўляў, выбачай, насамрэч цябе не зарэгістравалі…

Дарэчы, яшчэ яскравы факт ад таго ж Берніковіча пра тых, хто кіраваў працэсам рэгістрацыі і будзе кіраваць выбарамі. Паводле ягонай інфармацыі, з апошніх выбараў шмат сяброў тых самых выбарчых камісій сышлі на пенсію і спакойна сабе адпачывалі. Але напярэдадні мясцовай кампаніі яны былі тэрмінова «адазваныя з пенсій». Гэта значыць, уладзе спатрэбіліся правераныя кадры.

І яшчэ — працэнт нерэгістрацыі апазіцыйных кандыдатаў у дэпутаты. Агулам, з тых, хто вылучаўся шляхам збору подпісаў, не зарэгістравалі толькі 2%. Але ў аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» працэнт нерэгістрацыі складае 68%, Руху «За Свабоду» — 57%, кампаніі «Гавары праўду!» — 78%. То бок, фактычна выкрэсліваліся ўсе тыя, хто сапраўды меў намер змагацца калі не за дэпутацкія мандаты, дык хаця б за прыхільнасць выбаршчыкаў.

То бок, ужо на этапе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты ўлада пазбавіла беларусаў права выбару. Бо не назавеш жа выбарамі выбар аднаго чалавека — без альтэрнатывы. А безальтэрнатыўных акругаў, нагадаю, у Беларусі будзе 90%.

Канешне, мясцовыя выбары не карыстаюцца вялікай увагай насельніцтва. Мясцовыя дэпутаты не маюць выразных паўнамоцтваў, каб нешта палепшыць альбо нешта вырашыць. І калі б улада скасавала гэтыя саветы, то ніхто б гэтага і не заўважыў.

Але тут — справа прынцыпу. Калі ўжо гэтае дзейства завецца «выбарамі», дык народу павінен быць прадстаўлены хаця б мінімальны выбар. «Выбары» ж з адным загадзя вызначаным кандыдатам ператвараюцца ў «вырабы».

## ВЫБАРЫ

### БАРАНАВІЧЫ. ЛЮДЗІ АДМАЎЛЯЮЦЦА ПРЫМАЦЬ УДЗЕЛ У ВЫБАРАХ

**Жыхары вуліцы Дамашэвічскай і 3-га завулка Дамашэвічскага адмаўляюцца прымаць удзел у выбарах 23 сакавіка.**

Гэта стала вядома з ліста кандыдата ў дэпутаты гарадскога і абласнога Саветаў Мікалая Чарнавуса, які ён накіраваў у Цэнтральную выбарчую камісію на імя Лідзіі Ярмашынай. Копію ліста грамадскі актывіст накіраваў таксама старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Юрыю Грамакоўскаму.

Мікалай Чарнавус паведамляе, што яшчэ два гады таму вуліцу Дамашэвічскую раскапалі так, што праехаць на машыне стала проста немагчыма. Кіроўцы вымушаны пакідаць машыну ў брудзе і шукаць трактар, каб выцягнуць уласны транспарт з ямаў. Асабліва цяжка прыходзіцца ў вячэрні і начны час, калі знайсці дапамогу практычна немагчыма. А жыхары вуліцы злуюцца, калі пацярпелыя турбуюць іх, асабліва ноччу, з мэтаю атрымання тэрміновай дапамогі.

У сувязі з тым, што гарадскія ўлады спынілі добраўпарадкаванне вуліцы, паведамляе Мікалай Чарнавус у сваім лісце, жыхары вуліцы Дамашэвічскай і 3-га завулка Дамашэвічскага адмаўляюцца прымаць удзел у выбарах 23 сакавіка.

Мікалай Чарнавус паведаміў таксама, што ён ужо атрымаў электронны адказ з ЦВК за подпісам Мікалая Лазавіка, дзе паведамляецца, што яго заява накіравана для разгляду ў Брэсцкі выканаўчы камітэт.

### ВІЦЕБСК. СУД СТАЎ НА БОК КАМІСІІ, ЯКАЯ АШУКАЛА ВЫБАРШЧЫКАЎ

**Аляксей Гаўруцікаў і Хрыстафор Жаляпаў прадставілі суду пісьмовыя тлумачэнні грамадзян, чые подпісы за вылучэнне актывістаў былі прызнаныя несапраўднымі. Некаторыя з іх з'явіліся ў суд, каб распавесці пра тое, як іх ашукалі. Але ні пракурор, ні абласны суд не хочуць прызнаць адмову ў рэгістрацыі незаконнай.**

«У віцебскай камісіі на гэтых выбарах — новае вынаходніцтва. Правяраючы сапраўднасць подпісаў, сябры камісій ідуць да людзей з адмысловымі бланкамі, дзе надрукаваны тэкст заявы пра тое, што дату, маўляў, выбаршчык ставіў не сваёй рукой. Калі размаўляюць з людзьмі, іх пра гэта не папярэджваюць, але просяць падпісаць паперку. Чалавек, пераконаны ў тым, што яго распыталі наконт сапраўднасці подпісу, гатовы засведчыць, што ён сапраўды мяне вылучаў. І падпісвае не чытаючы», — тлумачыць спецыфіку віцебскага ноў-хаў мясцовы каардынатар Руху»За Свабоду» Хрыстафор Жаляпаў.

Пра такія самыя ашуканствы выбаршчыкаў з «заявамі пра парушэнні» распавяла і каардынатар аргкамітэту па стварэнні БХД Таццяна Севярынец.

«На судзе я быў не адзін — прыйшлі і сведкі. Хачу гэта адзначыць: людзі настолькі абураныя ашуканствам, што не толькі напісалі пісьмовыя заявы пра тое, як іх «падставілі», але і пагадзіліся прыйсці на працэс. У тым ліку маладая маці, якая пакінула дома немаўля, і бабулька зусім сталага веку. Сведкі казалі, што «з праверкай» да іх прыходзіла сама старшыня камісіі, праўда, яна сама «не памятае», да каго хадзіла, а да каго — не… Ну, але ў выніку суд так і не стаў на мой бок — прызнаў, што ў рэгістрацыі мне адмовілі законна. Бо, маўляў, на момант рэгістрацыі ў распараджэнні камісіі былі заявы грамадзян пра тое, што «даты ставілі не яны». А аспрэчыць гэта яны, ужо калі тэрміны рэгістрацыі прайшлі. Так што кандыдатам у дэпутаты мне не быць!» — распавёў Гаўруцікаў.

### БЯРОЗА. УСЕ СІЛЫ НА ТРОХ РАЗДАТЧЫКАЎ БЮЛЕТЭНЯЎ

**Не паспеў старшыня АГП Анатоль Лябедзька прыехаць у Бярозу для раздачы бюлетэняў «Голас розуму», як яго ўжо там чакаў чалавек у цывільным.**

Ён прадставіўся капітанам, але дакументаў не паказаў, узяў бюлетэнь,тыцнуў пальцам у карыкатуру «Мацька народца БССР» і сказаў:

— Гэта супраць прэзідэнта.

Лябедзька спытаў:

— А дзе выбачыце прэзідэнта. Ну калі лічыце, што гэта прэзідэнт, то няхай будзе ваш прэзідэнт.

Малады чалавек адышоў. Неўзабаве на месца раздачы бюлетэняў прыехалі 4 міліцэйскіх аўтамабілі. Спачатку падышоў намеснік старшыні раённай выбарчай камісіі Аляксандр Крагель — работнік ідэалагічнага аддзела райвыканкама і спытаў, што тут праводзіцца. Яго цікавіў прысутны кандыдат у дэпутаты ад АГП Андрэй Буранка. Затым на чарзе сталі падыходзіць міліцыянты і дапытвацца, што тут праводзіцца.

Яны запатрабавалі тлумачальную ад старшыні Бярозаўскай раённай АГП Аляксандра Кабанава, якую ён напісаў тут жа ў міліцэйскім аўтамабілі, і яго адпусцілі.

Затым перапісалі дадзеныя старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення АГП Уладзіміра Вуека і самога Анатоля Лябедзькі.

Увесь час ішла відэаздымка, якую рабіў ужо сумнавядомы ў Бярозе чалавек у чорным.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

---

ПАДМЕНА ПАНЯЦЦЯЎ

## МОЎНАЯ ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

**Адміністрацыя прэзідэнта перанакіравала скаргу салігорскіх актывістаў на моўную дыскрымінацыю з боку мясцовага тэлеканала ў Міністэрства інфармацыі.**

Змаганне салігорцаў за моўную роўнасць у эфіры тэлеканала СТК цягнецца ўжо амаль год. Прайшоўшы ўсю вертыкаль улады да самай Адміністрацыі прэзідэнта, актывісты зноўку рыхтуюцца да судовага працэсу.

— Адказ Мініфармацыі досыць класічны. Маўляў, паводле Закону аб СМІ масавая інфармацыя можа распаўсюджвацца ў Рэспубліцы Беларусь на дзвюх дзяржаўных мовах, і працэнтныя ці якія-небудзь іншыя суадносіны для дзяржаўных моваў вяшчання не прадугледжваюцца, — кажа адзін з барацьбітоў за моўную роўнасць Віктар Малочка.

Намеснік міністра інфармацыі Шэдко Д. А. паведамляе, што канчатковае рашэнне па гэтым пытанні прымае галоўны рэдактар тэлеканала, а ўмяшальніцтва ў сферу прафесійнай самастойнасці рэдакцыі СТК называе незаконным абмежаваннем свабоды масавай інфармацыі. Адпаведна, вырашэнне пытання аб прапанаваным актывістамі стварэнні папкі з беларускамоўнымі вершамі і выканаўцамі, а таксама завядзенне спецыяльных бланкаў заказаў віншаванняў, Міністэрства інфармацыі лічыць выключнай кампетэнцыяй адміністрацыі Салігорскага тэлеканала.

Салігорскія актывісты ўважаюць аргументацыю Міністэрства інфармацыі дапушчальнай для прыватных медыяў. Ад дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, асабліва ад тых, якія, як тэлеканал СТК, займаюць манапольны статус у рэгіёне, актывісты чакаюць недыскрымінацыйнага падыходу да інфармацыйнай палітыкі на падставе роўнасці і павагі да правоў беларускамоўнай меншасці. Далей адстойваць свае правы актывісты збіраюцца зноўку ў судовых інстанцыях.

**Паводле spring96.org**

---

ІНІЦЫЯТЫВА

## АДНОЙ КАМАНДАЙ

**Таццяна ШАПУЦЬКА**

**Незалежныя кандыдаты дэпутатамі яшчэ не сталі, але ўжо дапамагаюць выбарцам вырашаць праблемы.**

Летась Леанід Дубаносаў, актывіст незалежнага прафсаюза, быў звольнены з мікашэвіцкага прадпрыемства «Граніт». Цяпер ён далучыўся да грамадскай кампаніі «Гавары праўду» і зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты па Мікашэвіцкай адзінаццатай акрузе.

Леанід Дубаносаў дзеліцца падрабязнасцямі сваёй першай выбарчай кампаніі:

— Трэба было сабраць дваццаць подпісаў. Я сабраў сорак, а болей няма і сэнсу. У нас можна сабраць і сто-дзвесце подпісаў, а з іх прызнаюць сапраўднымі толькі дзевятнаццаць, і аднаго подпісу будзе не хапаць. Цяпер збольшага мы ходзім ад «дзвярэй да дзвярэй», размаўляем з людзьмі, выслухоўваем, якія праблемы іх турбуюць, што іх не задавальняе ў горадзе.

Подпісы за нас ставілі ахвотна. Людзі заўсёды рэагуюць добразычліва, заўсёды ўпускаюць у кватэру ды размаўляюць. Усе казалі, што надакучылі ім прызначаныя дэпутаты, якія нічога не вырашаюць. Мы называлі выбарцам прозвішчы цяперашніх дэпутатаў, дык пра іх ніхто і не чуў, і ніхто не ведае, чым тыя дэпутаты займаюцца на сваіх пасадах. Нешта для паказухі зробяць — там кавалачак дарогі заасфальтуюць, там пад'езд пафарбуюць, там кусок трубы памяняюць — каб стварыць уражанне, што нешта адбываецца, але ў сухой рэшце нічога не мяняецца.

Людзі скардзяцца, што дрэнныя дарогі. Што няма парковак ля дамоў, а калі і ёсць, яны вельмі маленькія, як у Савецкім Саюзе, дзе машыны мала ў каго былі. Дзіцячых пляцоўкі: альбо іх няма, альбо яны ў такім жахлівым стане, што туды не хочацца і весці гуляць дзяцей. Яшчэ шмат наракання на не зробленыя капітальныя рамонты. Ёсць будынкі, дзе сорак гадоў капрамонты не рабіліся. Я спускаўся ў падвал такога дома — жахнуўся! Такія іржавыя і гнілыя трубы! Работнікі, якія ў тым падвале працавалі, распавялі, што падбіваюць іх калкамі ды анучкамі замотваюць, бо зварка такія трубы ўжо не бярэ, а толькі пражыгае. Яшчэ адна праблема — гэта бяздомныя жывёлы. Зграямі бегаюць дзікія сабакі. Можа, той сабака і не кінецца на дарослага, але ж дзеці баяцца.

Леанід Дубаносаў прызнае, што магчымасць паўплываць на вырашэнне гэтых праблемаў будзе толькі, калі ў мясцовы савет дэпутатаў пройдзе не адзін, а некалькі незалежных кандыдатаў:

— Нават калі тры-чатыры нашы кандыдаты пройдуць на выбарах, гэта ўжо нешта, ужо можна нешта вырашыць, недзе націснуць. Але і цяпер людзі звяртаюцца да нас па дапамогу — у кагосьці цякуць трубы, недзе праблемы з каналізацыяй. Дапамагаем, пішам звароты, але збольшага прыходзяць адпіскі з расплывістымі адказамі. Праўда, і тут ёсць зрухі — пасля нашых зваротаў пачалі і дамы троху рамантаваць, і грэйдэрам па дарогах рэгулярна праходзіць, каб дарогі былі роўненькія, хаця раней ад сілы раз у два тыдні той грэйдэр пускалі. Значыцца, і мы, простыя грамадзяне, можам нешта зрабіць у сваім горадзе.

Акрамя Леаніда Дубаносава кандыдатамі на выбары зарэгістраваныя дэмакратычныя актывісты Святлана Стахаевіч, Надзея Тазіева, Віталь Каліноўскі, Наталля Стражэвіч і Аляксей Малінін.

---

ЛІСТ

## НЕ — БУДАЎНІЦТВУ Ў КУРАПАТАХ

**Марат ГАРАВЫ**

**Ліст з заклікам не пачынаць будаўніцтва Міжнароднага выставачнага цэнтру ў ахоўнай зоне Курапатаў быў накіраваны старшыні Беларускай гандлёва-прамысловай палаты (БелГПП) Міхаілу Мятлікаву**

«Як вядома, пытанне аховы Курапатаў — адно з балючых для грамадскай думкі. Гісторыя гэтага пытання сведчыць, што парушэнні заканадаўства і маральных нормаў у справе аховы народнага мемарыялу непазбежна выклікаюць вострую грамадскую рэакцыю.

Згодна інфармацыі прадстаўніка кіраўніцтва БелГПП, на полі каля ўсходняй мяжы Курапатаў рыхтуецца будаўніцтва Міжнароднага выставачнага цэнтру (МВЦ) агульнай плошчай 40 тысяч квадратных метраў з павільёнамі, бізнэс-цэнтрам, кангрэс-холам, гатэлем і інфраструктурай для абслугоўвання міжнародных дэлегацый. Прычым, частка гэтага поля з «Дарогай смерці» мае статус ахоўнай зоны Курапатаў», — гаворыцца ў лісце.

Яго аўтары звяртаюць увагу старшыні БелГПП на тое, што галоўную ролю ў захаванні асяроддзя Курапатаў адыгрывае менавіта ахоўная зона гэтага выбітнага помніку трагедыі беларускага народу.

Грамадскасць лічыць недапушчальнымі любыя праектна-вышуковыя працы на тэрыторыі ахоўнай зоны Курапатаў, паколькі такія працы прывядуць да знішчэння асяроддзя гісторыка-культурнай каштоўнасці з яе ўсходняга боку, у тым ліку і «Дарогі смерці», якая разглядаецца як адзін з галоўных складнікаў будучага мемарыялу ахвяраў сталінізму «Курапаты».

Аўтары лісту просяць Міхаіла Мятлікава прыняць меры па недапушчэнню планавання аб'ектаў МВЦ у ахоўнай зоне Курапатаў. І выказваюць спадзяванне, што старшыня БелГПП зробіць «усё неабходнае, каб не запляміць свой аўтарытэт незаконнымі і амаральнымі дзеяннямі ў Курапатах, захаваць свой імідж у Беларусі і за яе межамі».

Сярод падпісантаў лісту — сябра рады грамадскага аб'яднання «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» Алесь Макаў, мовазнаўца Вінцук Вячорка і культуролаг Вацлаў Арэшка.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ХТО ЗАПЛАЦІЦЬ АЛІМПІЙЦАМ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Злыя «тролі» з інтэрнэту казалі, што для выплаты спартоўцам «прызавых», якія агулам складаюць 800 тысяч долараў, краіне спатрэбіцца новы крэдыт, а самі выплаты расцягнуць невядома наколькі. Памыліліся ўсе. Мы і самі зможам парадаваць алімпійцаў! Канешне, для гэтага спатрэбіцца крышачку зацягнуць паясы.**





Сустрэўшыся з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам, Аляксандр Лукашэнка даручыў яму «неадкладна выплаціць прызавыя беларускім спартсменам, якія заваявалі медалі на XXII зімовых Алімпійскіх гульнях 2014 года ў Сочы», паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы. Адкуль узяць такія грошы зараз і неадкладна, Аляксандр Рыгоравіч, канешне, не патлумачыў. Аднак і Мясніковіч нездарма прэм'ер — сам павінен ведаць.

І пачаліся «весткі з палёў». У Беларусі павышаны гранічныя максімальныя адпускныя цэны малочную прадукцыю. Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Мінэканомікі ад 14 лютага 2014 года, якое было апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале неўзабаве пасля сустрэчы Аляксандра Рыгоравіча з Міхаілам Уладзіміравічам. На 7 працэнтаў павышаны адпускныя цэны на малако і кефір тлустасцю да 3,5 працэнта, смятану тлустасцю да 25 працэнтаў і тварог тлустасцю да 9 працэнтаў. Акрамя таго, на 5 працэнтаў павялічаны цэны на малако і кефір тлустасцю звыш 3,5 працэнта, смятану тлустасцю звыш 25 працэнтаў, тварог тлустасцю звыш 9 працэнтаў. Значыць, «малочка» ў нас падаражэе, хаця, здавалася б, кошты ў нас на гэтую прадукцыю і так ужо параўнальныя з еўрапейскімі і расійскімі.

Таксама беларусаў чакае новая графа ў «жыроўках». Міністр ЖКГ Андрэй Шорац на пасяджэнні працоўнай групы па вывучэнні праблемных пытанняў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы прапанаваў увесці ў тарыф на жыллёва-камунальныя паслугі нейкую «інвестыцыйную надбаўку», уцямна не патлумачыўшы, што гэта такое і куды канкрэтна пойдуць гэтыя грошы.

«У планава-разліковую цану за жыллёва-камунальныя паслугі трэба ўвесці інвестыцыйны складнік. Без гэтага на маштабнае абнаўленне асноўных сродкаў, на ўкараненне энергаэфектыўнага абсталявання, на сур'ёзныя праекты з салідными капіталаўкладаннямі разлічваць не прыходзіцца. Увядзенне інвестыцыйнага складніку дазволіць прыцягнуць інвестыцый ў галіну, а значыць, знізіць бюджэтнае фінансаванне», — заявіў міністр. Паводле яго слоў, рынак жыллёва-камунальных паслуг патэнцыйна прывабны для прыватнага бізнэсу — ёсць пастаянны збыт, аплачаны атрымальнікамі паслуг. Аднак, як лічыць Шорац, гэты рынак не развіваецца ў належнай меры, тормазам служаць дзеючыя ўмовы фарміравання тарыфаў. Прапанову міністра ЖКГ падтрымаў віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін.

> Па дадзеных Нацыянальнага статкамітэта, у студзені сярэдняя зарплата ў Беларусі склала 5,32 міл. рублёў. Ва ўсіх абласцях яна была ніжэй за сяраэднерэспубліканскі ўзровень

Штосьці я не разумею: па розуме, калі ў ЖКГ прыходзіць інвестар і прыватнік, гэта ён павінен укладаць грошы ў тое, каб належным чынам і ў належнай якасці аказваць жыллёва-камунальныя паслугі. А ўжо потым «адбіваць» гэтыя грошы: хочаш больш якасныя паслугі — больш плаці. Але «плаціць за інвестыцыі» прапануецца не інвестару, а наадварот — атрымальніку паслугаў. І прычым, плаціць яшчэ ДА атрымання гэтых паслугаў, а не ПАСЛЯ гэтага. Дзе гарантыя, што мы заплоцім «за мадэрнізацыю ЖКГ», а гэтая мадэрнізацыя не ляснецца, як ляснулася ўся іншая мадэрнізацыя?

Традыцыйна грошы злуняць з курцоў. Сапраўды, трэба спортам займацца, як Домрачава, а не паліць і не псаваць здароўе. 31 сакавіка ў чарговы раз падаражэюць цыгарэты. Максімальныя рознічныя цэны на асобныя віды цыгарэт у Беларусі з 1 сакавіка вырастуць на 0,5–14,3%. Новыя цэны на тытунёвыя вырабы апублікаваныя на сайце Міністэрства па падатках і зборах.

Падаражание закране найбольш папулярныя ў курцоў маркі цыгарэт: Alliance, Magna, LD, Monte Carlo, Pall Mall, Viceroy, Capri, Glamour, Lucky Strike, Winston, Camel, Kent, Vogue, Sobranie.

Усё б нічога, але… Гэтае падаражанне — ужо трэцяе за год, і цыгарэты ў краіне даражэюць кожны месяц. Апошні раз цыгарэты даражэлі 1 лютага 2014 года — на 3–21%. А «перадапошняе» падаражанне было 1 студзеня 2014 года, і яно было найбольш балючым для гаманцоў курыльшчыкаў — тады тытунь падаражэў ад 3,6% да больш чым 50%. «Перад-перадапошняе» падаражанне было 1 снежня 2013 года — на 2–14%. То бок, за тры зімовыя месяцы некаторыя віды гэтай прадукцыі падаражэлі ўдвая.

Не менш традыцыйна даражэе валюта. «Знакавым днём» для яе стала серада, 26 лютага. Долар у гэты дзень перасягнуў псіхалагічны рэкорд у 9 750 рублёў. Такі ж псіхалагічны рэкорд у 13 400 рублёў пераадолеў і еўра. Да прагназаваных экспертамі яшчэ ў мінулым годзе 10 тысячаў за долар засталося зусім няшмат.

І, што самае цікавае, скончыўся беларускі зарплатны цуд. Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі, у студзені 2014 года сярэдняя заработная плата ў Беларусі склала 5,32 мільёна рублёў. Пры гэтым ва ўсіх абласцях яна была ніжэйшай за сярэднерэспубліканскі ўзровень.

У параўнанні са снежнем, калі традыцыйна за кошт дадатковых выплат даходы насельніцтва вышэйшыя, у студзені намінальная заработная плата знізілася на 9,4%, а рэальная зарплата (з улікам інфляцыі) — на 10,5%.

Разам з тым трэба адзначыць, што ў апошнія месяцы росту даходаў насельніцтва ў краіне не назіраецца. Цяперашняга ўзроўню (5,3 мільёна рублёў) сярэдняя заработная плата дасягнула яшчэ ў трэцім квартале 2013 года.

Канешне, шматлікія знаўцы эканомікі даўно казалі, што нельга атрымліваць грошы ні за што, і не павінна быць росту зарплаты ў 20%, калі ВУП Беларусі павялічыўся толькі на 1,5%. Але паніжэнне сярэдняга заробку на 10% — гэта такі ж псіхалагічны ўдар для насельніцтва, як і рэкорды долара і еўра. Гэта значыць, што «беларускі эканамічны цуд» ператвараецца беларускі эканамічны жах, а «крыштальны сасуд» даў расколіну.

Увялі б яны адразу «падатак на выплату алімпійцам», ды ўсё. Няўжо б мы не скінуліся для Дашы?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІХАІЛ КУКАБАКА



Самы вядомы беларускі дысідэнт савецкіх часоў Міхаіл Кукабака дамогся зняцця грыфу «сакрэтна» са сваёй справы. Сем з паловай гадоў хаджэнняў па судах і шматлікіх запытаў у розныя дзяржаўныя ведамствы нарэшце далі вынік.

Міхаіл Кукабака атрымаў паведамленне аб тым, што матэрыялы ягонай судова-псіхіятрычнай экспертызы за 1970-ы і наступныя гады рассакрэчаны. Паводле слоў Кукабакі, зараз яны з адвакатам хочуць высветліць, хто даў каманду і як праходзіў сам працэс рассакрэчвання. Потым плануюць запатрабаваць правы зняцця копій з дакументаў і адправіцца ў інстытут Сербскага «ў якасці непрыемных для іх «гасцей». З гэтай мэтай на мінулым тыдні ён падаў запыт у цяпер Дзяржаўны навуковы цэнтр сацыяльнай і судовай псіхіятрыі імя Сербскага.

З 17 гадоў зняволення Кукабака тройчы быў ізаляваны ў псіхіятрычных бальніцах, стаўшы ахвярай выкарыстання псіхіятрыі ў палітычных мэтах. Пасля першага арышту ў 1970 годзе рашэннем Уладзімірскага абласнога суда быў накіраваны ў Сычоўскую спецыяльную (турэмную) псіхіятрычную бальніцу, адкуль накіроўваўся на судова-медыцынскую экспертызу ў ЦНДІ імя Сербскага. «З 1969 па 1970 сістэматычна распаўсюджваў сярод працоўных завода паклёпніцкія матэрыялы ў адрас кіраўнікоў партыі. У 1970 г. быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці па арт. 190-1 КК РСФСР. З гэтай нагоды праводзілася СПЭК у інстытуце судовай псіхіятрыі. Быў прызнаны вар'ятам і накіраваны на прымусовае лячэнне ў дадзеную бальніцу», — гаворыцца ў выпісы з гісторыі хваробы Сычоўскай СПБ. У гэтай бальніцы палітвязень утрымліваўся каля трох гадоў, а затым яшчэ каля двух — у спецаддзяленні Уладзімірскай псіхіятрычнай бальніцы агульнага тыпу. Акрамя таго, жывучы ў Бабруйску, восенню 1976 і 1977 гадоў «антысаветчык» Кукабака падвяргаўся гвалтоўнай шпіталізацыі ў Магілёўскай абласной псіхбальніцы.

У 1991 годзе Міхаіл Кукабака быў рэабілітаваны. Вікіпедыя называе ягонае 17-гадовае зняволенне «самым вялікім вядомым сумарным тэрмінам зняволення для ўдзельнікаў дысідэнцкага руху ў СССР».

### МІКАЛАЙ АЎТУХОВІЧ



Вядомы ваўкавыскі прадпрымальнік і двойчы палітвязень Мікалай Аўтуховіч на волю павінен выйсці 8 красавіка.

Але, тым не менш, кіраўніцтва гродзенскай турмы не дазваляе правесці дыягностыку стану здароўя Аўтуховіча, паведаміў кіраўнік «Прававой дапамогі насельніцтву», былы следчы пракуратуры Алег Волчак. «Мы атрымалі ліст, што Аўтуховіч выйдзе на свабоду 8 красавіка. Да гэтага стала вядома, што дыягностыку стану яго здароўя так і не правялі. Мабыць, улады і турэмшчыкі проста чакаюць 8 красавіка з тым, каб Аўтуховіч сам займаўся сваім здароўем. Гэта значыць, яго папросту не лечаць», — сказаў праваабаронца.

Юрыст адзначыў, што перадачу з лекамі ад яго маці турэмшчыкі трымалі больш за месяц. «У Мікалая сур'ёзныя праблемы з зубамі. Яму патрэбныя імплантанты. І за гэты час ён ужо мог прайсці ўсе аналізы. Таксама яму да гэтага часу не перадалі міксер для драбнення ежы», — падкрэсліў Волчак.

### УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ



Узнагарода знайшла героя. У Стакгольме ўвечары 25 лютага прайшла цырымонія ўзнагароджання беларускага паэта, былога палітвязня Уладзімера Някляева прэміяй, якая была прысуджаная яму ў 2011 годзе.

На цырымоніі ўручэння прэміі 15 лістапада 2011 года, у міжнародны дзень салідарнасці з літаратарамі, якія знаходзяцца за кратамі, Някляеў прысутнічаць не змог, бо ў той час быў пад падпіскай аб нявыездзе пасля прысуду за Плошчу. Тады дыплом паклалі на пустое крэсла, што было вельмі сімвалічна.

25 лютага 2014 года міністр культуры Швецыі Лена Одэльсэн-Лільерт нарэшце змагла ўручыць дыплом Някляеву асабіста. Яна выказала радасць з гэтай нагоды і заявіла, што вельмі шануе творчасць і дзейнасць Някляева.

Прэмія носіць імя нямецкага літаратара, змагара з нацызмам Курта Тухольскага, якога пераследавалі гітлераўскія ўлады, пазбавілі грамадзянства, і які знайшоў сабе прытулак у Швецыі. Някляеў атрымаў узнагароду за кнігу вершаў «Лісты да Волі», якую пісаў у турме пасля прэзідэнцкіх выбараў і выдаў, як вызваліўся.

▸ «НАШЫ ПРАВЫ — НАША БАГАЦЦЕ»

# САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАВЫ? ЗАБУДЗЬЦЕСЯ!

Міхаіл ПАСТУХОЎ,
Сяргей ПУЛЬША

**Права на працу, права на добрае жыццё (у сэнсе кватэра-машына-дача), права на заробак і пенсію — гэта тое, што праваабаронца Валянцін Стэфановіч трапна назваў «правам на выжыванне». Менавіта з гэтым «правам на выжыванне» ў міжнародных стандартах у нас ёсць вялікая праблема.**



Photo.ByMedia.Net

Гэтыя правы вызначаюцца Міжнародным пактам аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах (МПЭСКП). Ён не менш важны за Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека і Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах дакумент. Пакт быў прыняты Генеральнай Асамблеяй ААН у снежні 1966 года і ратыфікаваны БССР 13 лістапада 1973 года. Адпаведна, ягоныя палажэнні павінны прызнавацца Рэспублікай Беларусь як праваспераемніцай БССР.

## Права на багацце

Першы артыкул гэтага дакумента, як звычайна, абвяшчае права народаў на самавызначэнне. У сілу гэтага права народ павінен мець магчымасць свабодна вызначаць свой палітычны статус і забяспечваць сваё эканамічнае, сацыяльнае і культурнае развіццё. Але, у адрозненне ад «палітычных» дакументаў, у МПЭСКП разглядаецца эканамічны аспект самавызначэння.

У Пакце замацавана, што менавіта народ (а не ўлада) распараджаецца натуральнымі багаццямі і рэсурсамі. Акрамя таго, падкрэсліваецца, што народ не можа быць пазбаўлены належных яму сродкаў існавання.

Гэта палажэнне вельмі актуальнае для цяперашняй Беларусі. Дзяржава ў асобе групы чыноўнікаў зараз «прыхватызуе» народную ўласнасць і па меры неабходнасці прадае яе ці здае ў «ламбард» Расіі. Такія дзеянні павінны расцэньвацца як злоўжыванне ўладай, і гэта аўтаматычна цягне за сабой прызнанне такіх здзелак несапраўднымі.

У Пакце таксама на дзяржаву ўскладаецца абавязацельства «…прыняць у максімальных межах наяўных рэсурсаў меры да таго, каб забяспечыць паступова поўнае ажыццяўленне прызнаных гэтым Пактам правоў усімі належнымі спосабамі, уключаючы прыняцце заканадаўчых мераў».

Па выніках даследавання, праведзенага экспертамі швейцарскай арганізацыі «Credit Suisse», беларусы — адзін з самых бедных народаў Еўропы. Гэта сведчыць пра тое, што ўлада не выконвае перад грамадзянамі сваіх абавязкаў.

## Эканоміка перш за ўсё

Пактам замацоўваюцца ў асноўным тыя правы, пра якія кажа Лукашэнка. Гэта права на працу, уключаючы права кожнага на атрыманне магчымасці зарабляць сабе на жыццё працай, якую ён свабодна абірае або на якую ён свабодна згаджаецца; на справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы; на стварэнне прафсаюзаў і ўступленне ў такія па свайму выбару пры адзінай умове — выкананні правілаў арганізацыі; на страйк пры выкананні ўмоў, прадугледжаных законам.

Для рэалізацыі права на працу павінны быць распрацаваныя праграмы прафесійна-тэхнічнага забеспячэння і падрыхтоўкі, вызначаны шляхі і метады эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця і занятасці «ва ўмовах, якія гарантуюць асноўныя палітычныя і эканамічныя свабоды чалавека».

І што, гэта ў Беларусі выконваецца? Больш за 70% работнікаў у нашай краіне працуе па кароткатэрміновых кантрактах, а такія кантракты ставяць работнікаў у залежнасць ад наймальнікаў і не даюць магчымасці абараняць свае працоўныя правы.

Варта нагадаць, што кароткатэрміновыя кантракты былі ўведзеныя ў 1999 годзе на падставе прэзідэнцкага дэкрэта №29. Відавочна, што гэтыя дэкрэт супярэчыць артыкулу 41 Канстытуцыі (аб праве на працу) і Працоўнаму кодэксу, які забараняе пагаршаць становішча работнікаў. Да таго ж, нормы дэкрэта не адпавядаюць рэкамендацыям Міжнароднай арганізацыі працы, згодна з якім дзяржавы — чальцы МАП не павінны выкарыстоўваць тэрміновыя працоўныя дамовы, акрамя выпадкаў, калі гэта выклікана вытворчай неабходнасцю.

У дачыненні да некаторых працоўных, так званых «нядбайных бацькоў», дзяцей якіх утрымлівае дзяржава, выкарыстоўваецца прымусовая праца. Не варта забывацца і на «славуты» дэкрэт №9 аб забароне на звальненне з мадэрнізуемых прадпрыемстваў.

Захоўваецца інстытут двухгадовай адпрацоўкі выпускнікоў дзяржаўных ВНУ бюджэтнай формы навучання. Ухіленне ад працы па размеркаванні прыводзіць да спагнання з «маладых спецыялістаў» кошту навучання, — з улікам інфляцыі.

## Права на заробак

Артыкул 7 МПЭСКП патрабуе ад дзяржавы забяспечыць не толькі справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы, але і «справядлівую зарплату і роўнае ўзнагароджанне за працу роўнай вартасці без якога б там ні было адрознення».

Як вядома, узровень «справядлівай зарплаты» ў Беларусі вызначаны ў 500 амерыканскіх долараў, і ў цэлым па краіне ён дасягнуты. Праўда, у адных работнікаў заробак не дасягае і 200 долараў, а ў іншых — перавышае 1000. І ўзровень беларускіх заробкаў у некалькі разоў ніжэй, чым у суседняй Расіі, не кажучы ўжо пра Еўропу.

Чаму ўлада не можа забяспечыць сваім грамадзянам годны заробак, змушаючы іх шукаць «лепшай долі» ў іншых краінах? Адна з версій — таму, што не можа дазволіць развіццё эканомікі на рынкавых прынцыпах. Бо гэта паменшыць уплыў дзяржавы на эканамічныя адносіны, а значыць, і на грамадзян, якія цалкам могуць абыходзіцца без вялікага дзяржапарату.

## Прафсаюз — не кожнаму

Згодна з арт. 8 Пакта, для ажыццяўлення і абароны эканамічных і сацыяльных інтарэсаў дзяржава абавязана забяспечыць кожнаму работніку права ствараць прафсаюзы і ўступаць у іх па свайму выбару. Гэта — яшчэ адно «слабое звяно» ўладнай палітыкі. Маюцца сотні выпадкаў, калі сябры незалежных прафсаюзаў зазнаюць рэпрэсіі і звальненні за прафсаюзную дзейнасць. Разам з тым чыняцца і разнастайныя перашкоды для рэгістрацыі новых прафсаюзаў.

МАП неаднаразова разглядала сітуацыю з парушэннем правоў незалежных прафсаюзаў у Беларусі. У выніку да краіны былі ўжытыя санкцыі ў выглядзе пазбаўлення гандлёвых прэферэнцый. Нават нягледзячы на гэта, сітуацыя з правамі незалежных прафсаюзаў у Беларусі не змянілася, пра што сведчыць прыклад з праследам работнікаў прадпрыемства «Граніт». «Віна» іх толькі ў тым, што яны вырашылі стварыць свой прафсаюз у знак пратэсту супраць нізкай зарплаты і бяздзейнасці афіцыйнага прафсаюза.

## Ці сацыяльная дзяржава?

Да сацыяльных правоў Пакт адносіць права на сацзабеспячэнне, уключаючы страхаванне; на асаблівую ахову сям'і і мацярынства; на дастатковы жыццёвы ўзровень для самога работніка і яго сям'і; на найвышэйшы ўзровень фізічнага і псіхічнага здароўя і права на адукацыю.

Падавалася б, гэта ўсё якраз і ёсць «фішкі» Аляксандра Рыгоравіча. І што? Па дадзеных эканаміста Леаніда Злотнікава, у Беларусі 5,8 мільёна работнікаў утрымліваюць 2,5 мільёна пенсіянераў. Па прагнозах эксперта, хутка грошай не хопіць для выплаты пенсій, якія па міжнародных стандартах павінны складаць не менш за 40% ад сярэдняй зарплаты. Варта таксама звярнуць увагу на вялікую розніцу ў памерах пенсій работнікаў: ад пражытачнага мінімуму (каля 100 долараў) да некалькіх тысяч долараў. Зразумела, што такіх дыспрапорцыяў у пенсійным забеспячэнні быць не павінна.

Дзяржава павінна праяўляць асаблівы клопат пра сям'ю як «натуральную і асноўную ячэйку грамадства». Дапамога павінна давацца маці на працягу разумнага перыяду да і пасля родаў. Акрамя таго, мацеркам, якія працуюць, павінен прадстаўляцца або аплочваемы адпачынак, або адпачынак з дастатковай дапамогай.

Новы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей», (уступіў у сілу 1 студзеня 2013 г.), устанавіў, што пры нараджэнні першага дзіцяці працуючай маці выплачваецца аднаразовая дапамога ў памеры 10 бюджэтаў пражытачнага мінімуму (цяпер — 13 мільёнаў рублёў), а пры наглядзе за дзіцем да трох гадоў памер штомесячнай дапамогі складае 35% ад пражытачнага ўзроўню (каля 400 тысяч рублёў).

Вядома, замала. У Расіі аднаразовая дапамога пры нараджэнні дзіцяці складае прыкладна 650 долараў, затое мінімальны памер штомесячнай дапамогі па доглядзе за дзіцем каля 100 долараў. Да таго ж, пры дасягненні дзіцем трох гадоў сям'я можа разлічваць на мацярынскі капітал у 200 тысяч расійскіх рублёў.

Варта звярнуць увагу на артыкул 11 Пакта, які патрабуе ад дзяржавы прызнаць права кожнага «на дастатковы жыццёвы ўзровень для яго самога і яго сям'і, уключаючы дастатковае харчаванне, адзенне і жыллё, і на бесперапыннае паляпшэнне ўмоў жыцця». Падобная норма была ўключана ў новую рэдакцыю Канстытуцыі пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 года (ч.2 арт.21). Беларуская дзяржава пацвердзіла свае абавязацельства забяспечыць годны ўзровень жыцця грамадзян.

Што маем на самай справе? Пражытачны мінімум — на ўзроўні 1 мільёна рублёў, з 1 студзеня 2014 года штомесячны памер заробтнай платы — 1 660 000 рублёў. І на работніка, і на яго сям'ю, уключаючы выдаткі на харчаванне, адзенне і жыллё. Як можа сям'я з двух ці трох чалавек пражыць месяц на суму ў 150 долараў?

## Адукацыя — за грошы

У адпаведнасці з МПЭСКП, абавязацельства забяспечыць права кожнага на адукацыю ўскладаецца на дзяржаву. Пры гэтым адукацыя павінна быць скіравана на «поўнае развіццё асобы», «умацоўваць павагу да правоў чалавека і асноўных свабодаў» і павінна даць «магчымасць усім быць карыснымі ўдзельнікамі свабоднага грамадства».

Ну дзе вы бачылі ў нашай адукацыі ўмацаванне павагі да правоў чалавека і свабоднае грамадства? Хто будзе гэта ўмацоўваць — выкладчыкі ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці?

На сённяшні дзень Беларусь засталася адзінай у Еўропе краінай, якая не далучылася да Балонскага працэсу аб прызнанні еўрапейскіх стандартаў вышэйшай адукацыі. Замест пашырэння бясплатнай вышэйшай адукацыі ў нас пераважае платнае навучанне, цэны на якое пастаянна растуць. У нашых ВНУ няма акадэмічных свабодаў, у тым ліку свабоды самакіравання: рэктары ВНУ прызначаюцца і вызваляюцца ад пасады ў адміністрацыйным парадку, ледзьве не асабіста прэзідэнтам.

## Культура — вечны боль

У сферы культуры дзяржава павінна забяспечыць кожнаму права на ўдзел у культурным жыцці; на карыстанне вынікамі навуковага прагрэсу; а для поўнага ажыццяўлення культурных правоў дзяржава абавязана прымаць меры па ахове, развіццю і распаўсюджванню дасягненняў навукі і культуры.

У Беларусі на дзяржаўным узроўні выяўляецца непаважлівае стаўленне да беларускай гісторыі, культуры, мовы, гісторыка-культурнай, духоўнай спадчыны беларускага народа, іншых нацыянальных каштоўнасцяў. Пра гэта ўжо шмат казалася.

## Такім чынам…

Аналіз сітуацыі ў сферы эканамічных, сацыяльных і культурных правоў дазваляе сцвярджаць, што для іх рэалізацыі беларускія ўлады не стварылі належных умоў. Акрамя таго, яны гэтыя правы парушаюць.

*Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info.*

БІЗНЭС

# ЦІ ЗРОБЯЦЬ ПАЛЁГКУ ДЛЯ ІП?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА



**Мы чакалі, што чарговы прэзідэнцкі ўказ пра працу індывідуальных прадпрымальнікаў ізноў пагоршыць умовы іх жыцця. Але, як паведаміў старшыня Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Калінін, ІП могуць дазволіць наймаць працаўнікоў, якія не з'яўляюцца членамі іх сем'яў.**

## Ачомаліся?

Нагадаем, што забарона ІПэшнікам наймаць на працу каго-небудзь, акрамя членаў сям'і, таксама была ўведзеная прэзідэнцкім указам, які набыў моц 1 студзеня 2008 года. Гэты ўказ мог бы ўзначаліць рэйтынг самых непапулярных рашэнняў сярод прадпрымальнікаў, калі б такі рэйтынг складаўся. У Мінску ІПэшнікі збіраліся на мітынгі пратэсту. Галоўным з іх можна назваць мітынг 10 студзеня 2008 года, калі прадпрымальнікі не толькі накіравалі дэлегацыю ў Адміністрацыю прэзідэнта, а таксама і зладзілі несанкцыянаванае шэсце да Дому ўрада. Вынікам гэтага мітынгу была сумнавядомая «справа 14-ці»: 14 маладзёнаў былі асуджаныя па артыкуле 342 Крымінальнага кодэкса за «арганізацыю альбо актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак», да розных тэрмінаў абмежавання волі. Усе яны былі прызнаныя палітвязнямі.

Але галоўную страту панесла дзяржава. Як паведамляў у 2010 годзе лідар прадпрымальніцкага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка, за два гады абмежавання па найму работнікаў сектар індывідуальнага прадпрымальніцтва страціў амаль 65 тысяч працоўных месцаў, а дзяржава недалічылася падатковых паступленняў на мільёны рублёў. Па словах Шумчанкі, у 2007 годзе колькасць ІП павялічылася больш чым на 10%, а аб'ём падатковых паступленняў ад іх дзейнасці — на 23%. «У далейшым, пасля ўвядзення абмежаванняў па найму, штогадовы прырост колькасці прадпрымальнікаў не перавышаў 2,3%, нягледзячы на ўсе намаганні ўрада па лібералізацыі эканомікі і паляпшэнні дзелавога клімату», — канстатаваў кіраўнік аб'яднання. Падатковыя ж паступленні ў разлику на кожнага ІП скараціліся ў 2009 годзе ў параўнанні з 2006 годам амаль на 28% у пераліку на еўра.

## Запозна спахапіліся

Прадпрымальнікі ўжо сёмы год жывуць без наёмных працаўнікоў. Некаторыя прызвычаіліся весці бізнэс у такіх умовах. Для некага, канешне, важна, каб ён атрымаў дапамогу ў сваёй дзейнасці, але для большасці зараз важней іншае.

Як кажа той жа Шумчанка, зараз ідзе своеасаблівы «гандаль», які можа «пахаваць» увесь сэнс найму працоўных індывідуальнымі прадпрымальнікамі. «Наколькі я ведаю, нам прапануюць тры наёмных працаўнікі для тых ІП, хто працуе па спрошчанай схеме падаткаабкладання. Такім прадпрымальнікам увогуле лепш перайсці ў стан прыватнага унітарнага прадпрыемства, і тады ў іх будзе права наймаць працоўных. Для ІПшнікаў — плацельшчыкаў адзінага падатку пакуль планууецца дазволіць наймаць толькі аднаго чалавека. Навошта гэта? Давайце ўжо зробім роўнымі ўсіх ІП», — лічыць Шумчанка.

Акрамя таго, зараз улада імкнецца правесці своеасаблівы абмен: дазволіць наймаць ІПшнікам працоўных толькі пры ўмове, каб гэтыя ІПшнікі пагадзіліся з патрабаваннем мець суправаджальныя дакументы на тавар. «А мець суправаджальныя дакументы на тавар немагчыма, бо іх нідзе не выдаюць, мы іх знайсці не можам», — кажа Шумчанка. Такім чынам, па яго словах, губляецца сэнс найму працоўных. «Прадпрымальнік не можа знайсці суправаджальныя дакументы на тавар, і значыць, што легальна ён гандляваць гэтым таварам не можа. А калі ён не можа працаваць, навошта яму наёмныя работнікі?» — задаецца пытаннем Шумчанка.

«Наша галоўная праблема зараз — давесці да ўраду, што суправаджальныя дакументы і дакументы па якасці тавару, яго адпаведнасць тэхрэгламенту Саюзнай дзяржавы павінны быць не ў прадпрымальніка, а ў вытворцы і ў першага пастаўшчыка. Мы — рэалізатары прадукцыі. І чаму ў Расіі ў прадпрымальнікаў такіх дакументаў не патрабуюць, а ў нас патрабуюць? Калі іх няма ў расійскіх прадпрымальнікаў, адкуль яны возьмуцца ў нас?» — кажа лідар аргкамітэту па стварэнні прадпрымальніцкага прафсаюза «Разам» Ірына Яскевіч.

Пытанне ж найму працоўных — пытанне ўжо другаснае. «Калі мы разам з уладаю не разбярэмся з гэтымі дакументамі, з гэтымі патрабаваннямі, то нам не толькі не давядзецца наймаць новых працоўных — нам свой бізнэс згортваць прыйдзецца. Таму што працаваць стане немагчыма», — адзінадушна з Шумчанкам кажа Яскевіч.

Так што пытанне наёмных працоўных зараз — не самая галоўная праблема. Сапраўды, калі прадпрымальнікі не змогуць працаваць, навошта ім наёмныя рабочыя?

## Ці будзе так?

Варта заўважыць, што права наймаць працоўных усяго толькі закладзена ў праект указа. І гэта зусім не азначае таго, што ўсё гэта будзе падпісана кіраўніком дзяржавы і прынята да дзеяння. Прадпрымальнікі з 2008 года спрабуюць давесці, што забарона наёмных працаўнікоў для ІП — справа дурная. Але за сем год спробы неяк паўплываць на меркаванне дзяржавы нічым не скончыліся.

Прычым, прадпрымальнікі і лабісты іх інтарэсаў дзейнічалі вельмі рознымі шляхамі, спрабуючы «прадавіць» сваё рашэнне. Напрыклад, у 2010 годзе быў падрыхтаваны праект указа прэзідэнта аб вяртанні наёмных работнікаў ІПшнікам. Праект указа быў «палавінчаты», і меў на ўвазе толькі часовае вяртанне «наёмнікаў» — да 31 снежня 2012 года. Абгрунтоўваўся ён тым, што, калі б хаця б траціна прадпрымальнікаў будзе ў стане наняць сабе працоўных, у Беларусі створыцца каля 200 тысяч новых працоўных месцаў. Да таго ж, прадпрымальнікі спадзяваліся на абвешчаную тады ў краіне «лібералізацыю» і меркавалі, што «эканамічная лібералізацыя» спрацуе хоць у такім варыянце. Але ўлада не пайшла нават на гэта.

У 2013 годзе права ІПшнікам наймаць працоўных паспрабавалі «прасунуць» праз нацыянальную платформу бізнэсу Беларусі. Падчас разгляду платформы рознымі інстанцыямі гэтае пытанне актыўна абмяркоўвалася і пастаянна змянялася. У выніку ідэю вярнуць ІП права наймаць супрацоўнікаў не з ліку блізкіх сваякоў не падтрымала Адміністрацыя прэзідэнта. Намеснік кіраўніка АП Андрэй Тур на пасяджэнні Саўміна выказваўся супраць пашырэння паўнамоцтваў ІП.

Новы варыянт прэзідэнцкага ўказа, які будзе рэгуляваць прадпрымальніцкую дзейнасць, павінен быць дапрацаваны праз месяц. Але, зыходзячы з вышэйвыкладзенага, зусім не варта чакаць, што ў ім будзе дазвол ІПшнікам наймаць працоўных не з ліку сваякоў. І, да таго ж, у прадпрымальнікаў багата іншых праблемаў, перад якім праблема найму працоўных проста блякне.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ПАТРЭБНЫ АНАЛІЗ



**На календары сакавік, хуткая пасяўная і завяршэнне першага квартала. Чыноўнікі павінны даваць справаздачу, а гаспадарская праца ў краіне пасля калядных свят, лічы, не пачыналася.**

Усе думаюць, што рабіць. Прычым, начальства думае, што ім рабіць, падначаленыя — што яны нам скажуць.

Як паведаміў Белстат, знешняя бягучая дэбіторская запазычанасць склала 39 трыльёнаў рублёў, або 4,2 мільярда долараў. То бок за адгружаную прадукцыю шмат хто не разлічыўся. Вось і атрымліваецца, што, з аднаго боку, грошы быццам бы ёсць, а з іншага — няма.

А банкі, якія добра ведаюць сітуацыю, пазычаць грошы прадпрыемствам на зарплату не спяшаюцца. Толькі з дазволу вышэйшага начальніка, каб, крый Бог, каго з банкіраў не пасадзілі. Карацей, калі кіраўніку краіны патлумачылі, чаму, што і да чаго, і чаму грошай нават на заробкі няма, то патрабаваў разабрацца і судзіць тых, хто бяздарна мяняе шыла на мыла.

Але кіраўніку падказалі, трэба разгрузіць склады, бо асобныя вырабы ўжо пагнілі, а асобныя мышы паелі. А яны да гэтага часу лічацца высакаякаснымі. Карацей, за гэту справу ўзяўся сам Мясніковіч. І загадаў прадаваць ніжэй за сабекошт. Мясніковіч патлумачыў, што ў дадзенай сітуацыі важней пазбавіцца ад неліквіднай прадукцыі, сэканоміць на складскіх выдатках, і, магчыма, нейкую капейчыну атрымаць. Таму што нехта нешта заплаціць абавязкова.

Здаецца, усё правільна: калі спажывец адмаўляецца ад дарагіх тавараў, то трэба рабіць зніжкі. Для кожнага бізнэсоўца, хоць вытворцы, хоць гандляра — гэта ісціна. Таму ў прыватным сектары няма такіх вялізных запасаў, і рэгулярна ладзяцца распродажы.

Знакамітыя міравыя брэнды плануюць і разлічваюць вытворчыя праграмы, каб не выпусціць машын болей, чым гэта трэба для прыбытковых продажаў. Зусім не так, як у сучаснай Беларусі. Прыкладам, у Жодзіна складскія запасы на прадпрыемствах (перш-наперш на БелАЗе) склалі 4,1 сярэднемесячных аб'ёмы вытворчасці. Вось вам і планаванне, і «агрэсіўны маркетынг». Гэта ж кар'ерныя самазвалы, а не дамскія сумачкі. Паспрабуй прадаць іх па заніжаных коштах ды атрымаць выручку, дастатковую для аднаўлення вытворчага працэсу. У завода свае аргументы, у міністра прамысловасці свае, у прэм'ера свае, у кіраўніка краіны свае. І кожны б'е сябе ў грудзі, паказваючы, як паважае сваю дзяржаву.




Але чамусьці нічога добрага ад гэтага не атрымліваецца. Колькі грошай куды не ўкладай — толку ніякага. А можа таму, што больш даюць грошай тым, то нічога не робіць? Возьмем да прыкладу эканоміку Мінска, дзе за год аб'ёмы прамысловай вытворчасці скараціліся на 15,6%, запасы гатовай прадукцыі павысіліся да 98% сярэднемесячнага аб'ёма вытворчасці, а знешнегандлёвае сальда склалася адмоўнае ў памеры 2,5 мільярда долараў. У 2012 годзе сальда было дадатным у памеры 1,4 мільярда долараў. Такім чынам, за год знешнегандлёвы дэфіцыт «прасеў» амаль на 4 мільярды долараў.

І гэта пры тым, што адмоўнае сальда ў цэлым па народнай гаспадарцы склала да 4,7 мільярда долараў. Коштам такіх ігракоў, якія лічацца вядучымі для эканомікі: мазырскі і наваполацкі НПЗ, сальда якіх склалася мінусавым у памеры 4 мільярда долараў. Значна лепшы было становішча ў Гродзенскай ды Брэсцкай абласцях, ды на такіх прадпрыемствах, як БМЗ, які мае пастаяннае і дадатнае знешнегандлёвае сальда.

Хто стабільна дае краіне валюту, дык гэта салігорскія шахты. Нават у мінулым годзе сальда атрымана дадатнае, хоць уласнікі руднікоў не далі шахцёрам працаваць спакойна.

Вось і глядзіце. У мінулым годзе ў эканоміку Салігорска ўкладзена 5,8 трыльёна рублёў, у эканоміку Мінска — 45,4 трыльёна рублёў. Відавочна, што сітуацыя склалася палярная. У Мінск грошы ўкладваюцца — з гарадскога і рэспубліканскага бюджэту, з уласных крыніц прадпрыемстваў, ад айчынных і замежных інвестараў і па іншых каналах — у памеры амаль 1/5 усіх інвестыцый краіны, але чаканага эканамічнага эфекту як не было, так і няма. «Беларуськалій», наадварот, пакуль больш аддае, чым ад дзяржавы атрымлівае.

Чаму так адбываецца? Патрэбны аналіз.

ВЫЖЫВАЕМ

# З-ЗА ЗАРОБКАЎ ПРЭСТЫЖ МНС МОЦНА ЎПАЎ



У студзені 2014 года супрацоўнікі МНС краіны выязджалі на ліквідацыю пажараў

**2502**

разы, на аказанне дапамогі і ліквідацыю наступстваў надзвычайных сітуацый 2504 разы. Было ўратавана 68 чалавек

Вольга ХВОІН

**«Службы дурачок, атрымаеш значок», — гэты выраз я пачула ад некалькіх прадстаўнікоў высакароднай і рызыкоўнай прафесіі. Як разыходзяцца чаканні і рэальнасць работнікаў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях — у расповедзе з першых вуснаў.**

Дзмітрый (імя зменена) — былы баец атраду МНС з Гомеля. Адпрацаваўшы ў атрадзе восем год, ён звольніўся. Маўляў, рамантыка прафесіі разбілася аб разліковы ліст, дадатковыя абавязкі, падпрацоўкі і вымушаную маўклівую паслухмянасць.

— Заробак у шарагових супрацоўнікаў МНС, ці байцоў, залежыць ад стажу, то бок выслугі гадоў. Праз пяць гадоў ідзе надбаўка 20%, праз 10 гадоў — 30%. Майстар-ратавальнік у маім атрадзе, калі працуе ў МНС менш за дзесяць гадоў, атрымлівае на рукі каля 4,5 мільёна рублёў. Гэта мала. Бывае, знаёмішся з дзяўчынай, гаворыш, што працуеш у МНС, і яна думае, што зарабляеш 8–9 мільёнаў рублёў. А ў сапраўдныя лічбы не верыць...

***— І адразу сыходзіць....***

— Кшталту таго. Але, з іншага боку: знаёмая настаўніца атрымлівае 1,8 мільёна рублёў, супрацоўніца ў дзіцячым садку 2,5 мільёна. Дык атрымліваецца, што ў МНС і някепскі заробак. Пасля дэвальвацыі 2011 года заробак у нас упаў ніжэй плінтуса: мы да гэтага атрымлівалі блізу 500 долараў і раптам — 150. У краме грузчыку тады прапаноўвалі 3,7 мільёна рублёў, прыбіральшчыцы — ад 2,5, а мы атрымлівалі па 2,5 мільёна рублёў.

***— Ці многа ў той перыяд сышло ад вас людзей?***

— У штаце ў нас працавалі 116 чалавек. За год тады прыкладна 30 чалавек звольніліся і на іх месца набралі маладых. Большая частка нашых былых супрацоўнікаў з'ехалі на будоўлі ў Расію.

***— Чым кіруюцца маладыя людзі, калі прыходзяць на працу ў службу ратавання?***

— Я думаю, большасць хлопцаў пасля войска ідзе ў МНС з-за прэстыжу. Яны звычайна ходзяць на працу па форме, каб «рысануцца», хаця ў нас ёсць персанальныя шафы і можна пераапрануцца на месцы. *(Смяецца)*

***— А што тады трымае на не самай высокааплатнай працы сур'ёзных дзецюкоў з сем'ямі?***

— Галоўны аргумент: праз год пяць-сем ім на пенсію. Ён будзе атрымліваць пенсію каля 3,5 мільёна на цяперашні час. І можна дадаткова працаваць. Большасць шукае працу ахоўнікаў, дзяжурства па сутках. Начальства звычайна імкнецца шукаць месцы намеснікамі дырэктараў у розных фірмах. Простыя ж байцы як былі рабацягамі, так ім і застаюцца.

***— На што хапае заробку, у чым даводзіцца сабе адмаўляць?***

— Я жыву адзін, за інтэрнат плачу 150 000, у мяне сем хрэснікаў, і як трапіцца дзень народзінаў аднаго, то трэба мінімум 500 тысяч выдаткаваць з заробку, тысяч трыста вылічваем на «пагулянь». Я пабудаваў кватэру, і ў мяне пазыка ў шэсць тысяч долараў, то аддаю яе з заробку. Вопратка. Дарагую, добрую шмотку я не магу сабе дазволіць. Я б хацеў апранацца ў фірмовых спартовых крамах кшталту Adidas. Але там кошты ў разы большыя за рынак, таму застаецца апошні варыянт.

Што тычыцца харчавання то, натуральна, ніякіх выкшталцоных страў і прадуктаў. Я набываю пасля заробку кілаграмы два курынага фаршу, дзялю яго на часткі і потым запякаю ў гаршчку бульбу, цыбулю, гэты фарш. Ялавічыну, свініну ў выглядзе мяса не набываю. Але на абед, калі дзяжурыў на сутках, браў сала. Боршч з капустаў, сала, цыбуля. Вось такі абед.

***— Твае калегі таксама стэйкамі не абедаюць?***

— Не, ніхто не жыруе. Мае старэйшыя калегі ўвогуле вельмі ашчадна ставяцца да грошай, жывуць як куркулі, усё лічаць.

З-за нізкага заробку прэстыж МНС моцна ўпаў. Я працаваў да гэтага на заводзе, і праца ў МНС аплачвалася вышэй, графік дзяжурства па сутках быў прывабны. Цяпер вялікая цякучка кадраў. Сталыя людзі амаль не прыходзяць. Прыходзіць малады хлопец, навучыш яго ўсяму, а праз два-тры гады ён звальняецца.

Раней нам было забаронена легальна падпрацоўваць. Калі заўважалі некага на падпрацоўках, то звальнялі пасля другога папярэджання. Цяпер дазволілі: маладыя камандны састаў і шарагоўцы могуць мець другую працу. Працэнтаў 80 ідуць у таксісты, будаўнікі. Калі я ўладкоўваўся на працу, на адно месца прэтэндавалі да сарака чалавек. Іх адпраўлялі на медкамісію і потым ацэньвалі патэнцыйных кандыдатаў, іх навыкі і таленты. Напрыклад, майстар спорту меў дадатковы плюсік. Цяпер жа шукаюць супрацоўнікаў ледзьве не праз абвесткі, гэта асабліва тыпова для раёнаў.

***— Вы — такія сур'ёзныя дзядзькі і не можаце паўплываць на сваё кіраўніцтва, дамагчыся паляпшэння ўмоў працы, большага заробку?***

— Паводле заканадаўства, нам забаронена ўдзельнічаць у мітынгах, ніхто ніколі не скажа лішняга слова, бо ёсць вертыкальная сістэма падпарадкавання. Нават калі прыязджаў міністр МНС, нас загадзя збіраў зампаліт, хацеў пачуць, якія пытанні мы збіраемся задаваць.



**Міністр па надзвычайных сітуацыях Беларусі Уладзімір Вашчанка:**

— Змена кадраў — пастаянны працэс. Сярэдні некамплект ратавальнікаў па сістэме сёння складае 5,2 працэнта. Гэта зусім не крытычны паказчык, а ўвязваць яго толькі з заробкамі не зусім карэктна: радавы і малодшы начсастаў у вольны ад працы час цяпер можа працаваць па сумяшчальніцтве. Мы ўвесь час вядзем працу па павелічэнні грашовага ўтрымання нашых работнікаў.

***— А калі ты «несанкцыянавана» спытаеш у міністра пра набалелае, што будзе?***

— Ён з'едзе і спытае потым у майго начальніка, што за такі нахабны баец завёўся ў атрадзе. Дадуць вымову. А гэта значыць, што прэміі ў памеры прыкладна аднаго мільёна рублёў табе не пабачыць, пакуль вымову не здымуць. Таму ніхто ніколі нічога лішняга не скажа, бо кіраўніцтва задавіць. Неяк я нешта ляпнуў у кантэксце прэзідэнцкіх выбараў, дык наш зампаліт пагражаў ледзьве не расстрэльным артыкулам. Сілавымі структурамі дзяржаве ўвогуле лёгка кіраць, бо ёсць ціск зверху, ёсць заняткі па ідэалогіі.

***— Якія недахопы ў працы ў МНС?***

— У нас у разліковым лісце ёсць графа «за асаблівыя ўмовы службы» — маецца на ўвазе трохзменны рэжым працы. Але сапраўднымі мінусамі я б назваў нервовасць, давесак іншай працы, неаплочваемыя перапрацоўкі. Напрыклад, некалькі гадоў мы сваімі сіламі рабілі капрамонт: клалі плітку, рабілі сцены, падлогу. Здаралася, што робіш нешта, увесь у пабелцы, брудны. І тут сігнал трывогі, то бок трэба бегчы і пераапранацца на выклік, і вось следам за табою начальнік ідзе і крычыць, каб не забыўся дарабіць свой кавалак рамонту, як вернешся. І не важна, калі і наколькі стомлены прыедзеш у частку, хадзілі на гэтую будоўлю як рабы, працавалі бясплатна. А як некаму нешта не падабаецца, то начальства гаворыць, што ніхто нікога не трымае.

Наша змена, суткі з васьмі да васьмі. Але рэальна мы сыходзім дадому прыкладна каля дзявятай раніцы. Гадзіна неаплочанага часу. І колькі яго набягае за гады?

Што тычыцца стрэсу ад убачанага, то прыязджаеш на аварыю, машынальна адпрацоўваеш. А назаўтра, наступныя дні, здараецца, і пракручваеш гэта ў галаве, бывае, нават сніцца.

***— У вас ёсць штатныя псіхалагі? Яны працуюць з вамі ці толькі гарбату п'юць?***

— Так. Гарбату. Я памятаю адзін выпадак працы псіхолага: чалавек пасварыўся з начальнікам, і той адправіў яго да псіхолага.

***— Які б заробак цябе задаволіў і дазволіў бы пачувацца годна?***

— Дзве тысячы долараў было б ідэальна (пасміхаецца), а калі марыць больш набліжана да нашых умоў, то тысяча.

***— Ці прывабны для працы Мінск?***

— У сталіцы ёсць невялікая даплата. Раней хацеў пераехаць у Мінск, але кошт арэнды жытла і гэтая невялічкая даплата несувымерныя. Ведамасная жытла ў МНС — мізэр. Напрыклад, на ўвесь Гомель мо пакояў дзесяць. Я арандую свой пакой у інтэрнаце ад «Гомсельмашу».

***— Супрацоўнікі МНС з'язджаюць у Расію, каб уладкавацца ў мясцовую службу ратавання?***

— Там ёсць розныя падраздзяленні ратавальнікаў. Напрыклад, атрады, якія займаюцца пошукам зніклых людзей: можна выйсці на працу і месяц недзе ў гарах правесці. У іх сур'ёзная падрыхтоўка. Мой прыяцель спрабаваў туды ўладкавацца. Сказалі яму чакаць, вось і чакае ўжо гады тры. У звычайнай «пажарцы» заробак не фантан. Так што нашы, калі і едуць працаваць у Расію, то на шабашкі.



**З абвестак:**

Ленінскі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях Мінска шукае кандыдата на пасаду «пажарны-ратавальнік». Узровень заробку 4,5 мільёна рублёў. Досвед працы не патрабуецца.

Міністэрства дэкларуе наступныя ўмовы службы і сацыяльныя гарантыі:

- Графік працы: суткі праз двое.
- Забеспячэнне форменным абмундзіраваннем.
- Штогадовы аплачваемы адпачынак працягласцю 30–45 дзён у залежнасці ад выслугі гадоў.
- Выхад на пенсію па дасягненні 45-гадовага ўзросту або 20 гадоў выслугі.
- Санаторна-курортнае лячэнне.
- Магчымасць працягу адукацыі ў вышэйшых навучальных установах МНС.
- Магчымасць ільготнага крэдытавання пакупкі і будаўніцтва жылля (у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам).

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 3 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Рамантычная камедыя «Два дні».
**12.10** Клуб рэдактараў.
**12.55** Меладрама «Пара гнядых» (Расія).
**14.45** Нашы.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Баявік «Аднойчы ў Мексіцы» (ЗША).
**17.20** Нашы.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Крымінальны баявік «Прафесіянал» (ЗША).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** Наша раніца.
**09.05** Контуры.
**10.05** Жыць здорава!
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** У наш час.
**12.05** Яны і мы.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** Сам-насам з усімі.
**16.15** Зразумець. Прабачыць.
**16.55** Давай пажэнімся!
**18.20** АНТ прадстаўляе: Зваротны адлік.
**19.00** Чакай мяне.
**20.00** Час.
**21.05** АНТ прадстаўляе: Ток-шоў Пазіцыя.
**22.05** АНТ прадстаўляе: Цырымонія ўручэння прэміі Оскар - 2014.
**00.25** АНТ прадстаўляе: фільм «Сотавы».
**02.05** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мiншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.25** «ХораШоў». Паўфінал.
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.35** «Не хлусі мне!».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Мiншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.15** Дзённік «ХораШоў».
**20.20** Фільм «Смерць у эфіры» (ЗША).
**22.15** «Глядзець усім!».
**23.00** «Ваенная таямніца».

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Кат» (Расія).
**10.05** Навіны надвор'я.
**10.40** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.50** Серыял «Ластаўчына гняздо».
**13.55** Імперыя песні.
**14.25** «Доктар Клоўн». Дак. фільм.
**14.35** Прыгодніцкі фільм «Таямніца Ягора ці Незвычайныя прыгоды звычайным летам» (Расія).
**16.20** «Перазагрузка». Маладзевае ток-шоў.
**17.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Кат» (Расія).
**18.55** Прэм'ера. Драматычны серыял «У кожнага свая вайна» (Расія). 1-2 серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Прэм'ера. Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). 1-3 серыі.
**23.05** Меладрама «Нахабніца» (Украіна). 1-я серыя.
**00.05** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**00.55** «Перазагрузка». Маладзевае ток-шоў.
**01.40** «Час. Кіно. Жыццё». Дак. фільм.

**БЕЛАРУСЬ 3**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.50, 15.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.55, 15.05, 17.05, 00.30** «Энцыклапедыя беларускага спорту».
**08.15** «Галасы з мінулага».
**08.25** Дзіцячы фільм «Без сына не прыходзь».
**09.45** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.10** Серыял. «Мегрэ».
**11.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці харавога дырыжора і педагога А.Кагадзеева.
**11.35** «Разам са сваёй краінай». Канцэрт.
**13.05** «Галасы з мінулага».
**13.10** «Сівая легенда Уладзіміра Караткевіча». Дак. фільм.
**13.45** «Гісторыя адной фатаграфіі». Дакументальны фільм.
**14.05** «Скарбніца Міншчыны».
**14.30** «Карані».
**15.15** «Галасы з мінулага».
**15.25** «Дойлiды горада Сонца». Дакументальны фільм пра архітэктуру савецкага авангарду 20-х гадоў мінулага стагоддзя.
**15.50** «Сінематэка». Метафізіка кіно. Творчасць кінарэжысёра Валерыя Рыбарава.
**16.35** «Настальжы». Творчасць спевака Віктара Вуячыча.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.15** «Галасы з мінулага».
**17.25** «Плошча мастацтваў». Манументальныя дэкоры Валерыя Даўгяла.
**17.50** «Падарожжа са смакам». Вострaў Святога Марціна.
**18.20** «Адлюстраванні». Мадоны Максіма Багдановіча.
**18.45** «Пра тое, як Колька і Пецька ляталі ў Бразілію». Кароткаметражны фільм.
**19.10** «Імгненні музейнай цішыні». Дак. фільм.
**19.30** «Цуды прыроды». Емен. Аман. Індыйскі акіян.
**20.00** Серыял «Герой нашага часу». 1 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.25** «Сямёра адважных». Мастацкі фільм.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці харавога дырыжора і педагога А.Кагадзеева.
**00.20** «Калейдаскоп».
**00.40** «Галасы з мінулага».

**НТВ**

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.07** Цуд тэхнікі.
**08.41** Новыя рускія сенсацыі.
**09.38, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.59** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.23** Справа лекараў.
**15.11** Гатуем.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.38** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.36, 20.15, 21.20, 22.10** Марскія д'яблы. Віхраслуп-2.
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.31, 00.29** Дзікі-3.

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Праграма «Беларусь сёння».
**08.15, 09.00** Маст. фільм «М+Ж».
**10.00** Маст. фільм «Конік».
**11.30** Праграма «Наша марка».
**12.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Фільм «У свеце мінулага».
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Беларусь сёння».
**23.35** Ток-Шоў «Слова за слова».
**00.25** Праграма «Агульны інтарэс».
**00.50** Маст. фільм «Конік».
**02.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**04.00** Тэлесерыял «Монтэкрыста».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 12.05** ПраСвет.
**07.25, 13.00** Зона «Свабоды».
**08.00, 13.40** Форум: Нам засталася спадчына.
**08.45, 12.30** Два на два: Алена Анісім і Вінцук Вячорка: Спроба рэвізіі Закону аб геаграфічных назвах – каму выгодна?
**09.20** Дакументальная гадзіна: «Кропка апоры», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**10.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.20, 18.00** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 5 серыя.
**14.25** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**15.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.25** «Школа плоцi», маст. фільм, 1998 г., Францыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45, 02.25** Відзьмо-невідзьмо.
**22.10** «Школа плоцi», маст. фільм, 1998 г., Францыя.
**23.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.20** Асабісты капітал.
**01.40** Аб'ектыў.
**02.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 4 САКАВІКА, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка»
**11.00** Меладрама «Другое дыханне».
**12.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Святочны канцэрт, прысвечаны Дню міліцыі.
**23.25** Сфера інтарэсаў.
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** Наша раніца.
**09.05** Жыць здорава!
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** У наш час.
**12.05** Яны і мы.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** Сам-насам з усімі.
**16.15** Зразумець. Прабачыць.
**16.55** Давай пажэнімся!
**18.20** Смешнае і яшчэ смешней.
**18.50** Хай кажуць.
**20.00** Час.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. Шматсерыйны дэтэктыў «Чорныя коткі».
**23.15** Фільм «Забіраючы жыцці».
**01.00** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мiншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** Дзённік «ХораШоў».
**09.05** «Ежа багоў».
**10.00** «100 адсоткаў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** Дзённік «ХораШоў».
**11.40** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Псіхааналітык» (ЗША, 2009 г.).
**15.50** Дзённік «ХораШоў».
**15.55** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Мiншчына».
**17.30** Дзённік «ХораШоў».
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дзённік «ХораШоў».
**20.20** Фільм «Наша вар'яцкае жыццё».
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Кат». Закл. серыя.
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.55** Драматычны серыял «У кожнага свая вайна» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.00** Меладрама «Нахабніца». 1-я серыя.
**15.05** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). 1-я - 3-я серыі.
**16.35** Вышэй за дах.
**17.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Серыял «Кат» (Расія). Закл. серыя.
**18.55** Драматычны серыял «У кожнага свая вайна» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). 4-я - 6-я серыі.
**23.05** Меладрама «Нахабніца». 2-я серыя.
**00.05** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**00.55** Хакей. КХЛ.

**БЕЛАРУСЬ 3**

**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.20, 15.05, 17.05, 00.40** «Энцыклапедыя беларускага спорту».
**08.15** Серыл «Герой нашага часу». 1 серыя.
**09.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**09.30** Серыял. «Мегрэ».
**10.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака-пастаноўшчыка, сцэнографа Ю. Тура.
**10.45** «Сямёра адважных». Мастацкі фільм. 1-я - 2-я серыі.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.30** «Камертон». Джазавы мультыінструменталіст і кампазітар Давід Галашчокін.
**13.00** «Цуды прыроды». Ізраіль.
**13.25** «Сямейны альбом». Народны артыст СССР Аркадзь Саўчанка.
**13.40** «Кола». Кароткаметражны фільм.
**14.00** «Роднае слова». Янка Лучына.
**14.35** «Скарбніца Гомельшчыны». Сімволіка разьбянога дэкору.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.15** «Падарожжа са смакам». Крыт.
**15.45** «Музеум». Слуцкія паясы.
**16.05** «Лабірынты». Прывіды старасвецкай Лошыцы.
**16.35** «Свет прыроды». У краі чорных бяроз.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.20** «Палескі пачастунак». Дранікі.
**17.35** «Лісты з вайны». Дак. фільм.
**18.05** «Наша спадчына». Фрэскавыя роспісы Мсціслава.1-я - 2-я часткі.
**18.35** «Карані».
**19.00** «Росчырк часу». Мастак А. Літвін.
**19.15** «Сінематэка». Другое нараджэнне. Беларускія фільмы 40-х - 50-х гадоў.
**20.00** Серыял «Герой нашага часу». 2 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.25** «Паляванне на апошняга жураўля». Мастацкі фільм.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака-пастаноўшчыка, сцэнографа Ю.Тура.
**00.35** «Калейдаскоп».

**НТВ**

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.08** Цуд тэхнікі.
**08.43, 09.20, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.59** Да суда.
**11.58** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.12** Справа густу.
**15.39** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.36, 20.15, 21.21, 22.10** Марскія д'яблы. Віхраслуп-2.
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.32, 00.29** Дзікі-3.

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Праграма «Агульны інтарэс».
**08.15, 09.00** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**10.00** Маст. фільм «Двое ў новым доме».
**11.30** Праграма «Зроблена ў СССР».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Фільм «У свеце мінулага».
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.10** Праграма «Саюзнікі».
**23.40** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.30** Маст. фільм «Двое ў новым доме».
**02.00** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.40** Тэлесерыял «Монтэкрыста».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 09.20, 12.25, 14.50, 23.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40, 15.10** Відзьмо-невідзьмо.
**10.10, 15.40** Два на два (тэледыскусія): Алена Анісім і Вінцук Вячорка: Спроба рэвізіі Закону аб геаграфічных назвах – каму выгодна?
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тамаш Зан.
**10.55** «Дом», серыял: 25 серыя.
**14.00** Асабісты капітал.
**14.25** Аб'ектыў.
**16.10** «Дом», серыял: 25 серыя.
**17.45** «Кропка апоры», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Ціўкі».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.40** Без межаў.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Чорным па белым: «Мода на святы».
**22.10** «Лонданцы», серыял: 8 серыя.
**22.55** Форум: Нам засталася спадчына.
**01.25** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**01.45** Аб'ектыў.
**02.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма): «Мода на святы».

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 5 САКАВІКА, СЕРАДА

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Слова Мітрапаліта Т. Кандрусевіча.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.05** Меладрама «Ластаўчына гняздо» (Расія). 1-я серыя.
**12.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**14.05** Дак. цыкл «Без права на дубль».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** Наша раніца.
**09.05** Жыць здарова!
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** У наш час.
**12.05** Яны і мы.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** Сам-насам з усімі.
**16.15** Зразумець. Прабачыць.
**16.55** Давай пажэнімся!
**18.20** Смешнае і яшчэ смешней.
**18.50** Хай кажуць.
**20.00** Час.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. Шматсерыйны дэтэктыў «Чорныя коткі».
**23.15** АНТ прадстаўляе: Фільм «Законапаслухмяны грамадзянін».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00, 11.35, 15.40, 17.30, 20.15** Дзённік «ХораШоў».
**09.05** «Вам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.40** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Наша вар'яцкае жыццё».
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.20** Фільм «Каханне са слоўнікам» (ЗША - Францыя - Японія, 2007 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Дзень гневу». 1-я серыя.
**10.10** «Пад грыфам «Вядомыя».
**10.45** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**14.00** Меладрама «Нахабніца». 2-я серыя.
**15.00** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). 4-я - 6-я серыі.
**16.40** Рэпарцёр.
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Серыял «Дзень гневу». 1-я серыя.
**18.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**20.50** Рэальны свет.
**21.20** «Спортлато 5 з 36».
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). 7-я - 9-я серыі.
**23.10** Меладрама «Нахабніца». 3-я серыя.
**00.05** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.25, 15.00, 17.00, 21.05, 00.25** «Калейдаскоп».
**08.05** «Размовы пра духоўнае».
**08.15** Серыял «Герой нашага часу». 2 серыя.
**09.00** «Загадкі дзеда Кандрата». Дак. фільм пра творчасць Кандрата Крапівы.
**09.30** Серыял. «Мегрэ».
**10.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанай артысткі БССР Т.Міянсаравай.
**10.45** «Паляванне на апошняга жураўля». Мастацкі фільм.
**12.30, 15.10, 17.05, 00.35** «Энцыклапедыя беларускага спорту».
**12.40** «Размовы пра духоўнае».
**12.50** «І толькі адна я яшчэ веру...» Дакументальны фільм.
**13.10** «Росчырк часу». Бернардзінскія кляштары.
**13.25** «Падарожжа са смакам». Дамініканская рэспубліка.
**13.55** «Телеверсты». Прафесія - рэжысёр.
**14.25** «Сёння. Аляксей Дудараў». Фільм-партрэт вядомага драматурга.
**15.15** «Размовы пра духоўнае».
**15.25** «Лабірынты». Першадрукар Іван Фёдараў.
**15.55** «Незнаёмая песня». Кароткаметражны фільм.
**16.25** «Адлюстраванні». Леў Сапега.
**16.45** «Палескі пачастунак».
**17.15** «Размовы пра духоўнае».
**17.25** «Скарбніца Міншчыны». Гісторыя, культура і архітэктура мястэчка Даўгінава.
**17.55** «Цуды прыроды». Шатландыя. Байкал. Андалузія.
**18.20** «Карані».
**18.50** «Камертон». Расійскі джазавы, класічны і эстрадны саксафаніст Г.Гаранян.
**19.20** «Цуд-волаты». Дакументальны фільм пра ўзбраенне і абмундзіраванне рускай арміі пачатку XIX стагоддзя.
**19.45** «На прыродзе з Віталём Гуменным». Станцыя Ражанка.
**20.00** Серыял «Герой нашага часу». 3 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.15** Серыял «Мегрэ».
**22.00** «Загадкі дзеда Кандрата». Дак. фільм пра творчасць беларускага байкапісца, драматурга, сатырыка Кандрата Крапівы.
**22.25** «Хто смяецца апошнім». Маст.фільм.
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанай артысткі БССР Тамары Міянсаравай.

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.09** Цуд тэхнікі.
**08.43, 09.20, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.59** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.36, 20.25, 21.21, 22.10** Марскія д'яблы. Віхраслуп.
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.32, 00.29** Дзікі-3.

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15, 09.00** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**10.00** Маст. фільм «Іншапланецянка».
**11.30** Праграма «Любімыя акцёры».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Майстроў. фільм «У свеце цудаў».
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**23.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.25** Маст. фільм «Іншапланецянка».
**01.55** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.35** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**04.30** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.25, 12.40, 15.10, 00.00, 02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.40, 14.20** Без межаў.
**08.55, 14.40** Аб'ектыў.
**09.45, 15.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма): «Мода на сваты».
**10.10, 15.55** Відзьмо-невідзьмо.
**10.40** Моўнік: Так гавораць на Падляшшы.
**10.50** Назад у будучыню.
**11.05** Форум: Нам засталася спадчына...
**11.50, 17.10** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Таямніца «Цыцэрона».
**16.25** Форум: Знявечаная мова зямлі.
**18.05** «Лонданцы», серыял: 8 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** «Рэвалюцыя он-лайн. Паляванне на журналістаў», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.10** «Парадокс», серыял: 9 серыя.
**22.55** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**23.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**02.00** Аб'ектыў.
**02.45** «Рэвалюцыя он-лайн. Паляванне на журналістаў», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.

## 6 САКАВІКА, ЧАЦВЕР

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.05** Меладрама «Ластаўчына гняздо» (Расія). 2-я серыя.
**12.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо» (Расія). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**23.45** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** Наша раніца.
**09.05** Жыць здарова!
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** У наш час.
**12.05** Яны і мы.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** Сам-насам з усімі.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Зразумець. Прабачыць.
**16.55** Давай пажэнімся!
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Смешнае і яшчэ смешней.
**18.50** Хай кажуць.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны дэтэктыў «Чорныя коткі».
**22.15** Прэм'ера. Шматсерыйны дэтэктыў «Чорныя коткі».
**23.15** Фільм «Забі мяне далікатна».
**00.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** Дзённік «ХораШоў».
**09.05** «Вам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** Дзённік «ХораШоў».
**11.40** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Каханне са слоўнікам» (ЗША - Францыя - Японія, 2007 г.).
**15.40** Дзённік «ХораШоў».
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Дзённік «ХораШоў».
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дзённік «ХораШоў».
**20.20** Фільм «Вавілон-5: рака душ» (ЗША).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 2-я серыя.
**10.05** Серыял «У кожнага свая вайна».
**12.00** Меладрама «Нахабніца» (Украіна). 3-я серыя.
**13.00** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). 7-9-я серыі.
**14.25** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.55** Аўтабатл.
**16.25** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 2-я серыя.
**17.25** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**18.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). 10-я - 12-я серыі.
**23.05** Меладрама «Нахабніца» (Украіна). Заключная серыя.
**00.05** «Званар». Дак. фільм.

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.20, 15.00, 21.05, 00.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.30, 15.05, 17.05, 00.05** «Энцыклапедыя беларускага спорту».
**08.15** Серыял «Герой нашага часу». 3 серыя.
**09.00** «Сёмае неба Паўла Масленікава». Дак. фільм пра ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
**09.30** Серыял. «Мегрэ».
**10.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці дырэктара Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Анатоля Ляляўскага.
**10.45** «Хто смяецца апошнім». Маст.фільм.
**12.35** «Камертон». Літоўскі оперны спявак Віргіліус Нарэйка.
**13.05** «Полета вольное упорство...» Дак. фільм пра творчы шлях балерыны, народнай артысткі СССР Маі Плісецкай.
**13.30** «Наша спадчына». Тураўскае Евангелле. 1-я - 2-я часткі.
**14.00** «Плошча мастацтваў». Мастак - гэта лёс... Творчасць мастака В. Касцючэнкі.
**14.25** Мультфільм.
**14.30** «Карані».
**15.15** «Канструктывізм». Дак. фільм.
**15.40** «Падарожжа са смакам». Барселона.
**16.15** «Скарбніца Магілёўшчыны». Палац Пацёмкіна.
**16.40** «Чырвоны д'ябал». Дак. фільм пра лётчыка Івана Яўграфавіча Фёдарава, героя вайны ў Іспаніі і Вялікай Айчыннай вайны.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.15** «Маналог. Леанід Левін». Дак. фільм пра творчасць знакамітага архітэктара.
**17.45** «Палескі пачастунак». Хлеб.
**18.00** «Дэбют». Мастацкі фільм.
**18.30** «Музеум». Гістарычны партрэт.
**18.45** «Цуды прыроды». Вялікабрытанія. Казахстан. Кітай. Чэхія.
**19.10** «Імгненне вечнасці». Перакладчыца, паэтэса Надзея Вольпін і Сяргей Ясенін. Жыццё і каханне.
**19.30** «Кінарэжысёр Барыс Сцяпанаў». Фільм-партрэт кінарэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.
**20.00** Серыял «Герой нашага часу». 4 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Сёмае неба Паўла Масленікава». Дак. фільм пра ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
**22.25** «Прабач нам, першае каханне». Мастацкі фільм.
**23.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці дырэктара Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Анатоля Ляляўскага.

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.11** Цуд тэхнікі.
**08.39, 09.37** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.59** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.32** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.25, 21.21, 22.10** Марскія д'яблы. Віхраслуп.
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.32, 00.25** Дзікі-3.

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15, 09.00** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**10.00** Маст. фільм «Безквітковая пасажырка».
**11.30** Праграма «Дыяспары».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Майстроў. фільм «З нагоды».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.10** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**23.40** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.30** Маст. фільм «Безквітковая пасажырка».
**01.50** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.30** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**04.25** Праграма «Дыяспары».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.25, 12.30, 14.55, 00.05, 02.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30, 14.05** Маю права.
**08.55, 14.25, 02.05** Аб'ектыў.
**09.45, 15.15** «Рэвалюцыя он-лайн. Паляванне на журналістаў», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**10.10** Чорным па белым: «Мода на сваты».
**10.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.05** «Парадокс», серыял: 9 серыя.
**11.55** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**15.40** Чорным па белым: «Мода на сваты».
**16.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.40** «Парадокс», серыял: 9 серыя.
**17.20** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**18.00** «Час гонару», серыял: 75 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Два на два (тэледыскусія): Іна Соркіна і Ігар Кузьмініч: Рэпрэсіі супраць нязломных выкладчыкаў.
**22.15** «Рамін», дак. фільм, Літва–Грузія.
**23.20** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 10 серыя.
**01.35** Рэпартэр.
**02.50** Два на два (тэледыскусія): Іна Соркіна і Ігар Кузьмініч.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №2 (90)
(люты)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



ЮБІЛЕЙ



# «ВЯСНА БУДЗЕ!»

## ПАЭЗІЯ ЗМАГАННЯ ВАЛЯНЦІНА ТАЎЛАЯ

Алеся ЧАРНАВОКАЯ

**8 лютага — 100 гадоў з дня нараджэння Валянціна Таўлая. На першы погляд яго біяграфія выдатна адпавядае вобразу паэта-камуніста: Заходняя Беларусь, падпольная камсамольская арганізацыя, сем гадоў «польскіх» астрогаў за камуністычную дзейнасць, зноў падпольная барацьба ў час Вялікай Айчыннай вайны…**



Але падставай першых сур'ёзных праблем былі не камуністычныя погляды, а нацыянальная самасвядомасць: у Слонімскай настаўніцкай семінарыі хлопец падчас перапісу паведаміў, што з'яўляецца беларусам і размаўляе па-беларуску, за што быў вымушаны неўзабаве пакінуць вучобу (цікавы факт у дачыненні да надзейнасці вынікаў усемагчымых перапісаў мінулага стагоддзя).

Бацька паэта, Павел Таўлай, быў сябрам Беларускай Сацыялістычнай Грамады — і вершы Валянціна вельмі рана пачалі тычыцца менавіта палітычных праблем: «О ты, Згода, адгукніся, / Дзе ты прападаеш? / Цябе рэдка дзе пабачыш, / Рэдка дзе бываеш!» — пісаў Валянцін Таўлай з нагоды «палемікі паміж грамадоўцамі і хадэкамі, што разгарнулася на старонках заходнебеларускага перыядычнага друку ў сярэдзіне 20-х гадоў».

У далейшых творах ён не спяшаўся ў кожным радку абвяшчаць сваё захапленне камунізмам, ухваляць савецкую рэчаіснасць і марыць пра светлую будучыню — хаця ёсць у яго і «чырвоны жар», і «ясная сцежка да шчасця», і «панска-бліскучы бот». Зрэшты, для паэтаў Заходняй Беларусі, якім давялося стаць палітвязнямі, больш актуальнай была тэма змагання за волю і долю свайго краю:

*І стаю я ў захапленні,*
*Неразгаданым і новым,*
*Поўны цёплае любові,*
*І гатоў гарэць, загінуць*
*За вясну маёй краіны…*

*Радасна ўздыхнулі грудзі:*
*— Адчыняйце хаты, людзі!*
*— Адчыняйце сэрцы, людзі!*
*— Вясна будзе! Вясна будзе!*

Гэты верш напісаны Валянцінам Таўлаем у чатырнаццаць гадоў, але і многія іншыя яго творы бліжэй да патрыятычнай лірыкі, чым да ўльтрасавецкай паэзіі. Большасць з іх, натуральна, былі складзены ў астрогах — паводле ўспамінаў, там многія звярталіся да паэзіі (верш «вяснянае сэрца бароніць ад шэрай, астрожнай тугі»). Адпаведна, пашыранай была тэма зняволення і чакання свабоды — расповеды пра жыццё вязняў ( і нават паэма — «Сухар»!), гнеўныя тырады («Скаваны бунтар», «Думы непакорныя») і абсалютна шчымлівыя, роспачныя радкі:

*Грудзі ныюць, сэрца б'ецца,*
*Карагоды зззяюць зор.*
*Зоры, зоры! Дзе ж мне дзецца?*
*А між вас прастор… прастор…*

Гэтыя вершы выдатна цытуюцца ў сучасным палітычным і літаратурным кантэксце — зрэшты, твораў такога кшталту багата на старонках сённяшніх часопісаў ды паэтычных зборнікаў, яны часта ператвараюцца ў песні маладых музычных гуртоў.

Сябры заўсёды поплеч, і іх шмат, ворагі — каты і тыраны, верш натхняе да барацьбы, хочацца трапіць праз краты да зор, экспазіцыя таксама знаёмая:

*Ідзе за годам год,*
*Сівеюць людзі, хаты,*
*І ўсё ў ярме народ,*
*А над шляхамі — краты.*

Магчыма, такімі вершамі пачынаюць многія з тых, хто пакіне яркі след у беларускай літаратуры — галоўнае, каб своеасаблівы жанр «паэзіі змагання» са сваім наборам матываў, сюжэтных схемаў і літаратурных штампаў не замінаў аўтару выказвацца цікава і самастойна. Паэт, апанаваны прагай барацьбы — з польскімі панамі, фашыстамі, савецкай уладай ці кім-небудзь яшчэ, — вельмі часта звяртаецца да ўжо вядомых вобразаў, ідэй, стылістычных прыёмаў. Бо чароўнае натхненне насамрэч становіцца плынню стэрэатыпаў, сімвалічных, акцыянальных і культурных кодаў, якія з галавой накрываюць аўтара і знаходзяць выйсце ў радках, страфах, вершах, вельмі падобных да некім некалі ўжо напісаных…

Ёсць людзі, арганічна не здольныя адчуваць, бачыць і думаць у агульнапрынятым рэчышчы — яны прынцыпова не могуць пісаць банальшчыну. Для іншых ёсць багата магчымасцяў супрацьстаяць волі дыскурса: у межах пэўнай тэмы можна вылучыць тыя моманты, якія звычайна застаюцца незаўважанымі, змяніць ракурс ці агульны фон. Калі ж гэта не атрымліваецца, застаецца шчыраваць над формай, шукаць адмысловыя вобразы — што і рабіў Валянцін Таўлай, рыхтуючы ў пасляваенны час свае вершы для першага зборніка.

Многія трапныя радкі паэта («пілую вершам краты», «удавою тужыць ніва») — плён доўгага, шматгадовага абдумвання твораў. Кранае нават верш «Першамайскія сцягі» («Цяпер яны, як дужыя арлы, /На ветры буйным распасцёрлі крыллі, /А некалі ж мы іх, як арлянят малых, /Тулілі к сэрцу і ўзлятаць вучылі»), і сумна, што завяршаецца твор пагрозлівым заклікам «трымаць вострым штык і ўзнятай галаву» — лірычны настрой быў нядоўгім.

Пошук адмысловых вобразаў ішоў марудна, што, верагодна, было пэўнай праблемай. Валянцін Таўлай з'яўляўся намеснікам дырэктара музея Янкі Купалы — і планаваў напісаць дысертацыю па творчасці класіка, стварыць аповесць, прысвечаную яго дзяцінству. Задумы не спраўдзіліся: паэт-падпольшчык часта быў на паўкрока ад смерці, каля дзясятка такіх выпадкаў апісана ва ўспамінах яго роднымі і сябрамі. У трыццаць тры гады ён памёр ад хворага сэрца…

Музей, бюст, мемарыяльная дошка… Валянціну Таўлаю пашанцавала больш, чым многім рэпрэсаваным аўтарам, унёсак якіх у беларускую літаратуру быў дакладна не меншы. Зрэшты, за савецкі рэжым ён сапраўды змагаўся, і цяжка сказаць, кім Валянцін Таўлай быў у большай ступені: камуністам, патрыётам ці паэтам?

Іерархія беларускіх класікаў дагэтуль патрабуе пэўнай карэкціроўкі — і месца для гэтага аўтара на прыступках пачэснай лесвіцы зарэзервавана найперш дзякуючы марам маладога змагара пра беларускую вясну.

Мастацкія здабыткі класікаў (у нашым выпадку — Якуба Коласа і Янкі Купалы) у творах непасрэдных паслядоўнікаў успрымаюцца даволі свежа — далей мы маем справу з нацыянальнай традыцыяй, сталымі вобразамі-сімваламі ды эпігонствам. А жанр «паэзіі змагання» дагэтуль застаецца неўміручым, і варта думаць, што праца ў гэтым рэчышчы будзе плённай.

▸ ДА 80-ГОДДЗЯ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

# НОВЫ «ЭКСЛІБРЫС»

**ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» абвяшчае пачатак прыёму твораў на конкурс маладых пісьменнікаў «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава — публіцыста, рэдактара газеты «Наша Ніва», 140-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца сёлета.**

Конкурс прысвечаны літаратуры нон-фікшн. Партнёры конкурсу — кампанія «Prestigio», газета «Наша Ніва», грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!».

На конкурс будуць прымацца творы ў наступных жанрах: эсэ (літаратуразнаўчае, сацыякультурнае, гістарычнае, краязнаўчае, этнаграфічнае), нарыс, публіцыстычны (аналітычны) артыкул, літаратурны агляд, рэцэнзія і інш.

Мова твораў — беларуская або руская, аб'ём тэксту — не больш за 20.000 знакаў з прабеламі.

Да ўдзелу запрашаюцца аўтары ва ўзросце да 40 гадоў.

**Тэмы конкурса:**
«Асоба ў прасторы і часе»
«Аўтар. Герой. Чытач»
«Мая ідэнтычнасць»
«Пераадоленне абмежаванняў»
«Суіснаванне і супрацьстаянне»

У межах гэтых агульных тэмаў могуць быць раскрытыя любыя больш вузкія і канкрэтныя падтэмы. Прымаюцца матэрыялы, якія раней нідзе не друкаваліся.

**Журы конкурса:**
Сяргей Дубавец, Алесь Пашкевіч, Аляксандр Фядута, Ірына Шаўлякова, Вольга Шпарага.

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце **.doc** да **1 жніўня 2014 года** на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Конкурс». У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантактны нумар тэлефона і e-mail.

Пяць пераможцаў конкурса атрымаюць найлепшыя рыдэры ў лінейцы кампаніі «Prestigio», а іх творы будуць змешчаныя ў электронных бібліятэках ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by. Аднаго з удзельнікаў чакае спецыяльны прыз ад газеты «Наша Ніва». Асобныя тэксты будуць апублікаваны ў «Нашай Ніве», «новачаснай» «Літаратурнай Беларусі», «Дзеяслове».

# БІТВА ПАЭТАЎ

**Маладыя і сталыя, пачаткоўцы і аўтарытэты, рамантычныя і рашучыя, горадзенскія і не толькі… Так выглядаў склад удзельнікаў другога горадзенскага паэтычнага слэму, які адбыўся ў антыкаварні «Жывы час».**


Фота Яны Лялевіч
Ганна Аўчыннікава

Слэм распачалі яго вядучыя — Аляксей Шота і Хрысціна Марчук.

«Мы хочам, каб нашыя таленавітыя гарадзенскія паэты выйшлі са старонак паэтычных зборнікаў у публіку», — тлумачыць сутнасць слэму Хрысціна.

Шаноўныя госці сустрэчы — Данута Бічэль і Аляксей Пяткевіч.

Выступілі Ала Петрушкевіч, Сяргей Астравец. Ад Дзяніса Жыгаўца вядучыя папрасілі «драйву». І той пастараўся — атрымлівалася эмацыйна.

Ці то журы трапілася вельмі лагоднае, ці то ўдзельнікі найвышэйшага ўзроўню — максімальны бал выступоўцы атрымлівалі вельмі часта.

Ганна Аўчыннікава запомнілася не толькі густоўнай паэзіяй, але і зоркай на чале…

Па-рознаму «запальвалі» публіку Антось Янкоўскі, Валера Руселік, Анатоль Брусевіч, Святлана Куль.

Журы абвесціла вынікі: найвялікшую колькасць балаў набрала паэтка Ганна Аўчыннікава. На другім месцы — Валера Руселік. Трэцяе заняла Святлана Куль-Сяльвестрава.

Кожны пераможца атрымаў памятныя прызы, у тым ліку кнігу Юры Гуменюка «Назаві мяне геніем». Галоўны прыз — падарункавае выданне «Спадчына Беларусі» ў скуранай вокладцы.

Чакаем працягу!

**Паводле www.t-styl.info**

# «ВЕРШЫ НА АСФАЛЬЦЕ»-III

**13–16 лютага 2014 года ў Мінску праходзіў Трэці міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце», прысвечаны памяці Міхася Стральцова. Арганізатары фестывалю — Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беларускі ПЭН-цэнтр.**

Партнёры фестываля — Амбасада Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Інстытут імя Гётэ ў Мінску, Польскі Інстытут у Мінску, Шведскі саюз пісьменнікаў і грамадска-культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!».

На фестывалі выступілі літаратары з Беларусі, Ісландыі, Польшчы, Украіны, Расіі, Літвы. У праграме мерапрыемстваў былі Слэм-сэйшн, паэтычныя чытанні, міжнародны праект «Magnus Ducatus Poesis — Вялікае Княства Паэзіі», прэзентацыі новых кніг, у тым ліку — серый «Пункт адліку» і «Кнігарня пісьменніка» СБП, зборніка пераможцаў конкурса імя Максіма Танка, а таксама электронных выданняў BYBOOKS.

14 лютага больш за тры гадзіны беларускія і замежныя паэты змагаліся за званне найлепшага слэмера. Трэці раз у межах паэтычнага фестываля адбыўся слэм Святога Валянціна. У ім узялі ўдзел 20 паэтаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы. У выніку сумленнай барацьбы і нават інтрыгі (калі суддзі, выбраныя сярод гледачоў, доўга не маглі вызначыцца, каму паставіць вышэйшыя балы — Юлі Цімафеевай або Віктару Жыбулю) у паўфінал слэму прайшлі 8 паэтаў: Аркадзь Штыпель, Раіса Баравікова, Марыя Мартысевіч, Анастасія Векшына, Марыя Галіна, Тацццяна Светашова, Глеб Лабадзенка і Вера Бурлак. Да фіналу дабраліся тры слэмеры, найлепшым з якіх быў прызнаны Аркадзь Штыпель з Расіі.



Новы дзень таксама запомніўся разнастайнасцю жанраў і формаў — былі і паэтычныя чытанні, і кніжныя прэзентацыі, і музычныя выступы, і абмеркаванне буктрэйлера «Смаленне вепрука».

Паэтычны фестываль працягнуўся ў мінскім Інстытуце імя Гётэ. У агуле новая праграма заняла каля шасці (!) гадзін. Цягам дня публікі станавілася ўсё болей, і гэта яскрава сведчыць пра прыхільнасць беларусаў да паэзіі і пра тое, што добрых вершаў шмат не бывае.

**lit-bel.org**

## ЗАЯВА
## САКРАТАРЫЯТА ГА «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»

Як стала вядома, 11 лютага 2014 года Ашмянскі раённы суд прыняў рашэнне аб забароне на ўвоз выдадзенай у Вільні кнігі літаратуразнаўцы, сябра ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя беларушчынай».

Нагадаем, што кніга Алеся Бяляцкага ўяўляе сабой зборнік эсэ і артыкулаў, прысвечаных творчасці беларускіх літаратараў. Тэксты кнігі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў друкаваліся ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях.

Сакратарыят ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» лічыць рашэнне суда палітычна матываваным і выкліканым толькі тым, што аўтар цяпер знаходзіцца ў зняволенні.

# РЭЗІДЭНЦЫЯ МАЛАДОГА ЛІТАРАТАРА

**Беларускі ПЭН-цэнтр пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага Дома правоў чалавека засноўвае ў Вільні Рэзідэнцыю маладога літаратара.**

Праграма дае магчымасць творцу ва ўзросце да 30 гадоў два тыдні жыць у Вільні і займацца літаратурнай работай (паэзія, проза, пераклады, крытыка і інш.).

Для таго, каб стаць удзельнікам Рэзідэнцыі маладога літаратара, трэба запоўніць анкету на старонцы ПЭН-цэнтра альбо даслаць заяўку на e-mail info@pen-centre.by з пазнакай «Рэзідэнцыя маладога літаратара».

Першы этап пройдзе з 1 лютага 2014 года па 31 верасня 2014 года.

## САКАВІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



06.03.1964 — Уладзімір Фёдаравіч Міхно
07.03.1969 — Ірына Мікалаеўна Ляшкевіч
07.03.1959 — Язэп Язэпавіч Янушкевіч
14.03.1934 — Міхаіл Іванавіч Клебановіч
16.03.1964 — Уладзімір Міхайлавіч Давыдоўскі
23.03.1954 — Аляксандр Васільевіч Кавалёнак
28.03.1939 — Святлана Тарасаўна Каробкіна
28.03.1934 — Канстанцін Аляксеевіч Цвірка

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# СТАГОДДЗЕ АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА

**У Музеі гісторыі Магілёва, які месціцца ў будынку Ратушы, адбылася літаратурна-музычная кампазіцыя «Асуджан я любоўю пажыццёва», прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, ураджэнца Магілёўшчыны Аркадзя Куляшова.**


Фота MyCity.by

Шматлікім слухачам быў прапанаваны аповед пра жыццё і творчасць Аркадзя Аляксандравіча Куляшова, пра тыя шляхі, якія ад вёскі Саматэвічы Касцюковіцкага раёна прывялі яго да вышынь творчага натхнення.

Гучалі вершы паэта ў суправаджэнні харэаграфічных інсцэніровак, а відэапрэзентацыя дапамагала больш змястоўна адчуць усе адценні куляшоўскай паэзіі.

У вечарыне ўзяў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў — адзначыў актуальнасць і неўміручасць паэзіі Аркадзя Куляшова, якая для кожнага пакалення беларусаў з'яўляецца запатрабаванай і вельмі актуальнай. У выкананні М. Яцкова прагучала некалькі песень на вершы славутага юбіляра.

**Ул. інф. Магілёўскага абласнога аддзялення СБП**

# МАГІЛЁЎ

**Адбылося чарговае пасяджэнне Магілёўскага аддзялення СБП. Старшыня Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб дзейнасці пісьменніцкай суполкі ад пачатку новага года.**

Было адзначана, што ў прэсе і ў інтэрнэце з'явіліся цікавыя публікацыі магілёўскіх пісьменнікаў, а таксама матэрыялы, якія тычацца магілёўскай суполкі. У прыватнасці, у «Літаратурнай Беларусі» быў надрукаваны агляд Леаніда Галубовіча «Брама неўміручасці», дзе аўтар выказаў свае меркаванні аб творах, змешчаных у альманаху «Брама».

Старшыня рэдакцыйнай рады «Брамы» Яраслаў Клімуць паведаміў, што праца над чарговым выпускам распачалася, і трэба да канца сакавіка сфарміраваць рэдакцыйны «партфель».

ВЕРШЫ



Фота В.Дубоўскага

# ЧЫСТЫ БОЛЬ

Рыгор БАРАДУЛІН

## У неба пехатою

*З незагаворлівага кірмаша,*
*Дзе чужыя гандляры і цэны,*
*Любіць беларуская Душа*
*Ад спякоты*
*Затуліцца ў цені.*

*Свой сакрэт у мудрага каўша,*
*Поўнага цудоўнага напою.*
*Пойдзе беларуская Душа*
*Да настрою ў неба пехатою.*

*Хопіць смаглавогнішчу сушша,*
*Каб абсяг не спавядаўся золі.*
*Бачыць беларуская Душа,*
*Як заўсёды рупіцца ніколі!.*

**9.XII.2013**

## Сляды вады

*Сляды вады*
*Адводзяць ад бяды.*
*Бяда пажаравокая*
*Дыміцца.*
*У нецярпення позірк малады.*
*Здалёку*
*Кліча рэха навальніцы.*

*Сляды вады,*
*Гадуючы гады,*
*Атавай смелай*
*Маладзяць сцяжыны.*
*У жарабіцы жарсці*
*Павады*
*Падраліся*
*Аб розбегі чужыны.*

*Сляды вады.*
*Прыстаўшы ад хады,*
*Вядуць у незахлын*
*Зліццё жывое.*
*Дыктант ад Перуна*
*Маланка піша,*
*Ды*
*Памылкі*
*Правярае ноч*
*Савою…*

**20.XII.2013**

## Як скруху…

*Колькі важыць*
*Сівое крыло крумкача?*
*Колькі цягне*
*Звіслая дзюба?*
*Адказаў бы, напэўна,*
*Арак з-пад карча,*
*Ды яму*
*На святле быць не люба.*
*Далячынь маладая*
*Не ўмее маніць.*
*Рэха шэпча*
*На вуха ліху.*
*Крумкачу сівакрыламу*
*Хочацца сніць,*
*Як скруху чорную,*
*Крумкачыху…*

**12.XII.2013**

* * *

*Жарсць нямая.*
*Каханне ўзросту не мае…*

## Насуперак…

*Насуперак чэрстваму суму*
*Канкрэтна,*
*А не ва ўяве*
*Застолле плыве ў задуму*
*На негабляванай лаве.*
*Успыхваюць суха трэскі*
*Зоркамі Млечнага шляху,*
*Не можа ўсяісны вецер*
*Падабраць апранаху*
*Голаму жаху.*
*Вавёрка вёрткая давярае*
*Свае кіпцюры сасне.*
*У існасці*
*Ўсё сябе ўспамінае*
*Ў задуманым сне…*

**25.XI.2012**

## Як жывы…

*Вырас мярэц*
*З пугурка цыбатага.*
*Закінуў анямелую галаву*
*Прывітаць неба.*
*Рукі развёў*
*Адхапіць як болей жыцця,*
*У паветры разлітага.*
*Ды знянацку*
*Некуды галава сплыла.*
*Абедзьве рукі*
*Маланка адцяла.*
*Дагэтуль*
*Панылы крыж*
*Усё чакае,*
*Што вернецца галава*
*На вострую шыю.*
*Дзве рукі*
*Адрастуць учэпіста.*
*Хоць зноў*
*У цёмны холад*
*Не хочацца…*

**1.III.2013**

* * *

*Здаецца, ад злосці*
*Зайздрасць завые,*
*Нямогла сціскаючы кулакі.*
*Паважна*
*І помнікі, і жывыя*
*Парыж засяляюць*
*Мае землякі.*

*Зацятасць*
*Не баіцца дакораў.*
*Ільдзіну падпаліць*
*Юрлівы шал.*
*Ідзе з Камароўкі Барыс Забораў*
*І ў небе коз*
*Пасвіць*
*Марк Шагал.*

*Спакоіцца рызыка*
*З прычыны тае,*
*Што неба парыжскага*
*На ўсіх стае…*

**21.II.2013**

## Парада

*Не спяшайся ў рай*
*І куме не рай…*

* * *

*Як дома*
*Я даўно на гэтым свеце,*
*Не дужа-ткі*
*Спяшаюся на той.*
*Яшчэ ні карты*
*З мёртваю вярстой,*
*Ні свечкі,*
*Што гарачаю слязой*
*Спакойна свеціць.*
*Яшчэ на гэтым свеце*
*Я як дома.*
*А як на тым,*
*Дагэтуль*
*Невядома.*

**6.X.2013**

## Ідзеш…

*Хто прывязаў званец*
*Да рогу той,*
*Што ласуецца*
*Хрупаткой атавай?*
*Усё расце*
*У часа пад пятой.*
*Вітаючы дарогу*
*Згадкаю рухавай,*
*Са свету гэтага*
*На той*
*Іду я ўпарта штохвіліны.*
*І кожны*
*Мазгаваць павінны,*
*Як ні хварэй,*
*Ні рухайся,*
*Улогам ні ляжы,*
*Пакуль жывеш,*
*Ідзеш да той мяжы,*
*Якая*
*Чакае.*
*Спакойнай вечнасці*
*Прамежак*
*Нам належыць.*
*Пазычаным жыццём*
*Звыкаеш зваць.*
*Ці ён знянацку*
*Можа стаць*
*Апошнім днём.*

**28.X.2013**

* * *

*Апошні сон.*
*Навошта ён?*

**19.X.2013**

## Трэба!

*Параіцца трэба з журбой,*
*Як пазнаёміць*
*Сябе з сабой…*

## Чысты боль

***Ірыне Ржэвускай***

*Прыгажосць*
*Сама сябе баіцца.*
*Толькі б не ўракла*
*Пяшчоту злосць.*
*Гаспадынька*
*Ў беларускага здароўя*
*Ёсць!*
*Кажа кіслагубым,*
*Шчэразубым:*
*До*
*Ісці ў самалюбімыя.*
*Ці*
*Не лепей бачыць,*
*Як вожыкастае гняздо*
*З праменняў*
*Улагоджаных валасоў*
*Нечаканку чаканую*
*Зорную па-зямному*
*Укаранавала*
*Рукою слова.*
*І невыпадкова*
*Надрэчна недарэчны сум*
*Усур'ёз*
*Пакажа нос*
*І рыне.*
*А годнай,*
*Гонкай,*
*Ганаравітай спадручнай*
*Неадольнага жыцця*
*Ірыне*
*За чысты боль*
*Рупіць бяззубым хворым*
*Грымнуць спалоханым хорам*
*Дзякуй!*

**4.X.2013**

## Ласыя

*Ласыя да набыцця*
*Пад дасяжнымі кручамі,*
*Кватаранты жыцця,*
*Мы яму знадакучылі…*

**6.X.2013**

## Неадлучны

*Ценю мой,*
*Ты за крутой вярстой*
*Той,*
*Дзе начуе крок.*
*Цябе,*
*Хто не ведае*
*Анідзе*
*Стомы ў хадзе,*
*Пялегуе*
*Задуменны змрок.*
*І ты ступаеш за мной,*
*За маёй спіной,*
*Як непраспаны крык,*
*Двайнік неадлучны.*
*І пакуль некалючы*
*Ты ў цемрадзь не знік,*
*Пакуль за раднёю*
*Не лічу траву —*
*Жыву!*

**28.XII.2013**

## Нанова!

***На адкрыццё курсаў «Мова нанова»***

*Немінуча,*
*Гаюча*
*Нанова*
*Раскрываецца шчырае слова.*
*Мова маці —*
*Крыніца святая —*
*Да вытокаў*
*Намеры вяртае.*
*Як высокія мроі,*
*Аблокі*
*Думкі неба*
*Ратуюць ад спёкі.*
*Мы на гэтым свеце*
*Павінны*
*Гадаваць мову*
*Роднай Айчыны.*

**13 студзеня 2014 г.**

## Прашу…

*Усятрымца ўсяісны,*
*Дазволь*
*Затрымацца на грэшнай зямлі.*
*Моцы дай*
*Вытрываць боль,*
*Ад якога пытанні ўзыйшлі.*
*Для чаго*
*Я прыйшоў*
*І калі*
*Адпусціць на волю душу,*
*Агарчэлую ў палыне,*
*Падказаць аднойчы прашу.*

*Хоць і не мне…*

**10.XI.2012**

АПОВЕД

# ПЛЕБЕЙСКІЯ ГУЛЬНІ

ФРАГМЕНТЫ

Франц СІЎКО



Фота Анастасіі Лазебнай

## Ад аўтара

Гульня, паводле тлумачальнага слоўніка, — занятак дзеля забавы ці адпачынку, заснаваны на пэўных правілах, або наўмысныя дзеянні (таемныя замыслы, інтрыгі) для дасягнення нейкай мэты. Плебейскія гульні ўзніклі ў Рыме ў III ст. да н. э. і з'яўляліся не толькі формаю баўлення часу насельніцтва імперыі, але і сродкам адцягнення яго ўвагі ад грамадскіх спраў і актыўнай дзяржаўнай дзейнасці. Пададзеныя напрыканцы аповеду пералік нашых гульняў — далёка не поўны, што кожны пры жаданні можа кампенсаваць досведам уласнага штодзённага ўдзелу ў гульнях таго або іншага кшталту.

## Яшчэ не вечар

*Гэй, узвейце сваім крыллем,*
*Арляняты, буйна, бурна…*
**Я. Купала**

*Вітанне, племя маладое,*
*незнаёмае!*
**А. Пушкін**

І вось ужо два месяцы, як я пры гульні новай — выдавецкай. Пры справе быццам бы і карыснай, але разам з тым, калі меркаваць па ўзроўні запатрабаванасці яе канчатковага, так бы мовіць, прадукту, — даволі няўцямнай. Выдаць казённым коштам паўтысячы старонак навуковага даследавання пра дбанне партбосаў першай трэці мінулага стагоддзя аб развіцці ў нейкім рэгіёне, напрыклад, воднага транспарту, каб потым амаль цалкам згрузіць тое выданне ва ўтыль, — якая ўжо тут уцямнасць? Але ж гульня на тое і гульня, каб у яе гулялі, не зважаючы на дробныя акалічнасці кшталту бязглуздых выдаткаў.

У гульні ў навуку, прынамсі на стадыі падрыхтоўкі тэксту ў друк, — немудрагелістыя, але адмысловыя правілы — з пераўвасабленнямі, зменамі роляў, неспадзеўнымі — удалымі і не надта — узлётамі ці, наадварот, падзеннямі. А то і наогул перверсіямі. Гэта калі пахан ад навукі (карыстаючыся слэнгам крымінальным) з лёгкасцю трансвестыта нацягвае на сябе пры неабходнасці маску і апратку згаворлівасці, а залежны ад волі пахана без напругі дэманструе пры нагодзе кіпцюркі ў меру ненавязлівай, у меру зацятай, у меру згаворлівай нязгоды-ўпартасці.

Пахан — кожны, хто на паўпальца вышэй за залежнага; залежны ж ды перыядычна, з увагі на абставіны і размяшчэнне зорак на небе, незгаворлівы — карэктар. Ва ўніверсітэцкай выдавецкай іерархічнай сістэме апошні — ніжэйшая (ніжэй проста не бывае) кадравая адзінка. Якая, аднак, у параўнанні з, напрыклад, шараговым выкладчыкам, мае і пэўныя перавагі.

Адна з тых пераваг — магчымасць у любы час, без увагі на расклад заняткаў, выйсці сабе ў дворык ды, вытрасшы з галавы друз чарговае шматстаронкавае лухты і з асалодаю зацягнуўшыся дымком цыгарэты, папесціць пад сонечнымі промнямі дарэшты атупелыя ад бесперапыннага напружання глузды. І рабіць гэта так часта, што ўжо праз месяц кожны тутэйшы сабака ля ўваходу ў прылеглы да вучэбнага корпуса будынак сталоўкі будзе ведаць цябе ў твар.

Ды, зрэшты, не толькі сабака. Бо, пакуль ты, дзядзька, дзесьці там паліш у самоце ды волю вольнаю і шчадротамі несамавітых гарадскіх відарысаў цешышся, новыя знаёмцы твае, цэрберы калідорныя ад аховы, ужо ладуюць для гульні адмысловае, асвечанае волю няведама чыёй пачынне.

— А ваш пропуск! Калі ласка! — выбухне аднойчы бездакорна ветліва і разам з тым пагрозліва ды адсуне цябе ўбок, падалей ад круцёлкі пры ўваходзе, падчас твайго вяртання з перакуру хлопчык-ахоўнік у акуратным, на ўзор мадэлі з моднага часопіса, пінжаку і з понтам папраўіць прычэплены да лацкана бэдж з экзатычным, амаль што птушыным прозвішчам Койра.

Пропуск, як на злосць, пакінуты ў пакоі, тэлефон тамсама, не насіць жа іх увесь час пры сабе — не турма ж тут усё-такі.

Хлопчык тэлефануе — дзеля выгляду, няйначай, — з мабільнага начальніку аддзела аховы, супрацоўніку нейкіх таемных органаў, аматару сама меней раз на тыдзень цікавіцца ў мясцовай кіяскёркі колам чытання насельнікаў корпуса. Той быццам бы абяцае неўзабаве прыйсці, але мінае пяць хвілін, чвэрць гадзіны, паўгадзіны — ні гуку, ні кроку, ні прывітання. Паўза доўжыцца, напружанне пульхне, расце ўшыркі, згусткам нерваў захрасае ў горле, рассяроджваецца па ўсім целе.

Нарэшце каржакаватая пастава мільгае ў прагалку паміж рэкрэацыяй і прыбіральняй, падае хлопчыку ледзь улоўны ўмоўны знак, прывідным ценем знікае ў скразняках неабдымнага і змрочнага, як рымскія катакомбы, будынка.

— Ладна ўжо, праходзьце, што з вамі зробіш… Але глядзіце надалей!



— Але ж і бяспамятны ты, хлопча! Няўжо насамрэч не ведаеш мяне?

— А калі і ведаю, то што? — цэдзіць абыякава ў адказ праз зубы ўладальнік амаль птушынага прозвішча і з выглядам чалавека, што дарэшты выканаў свой грамадзянскі ды яшчэ Бог ведае які абавязак, дадае: — Трэба ж было вам прадэманстраваць, хто вы тут, ва ўніверы, ёсць. А мяне сарамаціць вам не мае сэнсу, не я гэты спектакль прыдумаў, не мне за яго і чырванець. Ды мне гэтыя вашы ўсе справы, папраўдзе, — да Тэклі. У мяне размеркаванне на не абы-якую працу ў кішэні, два тыдні яшчэ адбуду тут, пры гэтых вось дзвярах, — і бывайце. Даганяйце тады з вашымі дакаранкамі-ўшчуванкамі. Свішчыце, дзядзечка, у кулак!

Гульні старыя, племя гульцоў — новае. Голас у без пяці хвілін выканальніка не абы-якой працы Койры ўпэўнены, пагляд арліны, да гульняў упаўне малады homo poscudicus гатовы.

> У гульні ў навуку немудрагелістыя, але адмысловыя правілы — з пераўвасабленнямі, зменамі роляў, неспадзеўнымі ўзлётамі ці, наадварот, падзеннямі

## Нашы гульні

*У абазнанасць.* Калі пра тое, што дазволена Юпітэру, але не дазволена быку, — дакладна і заўсёды памятаем, а пра тое, што дазволена быку, але не дазволена Юпітэру, — заўсёды, і часцей за ўсё наўмысна, забываем.

*У самотніцтва.* Калі, забыўшыся ці не разумеючы, што сапраўднае самотніцтва — тое, якога хочацца пазбавіцца, усім даводзім, як мы яго, сапраўднага, толькі штохвіліны і прагнем.

*У шкадаванкі.* Калі, маючы пару рублёў заробку, шкадаваць пры гэтым, згодна з няпісаным законам чалавекалюбства, быццам бы павінны іншага. Таго, у каго ён — дзесяць, але яму, бач, маральна цяжка, бо здабытая тая дзясятка на дывідэнды ад хаўрусавання з д'яблам.

*У дэмакратызм.* Калі, дэманструючы шырыню поглядаў і непрабівальны лібералізм, прылюдна падаем нядобранадзейнай асобе руку з адмыслова растапыранымі на жываце пальцамі, а агаломшаная такім неспадзеўным жэстам асоба глядзіць на тыя пальцы ды ліхаманкава вырашае, што ж з імі рабіць: ці то паціснуць, ці то плюнуць. Або калі, пазбягаючы рызыкі прылюдна пацвердзіць даўнюю і непарушную прыязнасць да апальнага грамадзяніна М., прызначаем яму спатканне пад покрывам ночы.

*У выхаванне.* Калі за кепскі, але негалосна прызнаны ў дадзены момант у грамадстве за ўзор учынак — падхалімства, абыякавасць, згодніцтва, хлусню — атрымліваем ад саноўных асобаў заахвочванне, а за праўдзівы, але не адпаведны згаданаму ўзору — спагнанне.

*У хованкі.* Калі ў слізкай сітуацыі на пытанне «Дзе ты і з кім?», памуляўшыся дзеля прыліку, адказваем: «А я і не ведаю, папраўдзе. Не тут, мабыць, і не там. Не з тым, напэўна, і не з гэтым».

*У патрыятызм.* (Колькасць варыянтаў і сцэнароў вядзення — бязмежная. З усіх існых гульняў самая недарэчная і, як і само слова «патрыятызм», — бадай, найбольш шкодная.)

*У самасць.* Калі, натыкнуўшыся ў тэксце літаратара Н. на няведамае слова або незразумелы выраз, замест таго, каб падвысіць узровень валодання моваю праз слоўнік ці даведнік, з апломбам распавядаем пра свой мізэрны клопат усяму свету, то бок грузім яго на іншых.

*У навучанне.* Калі на 81-м годзе ад нараджэння, уганараваныя прафесарскім званнем, раптам забыўшыся падчас лекцыі, пра што распавядалі слухачам хвіліну таму, чвэрць гадзіны ўспамінаем забытае, а пасля яшчэ трыццаць хвілін тое ўжо казанае, але неўспадзеў забытае нанова аўдыторыі даводзім-пераказваем.

*У пабожнасць.* Калі натхнёныя словамі Стварыцеля пра камень, які не след кідаць у бок грэшніцы, бо хто ж з нас, маўляў, без граху, самахоць адцінаем з павучання «Ідзі і ўжо болей не грашы»другую яго, нязручную для сябе, частку, блудзім другі раз, і трэці, і дзясяты, а ўволю наблудзіўшы, выходзім падчас літургіі да алтара чытаць адзінаверцам Божае Слова.

*У прэзумпцыю невінаватасці.* Калі, наўмысна пакінуўшы пры ад'ездзе з дому на стале для меркаваных злодзеяў пляшку разбаўленай атрутаю гарэлкі, пасля мусім да знямогі даводзіць дазнаўцам, што зрабілі гэта зусімзусім выпадкова.

*У ідэйнасць.* Калі ўсюды, дзе можна, хвалім і папулярызуем прэсу афіцыйную, а тым часам кожны свой новы дзень распачынаем з гартання таблоідаў незалежных.

*У моц сваяцкіх пачуццяў.* Калі, віншуючы па радыё нямоглых бабу ці дзеда або кагосьці з бацькоў з іх 90-годдзем, не толькі шчасця ім жадаем, але і доўгадоўга ля весніц дома роднага нас яшчэ сустракаць, бо так нам, маўляў, выключна парадаў іх жыццёвых ды цеплыні і паху бэзу пры хаце (і нічога, баронь Бог, больш) не стае.

*У шчодрасць.* Калі, паабяцаўшы чалавеку пазычыць або ахвяраваць рубель, кажухам такіх акалічнасцяў тую пазычкуахвяру няўзнак для небаракі ўхутаем, што ўжо і абяцанага рубля, а ўрэшце і самога абяцання пад ім не дашукацца.

*У «дуліну табе».* Калі насуперак упічуванням тых, хто пры ўладзе, што, маўляў, занадта ж лёгкі падчас дэвальвацыі — праз захаванне ў слоіку — спосаб засцярогі зберажэнняў ад даўгіх рук дзяржавы абралі, замест таго, каб аддаць тыя зберажэнні ў банк, наадварот, доведам горкім навучаныя, хаваем іх ад чужых хціых вачэй так далёка, што і самі пасля з цяжкасцю ўзгадваем, дзе схавалі.

*У «вось я табе зараз».* Калі, заклапочаныя станам бяспекі ў дзяржаве, пасылаем, на ўзор спецслужбаў ЗША часоў макартызму, якія нярэдка выкарыстоўвалі для падобных мэтаў чарнаскурых, дапытваць западозраных у антыдзяржаўнай дзейнасці асобаў супрацоўнікаў шапялявых або картавых.

*І г. д.* — у залежнасці ад акалічнасцяў і схільнасцяў ці асаблівасцяў псіхафізічнага развіцця або стану патэнцыйнага гульца.

ВЕРШЫ

# «НАМ ЧАС РАЗЛУЧАЦЦА, А РУК НЕ РАЗНЯЦЬ»

### «Ох, як цяжка траве…»

Тацццяну Зіненка, бадай, адзіную з нашых жанчын, можна пэўным чынам аднесці да шэрагу так званых «выклятых паэтаў». М. Стральцоў, М. Купрэеў, В. Гадулька, А. Сыс… і, бадай, Тацццяна… Нехта не пагодзіцца, але я і не прэтэндую на ісціну ў апошняй інстанцыі. Проста ў маёй галаве інтуітыўна выстройваецца такі, лагічна выснаваны з гісторыі нашай літаратуры і яе міфаў, трагічны высакародны рад…

На вялікі жаль, але толькі скрутнасць лёсу ды ранняя раптоўная смерць адкрываюць падобныя таленты чытачу. Трагедыя жыцця спараджае пасмяротную вядомасць, а падчас і славу. Вось жыве малады таленавіты чалавек, творыць, змагаецца за светлыя нацыянальныя ідэалы і, раптам, спатыкаецца (так гэта назавём), губляецца ў жыццёвым неадназначным атачэнні ды паступова збіваецца з абранага шляху (хоць яму здаецца, што ён не здраджвае сваёй сутнасці, а толькі змяняе ходу і некаторыя метады і намаганні ў кірунку да абранай мэты). Мы ўсё гэта бачым, ды ўжо нічога выправіць не можам ці проста не хочам лезці ў чужую душу з уласнымі павучаннямі. І калі яшчэ сам той чалавек моцная валявая асоба, то ўсе нашы добрыя намеры разбіваюцца аб непрыступнасць ягонай натуры…

Так прыкладна было і з Тацццянай Зіненка. Калегі і сябры, як ні наважваліся падставіць плячо і выправіць яе схібленую ходу, натыкаліся на непаразуменне. А пасля наступіла змірэнне з сітуацыяй і далейшы нястрымны інерцыйны сыход у адзіноту і самаізаляцыю… Часовы мройны хмель адводзіў яе ўсё далей ад рэальнасці. Зрэшты, паэту ад Бога ці так ужо патрэбная гэтая зашораная рэальнасць, якая пазбаўляе нас ад «палётаў у сне і на яве»?..

Пакуль, у рэшце рэшт, той высокі палёт не канчаецца трагічным падзеннем, проста кажучы — смерцю…

Хоць на пачатку, здавалася б, у Тацццяны ўсё складвалася «як трэба». Ды, чым вышэй браўся голас, тым нешта знутры падказвала ёй, што трэба не так, «як трэба», а так, як душа падказвае… Воля творчага духу патрабавала ўсёй істоты… Выхаваная сваёй мудрай бабуляй староверкай, Таня Зіненка, яшчэ маладой займеўшы поспех у паэзіі, скончыўшы філфак БДУ, працуючы настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, прымаючы актыўны ўдзел у нацыянальным адраджэнні і дэмакратычных пераменах у Беларусі, — добра вядомая ў шырокіх колах свядомай інтэлігенцыі, неўпрыкмет для многіх, ураз стала «прапашчай і забытай». Здавалася, назаўжды. Але нішто існае не прападае канча. Існай сталася яе цудоўная паэзія. Яна і прабілася скрозь магільную траву… Я ўпэўнены, што заслужана і надоўга. Нам, не здолеўшым затрымаць яе ў гэтым аблудным зямным жыцці, варта хоць зберагчы яе невялікую паднебную паэтычную спадчыну. Спадзяюся, яна будзе дбайна сабрана, выдадзена асобнай кніжкай і бясстрасна ацэнена нашай крытыкай, каб, урэшце, быць годна закладзенай «белым каменьчыкам» у гістарычны падмурак нашай нацыянальнай літаратуры.

**ЛеГАЛ**



Фота з архіва аўтара

Тацццяна Васільеўна ЗІНЕНКА нарадзілася 4 сакавіка 1960 года ў Казахстане. Дзяцінства правяла ў вёсцы Зачысце Барысаўскага раёна. Закончыла Зачысцкую школу, філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля (да 1994 года) працавала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў роднай вёсцы і школах горада Барысава. З сярэдзіны 1980-х актыўна ўдзельнічала ў грамадска-культурным і палітычным жыцці Беларусі (выступала на першых знакавых «Дзядах»).

Пісаць пачала ў сярэдзіне 70-х гадоў. У маладосці атрымала вядомасць як аўтар таленавітых лірычных вершаў. Была ўдзельніцай семінара маладых літаратараў у Іслачы. Друкавалася ў «Днях паэзіі», рэспубліканскіх газетах і часопісах. На вялікі жаль, на пачатку 90-х мінулага стагоддзя яе жыццё, дрэйфуючы ў няпростых сацыяльных варунках, дало рэзкі крэн і паступова звялося да алкагольнай залежнасці…

Памерла 1 лютага 2011 года.

З цягам часу барысаўскія сябры, знаёмыя і калегі выдалі яе пасмяротны зборнічак паэзіі (43 вершы) помна-падаруначным накладам (50 асобнікаў) пад назвай «Плакала дзяўчынка» («Ковчег», 2013). Функцыянуе сайт памяці паэткі (www.zinenka.ru).

**Тацццяна ЗІНЕНКА**

### Пакінь мяне

*Г. А.*

*«Нам быць з табой не выпадае*
*разам,*
*Каханы мой, ты сам пакінь мяне.*
*Не палічу я гэта за абразу —*
*Я па табе заплачу і ў труне,*
*Не пазбягай апошняе прынукі:*
*Пакінь мяне на строме пачуцця», —*
*Кажу табе і прасцiраю рукі,*
*Як безнадзейна хворы да жыцця.*

***

*А пра маю любоў,*
*Якая яшчэ жыве,*
*Так будзе многа слоў,*
*Як кветак у траве.*

*І той, хто горш за ўсіх,*
*І той, хто не па мне,*
*Ён абярэ на міг,*
*Або на век — мяне.*

*І цяжка зразумець*
*Таму, хто не кахаў:*
*Каханне — гэта смерць.*
*А выжыў — дык прапаў.*

***

*Бабуля кажа: «Поўня ўраз саспела,*
*Раз'яснела, і ці не быць зіме…»*
*А да мяне бяссоне падаспела*
*І сцюжаю ўспамінаў так і дзьме…*

*Няма куды ад іх, упартых, дзецца,*
*Як ты ні бібся, сэрца, ні крычы…*
*Бабуля кажа: «Во й зіма*
*крадзецца…»*
*А мне б да ласкі і цяпла ўцячы…*

***

*Вось-вось і ліпа адцвіце,*
*а потым першы ліст гаротны*
*на дол спакойна ападзе, —*
*а не кажы, што мне самотна!*

*Сваю ўпартую тугу*
*пушчу на човен ветрагонны:*
*я і на восені змагу*
*сарваць свой яблык забаронны.*

### ВАС НЯМА

*I*

*За гэты час, што Вас я не пабачу,*
*Пачнецца і закончыцца зіма…*
*І спадзяванні ўсе мае — дарма*
*За гэты час, што Вас я не пабачу.*

*Бо нашу ростань я не перайначу,*
*А верш ужо назваўся: «Вас няма».*
*За гэты час, што Вас я не пабачу,*
*Пачнецца і закончыцца зіма…*

*II*

*Няхай зіма, а я перазімую*
*Пад снегам журавінкаю гарачай.*
*І мы яшчэ сустрэнемся няйначай.*
*Няхай зіма, а я перазімую.*

*Ніколі Вы не знойдзеце другую:*
*Ну, хто па Вас яшчэ вось так*
*заплача? —*
*Няхай зіма, а я перазімую*
*Пад снегам журавінкаю гарачай…*

### Восеньскі матыў

*Я ў цябе не першаю была.*
*Маладосці першыя прымары…*
*Што ў іх ёсць? Нязмушаныя чары,*
*Што прырода задарма дала.*

*Я ў цябе не першаю была,*
*Я ўздыхала восеньскаю пожняй,*
*І півто гарчэйшае піла:*
*З-за таго, што я была…*
*апошняй.*

### Вось і ўсё

*Вось і ўсё.*
*Адглядзелі дарма*
*На цябе мае сумныя вочы.*
*Адчуваю: вяртацца не хочаш.*
*Вось і ўсё.*
*Паняслася зямля*
*Пада мною кудысь ва ўтрапенні,*
*І навек апусцілася я*
*Перад імем тваім на калені.*

*Вось і ўсё.*
*І ў акно не відно*
*Мне цябе. І не выбегчы ў дзверы.*
*Засталося хіба што адно:*
*Ва ўсё гэта аднойчы паверыць —*
*І тады.. вось і ўсё. Вось і ўсё.*

***

*Выходзіць, я — не для сустрэч,*
*А для расстання?*
*І трэба мне збіраць прэч*
*Яшчэ да рання…*
*І я пайду. Я ўжо амаль*
*Кранула дзверы.*
*Няўжо табе зусім не жаль? —*
*Відаць, не верыш…*

*На золку певень запяе,*
*Нібы заплача.*
*І ўспомніш ты мяне, але*
*Не перайначыш*
*Мой адыход, а ў варажбе*
*Я, ой, слабкая.*
*Як не адзіная ў цябе…*
*Лепш — ніякая.*

***

*Здалець пайсці, пакуль не ўсё*
*сказалі*
*Адзін другому мы, і дзверы —*
*насцеж!*
*О, безразважнасць! Ты мне вочы*
*засціш, —*
*Здалець пайсці, пакуль*
*не ўсё сказалі.*

*Мы недарэмна гэтак пакахалі,*
*Бо ў нас адно здарожанае шчасце:*
*Здалець пайсці, пакуль*
*не ўсё сказалі*
*Адзін другому мы, і дзверы —*
*насцеж!*

***

*Мне сумна, а можа і болей.*
*Я бачыла Вас здалёк,*
*Але не прыспешыла крок.*
*Мне сумна, а можа і болей.*

*Чаму ж паміж намі ніколі*
*Не будзе сустрэч знарок?*
*Мне сумна, а можа і болей —*
*Я бачыла Вас здалёк…*

### Прадчуванне

*Якая шчырая мана:*
*Вы — не адзін, а я — адна.*
*Чаго ж я ўслед за Вамі крочу,*
*Як быццам бы на першы злочын?*

*Ах, не пужайцеся дарма —*
*Кахання ў нас яшчэ няма.*
*Ёсць мой капрыз.*
*Ён — недарэчы!*
*Я дзеля Вас яго адпрэчу.*

*Яшчэ мне вецер не данёс*
*Нястрымныя патокі слёз.*
*Яшчэ мой позірк нерашучы*
*Вас абпаліў, ды не замучыў…*

***

*Сыдзіце з воч маіх —*
*я Вас амаль кахаю*
*за тое, што мяне*
*не пакахалі Вы,*
*а проста ля мяне*
*прайшлі, нібыта з краю*
*свайго жыцця,*
*не ўзняўшы галавы.*

*Сыдзіце з воч маіх*
*рашуча й памяркоўна.*
*Я адышла б сама, —*
*ды кроку не ступіць,*
*бо млеюць мае ногі,*
*як не мае ўсё роўна,*
*і я…*
*Але пра гэта*
*не буду гаварыць.*

### Прага агню

*Ты не шкадуй мае лісты паліць,*
*Калі табе бездапаможна*
*хмарна —*
*Яны ў агонь імкнуць самаахвярна.*
*Ім толькі там наканавана*
*жыць —*
*Ты не шкадуй мае лісты паліць.*

*У тым агні я набыла радню,*
*З таго агню я прасцiраю рукі*
*Не дзеля паратунку —*
*дзеля мукі*
*І прагі яшчэ большага агню,*
*У тым агні я набыла радню.*

*Дык не шкадуй мае лісты*
*паліць:*
*Вартуй агонь, каб не знікаў*
*дачасна,*
*У полымі ніколі я не згасну,*
*Бо я жыву, пакуль душа гарыць.*
*Ты не шкадуй мае лісты паліць.*

***

*Як хутка спыняецца наша*
*дарога.*
*Нам час разлучацца,*
*а рук не разняць.*
*Дазвольце мне Вам напаследак*
*сказаць:*
*Як хутка спыняецца наша дарога.*

*Бясконцая роспач мая і трывога,*
*Мне Вас немагчыма ніколі суняць.*
*Як хутка спыняецца наша*
*дарога.*
*І час разлучацца, а рук*
*не разняць.*

ФРАГМЕНТ

# ПЕРАЎТВАРЭННЕ



Фота lj mr_senokos

Анка УПАЛА



## Знайдзі мяне, пакажы мяне

У другой палове дня я паехала ў Серабранку, у клуб, дзе кінааматары разам глядзяць фільмы, седзячы на падлозе, а потым іх абмяркоўваюць. Я не прагная да відовішчаў, але самота пацягнула мяне за сэрца, і я адчула патрэбу пабыць побач з людзьмі.

Серабранка — мінскі раён з нялепшай рэпутацыяй. Калі я толькі пераехала ў сталіцу, мне было нязвыкла, што ў горадзе існуе падзел на прыстойнейшыя раёны і раёны горшыя, дзе крыху больш людзей паспалітых, якія могуць начысціць чужынцу твар і адціснуць мабілу. Мне не страшна ехаць туды, бо ў Магілёве, адкуль я вядуся, агулам так, як у Серабранцы. У нас няма раёнаў для шляхты, усё заселена аднолькава, гамагенны такі людскі замес з перавагай цёмнай простасці. Ды што казаць, наша краіна збольшага такая, а я ад яе каранёў, хоць і адрозніваюся. Гэта як на целе часам вырастае лішняя пупышка — здаецца, без патрэбы, але арганізм яе не адвяргае, бо яна плоць ад плоці ягонай.

Да кінаклуба я не даехала, бо заблукала. Бываюць такія дні, калі ўсё атрымліваецца абы-як, напрыклад, аўтаматычна ты выціскаеш смятану з пакета ў кубак кавы, выліваеш яе, варыш новую порцыю, забываешся пільнаваць, і яна гарэзліва выкіпае на пліту. Або выпадае з рук і разбіваецца аб падлогу трохлітровы слоік з салёнымі агуркамі. Або ты садзішся ў тралейбус, які едзе ў няправільным напрамку і вязе цябе туды, куды твая дарога не ляжала.

Усе гэтыя рэчы здарыліся са мной у той дзень. Наагул, адразу пасля такога яскравага сімптома, як смятана ў каве, я б мусіла сказаць сабе: стоп, ніякіх важных спраў на сёння. Але я не выявіла кемлівасці, нават пасля таго, як на дапамогу самаахвярнай каве з двух'якім падвыпадвертам, прыйшоў слоік з агуркамі і недвухсэнсоўна дапамагаў зразумець. Я ж пазбірала з падлогі агуркі  і шкляныя аскепкі і, выцершы анучай і адціснуўшы ў вядро расол, падумала, што мне трэба ехаць. Самота штурханула мяне ў спіну і выгнала з дому.

Гэта каля ўнівермага «Беларусь» прастора скрывілася, паказала мне язык і пасадзіла не ў той тралейбус. І я паслухмяна села і паехала, паглядаючы ў акенца. Цяпер я скарысталася б навігатарам — калі еду ў незнаёмае, уключаю яго і, як Вялікі Назіральнік, гляджу на сябе зверху, сачу, як аўтобус вязе мяне па вуліцах. Сярод ночы, калі не спіцца, магу ўключыць GPS проста так. Знайдзі мяне, пакажы мяне сярод усіх звяроў і прадметаў на зямлі. І ён заўжды знаходзіць і паказвае.

Але тады ў мяне не было такога блізкага сябра, і я заехала немаведама куды, адкуль потым паспрабавала выбрацца правільнейшым тралейбусам. Час ішоў, на дварэ цямнела, і без таго слотнае надвор'е толькі пагаршалася. Я мяшала ботамі снегавую кашу паміж безаблічных серабранкаўскіх высотак, якія здзекліва паглядалі на мае блуканні сярод іх шэрых падножжаў. Навучаны мачыхай бацька цалкам мог бы пакінуць Ганса і Грэтэль у Серабранцы — яны безнадзейна згубіліся б там з першага разу. Ува мне памёр спадзеў адшукаць дурацкі кінаклуб.

Пошукі патрэбнага дома астабрыдлі, вецер пляскаў па твары клёклымі шматкамі снегу, я стамілася і была на мяжы слёз ад прыкрасці. Хацелася дамоў ці хаця б часова выратавацца ў якой-небудзь кавярні, дзе можна адагрэцца супам. У разбалансаваным становішчы я заўжды ем суп, але нішто мне яго не абяцала, ніякіх кавярняў не траплялася. І ад бяды я зайшла ў аптэку.

Прынамсі тады я падумала, што гэта аптэка, над уваходам вісеў знак, у якім я прызнала аптэчны, праз акно я бачыла паліцы з нейкім шкляным начыннем, бутэлечкамі, папяровымі пачкамі. Зрэшты, я не збіралася нічога купляць. Узнялася на разбіты ганак і пацягнула на сябе нясвежа-белыя пластмасавыя дзверы. Унутры памяшкання гарэла прыглушанае святло ад слабых лямпаў на сталі; я падумала, што ўласнік, мабыць, эканоміць на электрычнасці. Наагул тут панавала няўтульнасць, як у нашых дзяржаўных установах, хоць нічога не было разбіта ці пашкоджана. Такое адчуванне мог выклікаць бежавы колер, якім былі пафарбаваныя сцены ўнізе, як фарбуюць іх у тужлівых гнёздах бюракратыі. Я б выйшла адтуль неадкладна, калі б мне не хацелася пагрэцца і прыйсці ў сябе, а звонку мяне не чакалі серабранкаўскія высоткі, быццам гатовыя прысесці на карты. Вязаная асенняя шапка амаль не ратавала вушэй ад ветру са снегам, мне ўжо пачынала дзерці  ў горле.

За аптэчнай стойкай нікога не было. З наведнікаў апроч мяне быў яшчэ чалавек сярэдняга веку з хлопчыкам гадоў васьмі, верагодна, сынам. Яны не чакалі ля прылаўка, каб штосьці купіць, а ціха перамаўляліся, стоячы перад карцінкамі на сцяне, як бы тое была галерэя. Бацька пра штосьці пытаўся, а хлопчык адказваў. Я прайшла ў іх за спінай і таксама спынілася паглядзець. Пытацца нічога не стала, не люблю гаварыць і дарэмна заводзіць размовы. Кожнае слова — страчаная энэргія, якую на пустое не варта выдаткоўваць. Карцінак было ўсяго тры, удзетыя ў простыя цёмныя рамкі з адным сюжэтам у развіцці: на белым фоне выяўляўся варсісты какос з дзвярыма і непразрыстым дэкаратыўным акном, проста акрэсленым лініяй. На другім малюнку з какосавага дома выходзіў яго жыхар, няўцямная схематычна намаляваная істота з круглаю галоўкай. На апошнім малюнку чалавечкаў было двое, адзін з іх роспачна трымаўся за шчокі ўзнятымі рыскамі, што мусілі паказваць рукі. Абодва яны нагадвалі мне моль.

Малюнкі зацікавілі і прымусілі разглядаць іх уважліва. Падалося, што я бачыла недзе гэтых істотак раней і ведала, чым яны занятыя і як жывуць. Але тое веданне нібыта забылася, і я не магла вывудзіць яго са сваёй памяці, што памнажала неспакой і нейкую разбалансаванасць, якая мяне праследвала.

Я не засталася там доўга. Крыху пастаяла, а потым пашыбавала шукаць тралейбусны прыпынак, каб вярнуцца дахаты.

Дома я скінула раскіслыя боты і вопратку, сцягнула мокрыя шкарпэткі і закінула іх у пральную машыну разам з джынсамі, калашыны якіх вымаклі  і забрудзіліся ўнізе. Варыць суп не было сілаў. Я залезла ў гарачую ванну, дзе сядзела амаль да дурноты, бо надта не хацелася хварэць. Я прадчувала ўжо вайну ў сваім празяблым целе паміж нябачнымі  захопнікамі і лейкацытамі, незлічоныя войскі якіх палягуць, абараняючы сваё жытло. Перад сном я запарыла здрабнёны корань імбіра, дадаўшы мёду і распушчаны ў цёплай вадзе пакет вітаміна С. Адправіла гэты правіянт унутр сябе, каб падтрымаць войска сваіх абаронцаў. Часам такі фокус дапамагаў мне ў самы апошні момант.

Тае ж ночы ў мяне ўзнялася тэмпература. Прастуда ўчапілася ў грудзі драпежнымі пальцамі ведзьмы. У горле непрыемна шкрэбла, як бы я праглынула лапуховыя калючкі, што ў нас завуцца дзядамі і якімі мы шпурляліся ў дзяцінстве, каб яны ўчапіліся ахвяры ў валасы ці прысталі да адзення. Гэтыя калючкі напраўду нагадваюць сівыя дзядоўскія галовы з кудлатымі барадамі.

## Пераўтварэнне

— Я хачу быць, як Капітан, хачу пайсці па дарозе.

— Мы не таго гатунку, сын, каб ісці. У нас іншае прызначэнне. Агледзься, ці ты бачыш нейкую дарогу? Няма нічога. Ёсць толькі мы і наш дом.

***

Сын увайшоў у цёплую ваду і лёг на спіну. Вада трымала яго лёгкае маленькае цела. Ён заплюшчыў вочы і гайдаўся на хвалях, як нежывы. Паступова яго вынесла на сярэдзіну возера.

Невядома, колькі ён там знаходзіўся, але аднойчы час выйшаў. Сынава цела прачнулася, выбухнула пупышкай, пачало расці, імкліва выціскаць прастору вакол сябе. Хутка яно заняло сабой усё возера, больш не змяшчалася ў яго; ногі, рукі, жывот, галава — кожная частка цела зведала змены, узбуйнілася і змяніла форму. Скура зрабілася пурпуроваю, выраслі грудзі. У вадзе цяпер ляжала жанчына, вялікая і жыццядайная. Яна спачывала спакойная і новая, нагамі і галавой упіраючыся ў ілістыя берагі. Жоўтыя трубчатыя расліны калолі яе ступні. У доўгіх цёмных валасах, як у водарасцях, шворыліся маленькія рыбкі.

Жанчына расплюшчыла вочы і ўзнялася.

***

Бацька бег за ёй, губляючы сілы, вязнучы ў пыле, вільгаць з вачэй пакідала дарожкі на твары. Спрабаваў ухапіць яе за нагу, рызыкуючы быць расціснутым велізарнай ступнёй.

— Стой! — дыханне хапіла толькі на адно кароткае слова.

Ягоны галасок згубіўся ў рухомых сферах. Немагчыма, каб там наверсе яна пачула ягоны адчай — гора засталося незаўважаным. Яна сыходзіла назаўжды па дарозе, што выпроствалася перад ёю.

Бацька адчуў, што не можа больш бегчы, і ўпаў, апёкшы калені і далоні аб нованароджаную гарачую зямлю. Пурпуровая жанчына спынілася і павярнулася, каб агледзецца, ледзь не наступіўшы на штосьці непрыкметнае для яе.

Паўсюль, дзе раней была белая пустэча, паўставалі бяскрайнія бледна-зялёныя ўзгорыстыя палі, паўз якія сцяліліся ў розныя накірункі жоўтыя дарогі. Усё змянялася, і зменам не было канца. Але абрынаўся толькі стары свет. Паўставаў новы, невядомы. І гэта і не добра і не блага.

***

Бацька сеў на ганку і сцішыўся, пусты і самотны, навокал выраcталі дрэвы, паўставалі пагоркі, разгортваліся дарогі, пульсавалі былыя нябачныя рэкі і з'яўляліся новыя. Так ён сядзеў доўга, потым увайшоў у дом, дзверы замкнуліся. Ён засне зноў і будзе спаць, чакаючы, пакуль не прыйдзе зіма і не супакоіць ліхаманку новага свету.  Яна засыпле жоўтае, зялёнае, пярэстае белым. І свет забудзецца пра сваё нараджэнне і заглыбіцца ў сваю існасць, задрэмле, будзе адпачываць. І сон бацькі, як падмурак, будзе трымаць яго. Гэтак жа, як ён трымаў мінулы свет, ужо забыты, ужо няважны. І гэта не добра і не блага.

***

І я тут, і я тут, але дзе маё цела? Якое страшнае пачуццё, калі ты нават не страціла памяць, а наадварот, памятаеш і ведаеш празмерна многа. Зашмат для мяне адной, хопіць на некалькі чалавек. Дзе мая існасць? Якія рукі мае, якія вочы, якая роля? Гэта мая галава празрыстая, праз мяне прасвечвае сонца? Я знаю гэты дом, я там спала, як у кокане, я разбурала і я сыходзіла, гэта я плакала, я бегла, я не магла ўтрымаць, я страціла, я супакоілася, я заснула. Я бацька і я сын. Гэта я падзялілася на два і зноў заснула зернем у доме.

***

Ноч і наступны дзень я праляжала ў ліхаманцы, то засынаючы, то прачынаючыся, мокрая ад перападаў тэмпературы, якую збівала лекамі. Цяжкая галава адмаўлялася думаць, нос не дыхаў, вачам было балюча глядзець у кампутар, і мяне хапала толькі на тое, каб запарваць і заліваць у сябе гарачую гарбату. Мне сніліся нейкія складаныя сны, якія я забывала, прачнуўшыся. Памятала толькі, што я калыхалася ў цёплай вадзе і спрачалася з кімсьці, хто мяне не разумеў.

▸ **ВЕРШЫ**

# ДВОЙЧЫ Ў АДНОЙ РАЦЭ

**Алесь КАСКО**


Фота А.Ганчука

## Разгубленасць

*Вітаць усход сонца? Усход над сталіцай*
*насупленай шчыльнаю хмараю.*
*Узірацца ў будынкі? Яны*
*нагадваюць фрэнчы вайсковыя.*
*Услухацца ў салаўя? Абудзяе*
*пошчак шчытоў і шчоўканне гумы*
*рэхам, не выветраным часам.*

*Газеты гартаць? У іх алілуйшчына,*
*як палімпсесты на некралогах.*
*Сотавік сябраў набраць? Блакаваны:*
*раптам пачуюць трэція вушы.*
*У сквер Купалаў падацца? Там*
*паэта няма, блукае над Свіслаччу,*
*над ракою жыцця замутнёнага.*

*Так і стаю на гаўбцы гатэльным,*
*абкурваю думкі, бы пчолаў, і ўсё-ткі*
*ў чаканні гляджу на праспект —*
*невядома чыёй — Незалежнасці:*
*вось-вось паявяцца белыя вершнікі,*
*паклічуць мяне з сабою*
*ці праніжуць пагардлівай дзідаю.*

## Навагодняе сола

***Мікалаю Аляксандраву***

*Не круіз, не мыс, не ўзмор'е,*
*ды ўскруцілася надвор'е:*
*золь і шторм! І сеў на мель*
*горад, быццам карабель.*
*Нізкаверха, крывабока,*
*з мігаценнем мокрых вокан*
*б'ецца ў шквале слюдзяным.*
*Мітусіцца сцяг над ім.*
*Голай палубаю плошча*
*раскалыхвае, палошча*
*елку-мачту. Дождж ілье,*
*і ў яго сівой імгле*
*з праблiскам святла сляпога —*
*ні стырна, ні стырнавога.*
*Толькі хісткая адна*
*постаць нечая відна.*
*Гэты нехта сам святкуе,*
*і блазнуе, і танцуе,*
*і гукае, бы вар'ят, —*
*зычыць свету добрых свят.*
*Гэты нехта непрытульны*
*дураслівіцца, пакуль не*
*пойдзе спаць ці піць віно,*
*ці апусціцца на дно,*
*ці трубу з нябёс пачуе*
*ды ў псіхарні заначуе…*
*Аднаму — усё адно!*

## Паэты-эмігранты

***«Птушкі ведаюць гнёзды свае…»***
***Ф. Скарына***

*Пэўна, і ў выраі гнёзды свае…*
*Родным прасякнуты духам,*
*птах не адзін па-крывіцку пяе*
*блізка й далёка за Бугам.*

*Кожны з іх ведае шлях свой назад,*
*вучаны доляю сведкаў:*
*вось прыляціш — а твой ссечаны сад,*
*а замест гнездзішча — клетка.*

*Род будаваўся тут сотні гадоў,*
*ды па галінцы, пярынцы*
*ўсё расцягнула гурма груганоў,*
*нелюбаў песняў крывіцкіх.*

*Так! Як апрыкрае ростані смак,*
*прагнуць вярнуцца хоць позна*
*птахі, сагнаныя з гнёздаў, аднак —*
*ці ж да спаганеных гнёздаў?!*

## Апакаліпсіс

***(пасля аварыі на Беларускай АЭС)***

*Мне прыснілася восень жуды:*
*мы палыннымі зоркамі сталі,*
*а на котлішчах, як і заўжды,*
*за сталамі паселі Дзяды,*
*што жывых не засталі.*

*Ні хлябоў на сталах, ні вады;*
*запытальна ўзіраюцца ў далі, —*
*там ад спёкі згараюць сады,*
*там чарнеецца знакам бяды*
*атам на п'едэстале.*

*І прыснілася, што праз гады*
*(продкі ў міг іх адзін спрасавалі)*
*мы, палынныя зоркі, сюды,*
*мы, тлен і попел, нат на клады*
*прылятаць перасталі…*

***

*Няшчырыя мы нават у канцы,*
*калі ў жалобе тоўпімся над мёртвым,*
*калі канонам векавым і цвёрдым*
*вядуць хаўтурны спеў над ім айцы.*

*Скрыпіць аркестр натомленым акордам,*
*а мы, на цёплую слязу скупцы,*
*уласныя сардэчныя рубцы*
*перабіраем у маўчанні гордым.*

*Усцешна: размінуліся з чаргою,*
*не роўня нам паніклы галавою,*
*што і прапойцам слыў, і хліпаком…*

*Дык ён, калі б ажыў хоць на хвіліну,*
*сам прыпляскаў бы вечкам дамавіну*
*і сам, каб мог, прысыпаўся б пяском.*

## Вуліца

*Святочныя, як лісце бабінага лета,*
*умытыя, як вокны ранішніх дамоў,*
*на шпацыры выходзім — і здаецца,*
*што бясклапотныя мы ўсе, нібы нядзельны*
*дзень.*
*За пудравым пылком схаваліся маршчыны,*
*за бляскам сонца — цьмяны сум вачэй;*
*яднае, роўніць нас суцэльная стракатасць,*
*размытасць руху ў мностве рук і ног.*
*Нас нівелююць падсвядомыя памкненні*
*прыняць за яву мройнасць, страх*
*прыўзняць*
*ці скінуць хоць на момант павалоку свята,*
*да ўласных мулкіх згадак чужыя далучыць.*
*Не, нам высокае бліжэй — з птушынага*
*палёту*
*або з падробленых гірляндаў на слупах*
*натоўпы сузіраць, — адтуль,*
*адкуль не можам*
*сляпому кій падаць, а ўпалага падняць.*

## Ашуканы

*Заблукаеш у парк уночы*
*мякка, моўчкі, амаль па-воўчы*
*і баішся ў кулак завыць,*
*цішу горада разбудзіць.*
*Спіць твой горад за сінім змрокам.*
*Хай паранены ты глыбока,*
*ды прымроіш — нібыта зноў*
*ты вярнуўся і сам дамоў,*
*і нібыта цябе з кватэры,*
*распрададзенай да шпалеры,*
*не выцкоўвалі махляры…*
*Іх спаткаеш на цвінтары.*
*Як падкажа твой вопыт скрушны,*
*што не трэба ім лезці ў душы, —*
*учарашнія крыўднікі*
*не абыдуць тваёй рукі.*
*Будзеш подаўкам іхнім рады*
*і ні разу не ўсхрыпнеш: г-гады! —*
*не падступішся ні на крок*
*ды не зыркнеш на іх, бы воўк;*
*кінеш позірк на крыж царкоўны,*
*позірк ціхі і памяркоўны…*
*Яны ўпэўняцца: беларус.*
*Яны возьмуць цябе ў хаўрус.*

## Двойчы ў адной рацэ

*Ад спёкі на сэрцы ўцёк да ракі,*
*на бераг бязлюдны; вада заняпала,*
*ды з кожнаю хваляю ўпарта прыносіць*
*мне бацькавы скаргі на адзіноту,*
*за тыя хвалюецца, што засталіся*
*на дне пацямнелым, заіленым.*
*Паблісквае водмель слязінкамі маці,*
*якіх я не бачыў калісьці, заглыблены*
*ў сябе, або ў кніжкі, або ў далягляды, —*
*і позна сціраць іх ражком аблачыны.*
*Затока пад трыснягом і гарлачыкамі*
*плюскоча гамонкай, пазвоньвае чаркамі*
*сяброўскіх вячэрняў, тады абыякавых*
*да трывог, што таіліся ў нас паасобку.*
*У сінім віры, куды зазірнуў выпадкова,*
*люструюцца вочы твае неспакойныя:*
*няўжо і па сёння ўзаемнасці прагнуць?..*
*Хвалюецца кожнаю хваляй вада,*
*я ж думаў — сплыла даўно й назаўсёды.*

***

*Асляплены ясным прыцемкам,*
*слыху пазбаўлены цішынёю,*
*абпалены жаўталісцем,*
*прыцягнуты даляглядам —*
*спыніўся ў разгубленасці:*
*чаму гэтак шмат — аднаму?*

*Сябра не падыму, а каханай*
*не дагукаюся: я даўно ўжо*
*за межамі яе чуйнасці…*
*Быў бы падарожнаму рады,*
*ды хто за спінаю — не прычакаю,*
*хто паперадзе — не даганю.*

*Збочваю да сябе, і праводзяць*
*зноў ачунялага ад ілюзій*
*дарога бязлюдная, вецер*
*ды астылае хараство,*
*душой не спажытае без жалю,*
*бо нашто яно — аднаму?*

***

*«Сёння ў нас выпаў першы снег», —*
*паведаміла ты праз «электронку».*
*Астатняе, недапісанае, сам уяўляю:*
*цябе з першаснегам віншуе ён,*
*хто набыў у аранжарэйшчыка ружы;*
*ім, беласнежным, ты радуешся так,*
*бы калісь маім падснежнікам…*
*А ў нашым горадзе не жыве тая,*
*што магла б мяне павіншаваць*
*і каго павіншаваць мог бы я.*
*Таму і няма ў нас снегу.*


Фота А. Х.

НАТАТКІ

# ГАЛАВА І ВАЛАСЫ

## СТАРОНКІ З ЗАПІСНЫХ КНІЖАК (1960–1988)

**Анатоль КУДРАВЕЦ**



Падумаў пра старых пісьменнікаў, пра тое, што часта яны пішуць слабей і слабей. Падумаў пра старасць, і ўспомніліся дзяды, што сядзелі на прызбах і плялі лапці. Не перашкаджайце старым плесці лапці!.

Сеў за стол, пісаць. А што пісаць? Пра што пісаць? Пра тое, што пачаў баяцца спаць? Што страх пачаў скоўваць усяго — і днём, і ноччу, асабліва ноччу. Што кожны стук аддаецца нажом у сэрца. Што страшна паміраць і што паміраць трэба? Што ўрэшце рэшт усе вялікія праблемы зводзяцца да лакальных — хлеб, дзеці, жонка...

У лесе восень ідзе знізу, на лузе — зверху. Адцвілі, пачарнелі галоўкі дзяцеліны, пачала чарнець асочка і мятлюга, адцвіў даўгашчокі люцік.

Куравыя вочы дыму не баяцца...

Да бяды вельмі мала трэба...

Я ў вас у кожнага ў мордзе пабываў...

Дрэнная тая курыца, што ад сябе грабе...

Каб цябе нямножыла (на каня).

Калі не поп — не ўбірайся ў рызу.

Гаўно застанецца гаўном, нават калі яго падняць на Эйфелеву вежу.

Люлі, люлі, дзіця спаць, адна маці, бацькоў пяць.

«Што гэта за дрэва, на якое птушкі не садзяцца»,— сказаў Піцэраў заяц, калі яму сказалі, што да яго Нінкі хадзіў Міша Аляксееў, калі заяц быў у Карагандзе.

Затрашчаў, зашуршэў гром, быццам пасыпалася жарства.

Думы пра жыццё. Яны разрываюць галаву. Часам здаецца, што чэрап не вытрымае і лопне, разваліцца на часткі. Ён ужо развальваецца, і трэск яго раздаецца ўсюды. Нават калі б зямны шарык раскалоць на дзве часткі — атамных і вадародных бомбаў ужо накоплена больш, чым на гэта, — то ён не трашчаў бы так моцна. Здаецца, што баліць не мозг, а месіва, тое, што лічыць сябе мазгом.

Ігнат Дуброўскі: «У кампаніі немагчыма не піць. Адразу адстаеш у настроі, і, лічы, вечар сапсаваны...».

На веранду заляцела сінічка. Лётае, б'ецца ў шкло. Прынёс стул, злавіў яе: хай адагрэецца. Прынёс у пакой. Зноў пачала біцца ў шкло, потым прыціхла. Гляджу — ляжыць каля шафы. Ножкі ў павуціне, выцягнутыя назад, пярынкі растапыраны, а пярынкі лёгкія, далікатныя — адзін пушок. На галаве жоўта-ружовая палоска, дзюбка вострачкая, сціснута, вочы — дзве канопліны, затуманеныя. Ляжыць нежывая. Памёрла. Ці ад голаду, ці пабілася. Вось і адагрэў.

Мяллян мяккі, куды пахінеш, туды і гнецца. Мяккі — то не скора пераломіцца.

Раніцай зайшоў у рэдакцыю Андрэй Кукевіч (журналіст). Яго прыход мяне ўзрадаваў. Даўно не бачыліся, ды і не было нікога з іх, з кім можна было перакінуцца словам-другім, — работа, работа, работа...

Андрэй і сказаў, што Толю Сербантовіча ўчора забралі ў Навінкі. Навінкі, псіхі. Навіна гэта была для мяне не надта нечаканай. Учора, роўна ў гэты час, я пачуў на калідоры Толяў голас. Выйшаў. Павіталіся. Голас у яго быў надта моцны. Ён гаварыў так, быццам перад ім стаяў глухі. Я зірнуў яму ў вочы — і мне стала страшна. Вочы былі з мутнёным прысадкам. І бегалі, як заведзеныя. Я збег — спачатку ў рэдакцыю, пасля на вуліцу, пасля ў кавярню. Андрэй расказваў, што Толя гаварыў пра тое, як яго выключалі з універсітэта, з камсамола. Як за ім нехта гнаўся. Толя быў упэўнены, што гэта быў кадэбэшнік... А ўвогуле, ён хоча мяняць кватэру... Ён так хадзіў па калідоры да канца работы, а потым яго забралі. Не ведаю, як там апынуўся Кукевіч, але ён сказаў, што доктар сам яшчэ нічога не ведае, баіцца, што гэта ціхае памяшанне.

А мне ўспомніўся Толя яшчэ маіх студэнцкіх часоў. Было, ён з месяц жыў з намі ў адным пакоі. Прыходзіў заўсёды выпіўшы і заўсёды, калі ўжо ўсе спалі. Ціхенька клаўся, а ранічкай, калі ўсе яшчэ спалі, падымаўся і ўцякаў. Адзін раз я ўсё ж устаў раней за яго і паспрабаваў прачытаць яму «мараль» пра ягоныя паводзіны. Ён не спрачаўся, неяк бегла прагаварыў: «Добра, добра, я буду іншым» — і пабег. Вядома, «іншым» ён не стаў...

Заходзіў Сцяпан Гаўрусёў. Паздароўкаўся, як заўсёды, з усімі за руку. Пайшоў — таксама падаў усім руку. Было нешта сумнае і ў яго прыходзе, і адыходзе. Пакамечанае старое паліто, сутаргавае торганне шчакі, стомлены і жаласлівы, быццам хацеў падлобрыцца, голас, калі гаварыў па тэлефоне з жонкай і сынам. Ён гаварыў па тэлефоне, калі нехта сказаў, што памёр Глебка. Паклаў слухаўку: «А я ў яго сто рублёў пазычыў. Як яму цяпер аддаць? На магілу занесці? Ці жонцы? Пайшоў чалавек і думаў, што я яму не аддаў...». У галасе ўсё тыя ж сум і стомленасць.

За столікам у кафэ «Маладзёжнае» прыселі два мужчыны: адзін — гадоў на 40–45, другі гадоў на трыццаць. Старэйшы — з прыгожым, нездаровым, ці стомленым, ці хваравітым, тварам. Гаворыць. Відаць, звольнілі з авіяцыі, быў лётчыкам, жыў у Тушына.

— Усё ёсць: чатырохпакаёвая кватэра, «Волга», добрая пенсія, а цягне лётаць. Раней, малады, я не разумеў гэтага. Гаворыць: цягне ў мора, а нельга. Нельга, значыць, і не павінна цягнуць. Ці лётаць. А цяпер сам адчуў. Выязджаю на шашу, машыне па самую плешку, колькі яна там — сто сорак, і мала. Жонка кажа: «Я з табой нікуды не паеду. Ты як шалёны». Ляцеў неяк у Данбасе, у самалёціку. Маленькі, чатырохмесны, чэшскі. Яны не прыжыліся ў нас. Былі мы ўдвух. Прашу лётчыка: «Братка, зрабі пятлю».

Ён глядзіць на мяне як на дурня.

— Зрабі, — прашу. А ў грудзях так падпёрла, хоць плач. Дастаў з чамадана бутэльку рыжскага бальзама, даю: «Зрабі, будзь ласкаў».

Паглядзеў ён, паглядзеў на мяне — і крутануў адну пятлю. І ў мяне як быццам адлягло ад сэрца.

Радня — ад рабой каровы каўбух.

Лёс бацькоў і братоў.

Бацька, Шпак Герасім, мамін брат, загінуў на фінскай вайне, маці год перад тым памерла ад туберкулёза. Дзеці — Міша, пяць гадоў, Валодзя, два гады, засталіся з дзедам Іванам і бабай Аўгінняй. Незадоўга да вайны рашылі здаць дзяцей у прыют, у Бабруйск. Вярталіся, даехаў да Асіповіч, і пачалася вайна. Група, у якой быў Міша, пеша ішла на ўсход. Недзе іх падабрала машына. Завезлі ў Казахстан, і там бяздзетны палкоўнік забраў Мішу, усынавіў, даўшы сваё прозвішча — Сініцын.

Валодзю разам з меншымі дзецьмі везлі на машыне. Наляцелі самалёты, іх разбамбілі. Нейкая жанчына, Валодзя думаў, што гэта маці, а то была выхавацелька, несла на руках дзяўчынку. Валодзя бег услед. Паказаліся немцы. Жанчына, не аглядваючыся, пайшла ў лес. Валодзя заплакаў. Вывальваючыся з машыны, ён вывіхнуў руку. Яго падабралі немцы, пасадзілі на падводу, завезлі ў нейкую бальніцу, управілі руку. Пасля яшчэ прыходзілі, прыносілі цукеркі, потым завезлі да нейкай бабы, сказалі: глядзі.

Яна і глядзела. Сваіх трое, Валодзя чацвёрты. Прыйшла Чырвоная армія, жанчына завезла Валодзю ў дзіцячы дом. І там, ужо ў шостым класе, Валодзя сустрэўся з хлопцам, старэйшым гады на тры. Той і гаворыць: «А я цябе ведаю. Ты з Дзмітраўскага сельсавета Клічаўскага раёна».

Валодзя паслаў запыт у Клічаў. Прыйшоў адказ: Пруднікавых у раёне няма. Пруднікаў — Валодзя сам сабе выдумаў прозвішча, свайго, Шпак, ён не помніў. Потым было ФЗА, Камсамольск, армія. Паслаў зноў запыт у раён. Сарока з ваенкамата аб'ездзіў увесь раён — Пруднікавых няма. Прыслаў адказ: «Дайце яму водпуск, хай сам прыедзе».

Прыязджае. Паехалі ў Дзмітраўку, сабралі старэйшых жанчын. Адна з іх паглядзела на Валодзю і кажа:

— Нікога, хлопчык, ты не шукай, а ідзі ў Аколіцу, там жыве твая цётка, а другая ў Максімавічах. Ты Любін і Герасімаў сын.

Валодзя пайшоў у Аколіцу, знайшоў цётку Аксеню, яна прызнала яго за радню. І вось доўгая ноч у цёткі. Назаўтра ён гаворыць:

— Можа, цётка, я ніякая не радня вам, вы прызналі мяне па дабраце. Пайшлі ў Максімавічы, да цёткі Веры.

І там яго прызналі.

Радню знайшоў. Заставалася знайсці брата.

Паехаў даслужваць і шукаць брата. Служыў на падводнай лодцы. Лодка выйшла ў мора і не вярнулася. Брат таксама дамоў не вярнуўся, у турму трапіў. Згінуў.

Вось і ўся сямейная біяграфія.

Трагедыі бягуць за намі. (Выкінулася з балкона (8-мы паверх) Жэня Янішчыц).

Пляменніца Георгія Булацкага з маленькай дачкой ішла якраз па двары і бачыла, як лёгкай птушкай мільганула з балкона ў расквыленай адзежы чалавечае цела. Страшна глядзець, як мёрзлая зямля ляціць насустрач жывому трапяткому чалавеку.

Гук удару і адчуванне жаху, што ўжо нічога не зробіш, ёсць нешта спакойнае, абыякавае, раўнадушнае да ўсяго на свеце і да таго, што адбылося з ім — чалавекам.

Аптыміст Маякоўскі пайшоў следам за песімістам Ясеніным, зрабіўшы ўсё, каб даказаць перавагу аптымізма над песімізмам. Не даказаў. І гэта не проста факт гісторыі, факт веку, факт пастаянства.

Я думаю, што Жэня Янішчыц шмат разоў стаяла перад адчыненым вакном, перш чым зрабіць свой апошні страшны крок. Яна не ведала страху і не ведала цаны свайго страху. Можа, яна думала, што балкон — тая ж мяккая, тонкая кладачка, што адкрыла ёй дарогу ў паэзію, у свет прыгожых ілюзій. Там была кладачка над ручайкай, яна была тонкая, хісткая, але свая, зямная. Як усё зямное, кладачка ўмела жартаваць. Бетон жартаў не любіць, не разумее. Ён крышыцца, а не гнецца.

Я пакінуў Анюту дома, а сам пайшоў у магазін. А каб яна не баялася пабыць адной — хай глядзіць у вакно. Я толькі прайду ў магазін туды-сюды. Вакно я ўзяў на зашчэпку: думаў убачыць мілы тварык за шклом.

Праз пяць-шэсць хвілін выйшаў з магазіна, зірнуў на вакно і ўбачыў, што яно расчыненае. Відна была лямпа, што чорным сілуэтам стаяла на падваконніку, а там, дзе павінен быў быць тварык унучкі, была расчыненая створка. Дзявяты паверх...

Не памятаю, як я ўскочыў у ліфт, як адамкнуў дзверы... Сустрэла сама Анюта:

— Я цябе шукала, а цябе не было...

— Я ж махаў табе рукой...

— Цябе не было...

Створка вакна сапраўды была расчыненая. Але ж я перад выхадам узяў яе на зашчэпку.

Старшыні прыходзяць і адыходзяць, а бухгалтары застаюцца.

Захварэў на грып. Тэмпература невялікая — 37,2, але ломіць косці, выкручвае ногі, кашаль, слабасць. Ляжыш — здаровы, устаў — ногі дрыжаць, сам дрыжыш, як пасля страшнага перапою...

У каторы раз гляджу на Любу — такая далікатная, чулая, мяккая, простая.

Ёй радасна лячыць, даваць лякарствы, ставіць гарчычнікі... Не пазнаць жанчыну — быццам трапіла ў сваю стыхію. Думаю: прападае такі педагог, ці доктар, ці дзіцячы кіраўнік...

«Не выступай...» — лозунг часу. Нават Вера на Паўла гаворыць: «Не выступай, Паўлік». Веры — дзевяць, Паўлу — чатыры.

Масіўны, шыраказады, з мяккім жаночым тварам і нечакана звонкім бабскім голасам, ён хадзіў шырокімі плывучымі крокамі, нахіляючыся наперад, быццам на плячах у яго быў мех пудоў на пяць, і ён увесь час баіцца, каб самога мех не павёў убок.

Ён чэпка і моцна браўся за край кафедры, нібы яна была яго ворагам і ён зараз скрышыць гэтага ворага.

Зацвіла вішня. Адламаў галінку. Пах сухога перагарэлага сена — душны, сухі, перхатлівы.

На базары. Жанчына прадае бэз.

Пакупніца:

— Што вы, ён жа ўвесь асыпаецца.

Прадаўшчыца:

— Што ж тут такое. Галаву чэшуць — валасы сыплюцца, галінкі ломяць — пялёсткі сыплюцца.

— Пакуль зязюля не закукуе, лягушка не будзе турчэць.

— Каб цябе людзі аббягалі.

(З пісьма з піянерлагера). Добры дзень, мамачка. Мне тут добра. Толькі пуцёўку другі раз не бяры.

На тым месцы, дзе некалі стаяў манумент Сталіну, густа заселянела трава. Прабілася ў пазы паміж каменнямі, стварыўшы роўны, ярка-зялёны квадрат. Як напамін тым, хто нешта помніць.

Павел:

— Адзін людзь сказаў аднаму чалавеку…

Глядзіць на неба. Там пачаўся месяц.

— Ой, як гарбуз.

— Ага, нехта адрэзаў.

— Няпраўда, такой лесвіцы няма.

— Якой?

— Каб дастаць да неба.

Аповесць пра тое, як ён не любіў сваю жонку, ён та і жаніўся на



ёй з-за жаласці, пашкадаваў, ды і самому не было куды дзецца. І вось сколькі гадоў жывуць, пайшлі дзеці. Раней было нешта, нешта звязвала, можа, тая маладосць, а далей усё больш раздзяляе. Раней яго цягнула нейкая рамантыка, і яна ішла насустрач, здавалася, яна была рамантычнай асобай, а калі не рамантычнай, то добрай, звычайнай, сямейнай. Потым быццам нешта адбылося, кожнае яго слова яна пачала сустракаць у штыкі, і ён таксама. Ён уздрыгвае ад кожнага яе слова. Відаць, сабака так гірчэць на голас нелюбімага чалавека.

Ён бачыў, што яго не любяць, ды і сам ён па-сапраўднаму не любіў. Сабраліся розныя людзі, якія не ведалі, што ім рабіць і з сям'ёй, і з дзяцьмі, і з самімі сабой.

Ён хутчэй за ўсё эгаіст. Яна — добрасумленная самка, якой не далі месца і часу для самаразвіцця. Ёй трэба было любіць дзяцей, а тут яшчэ іншая работа — і мужык, і зарплата.

Мужык... ён адчуваў сябе то скацінай, то папрашайкай, то чорт ведае кім. Спаў, калі іншым не спалася, не спаў, калі ўсе спалі.

Бялее позняя ноч. Можа гадзіна, можа дзве. Натужна равуць машыны, рэдкія. Відаць, шафёры спяшаюцца дамоў. Ім ёсць куды спяшацца. А яму няма куды, ён дома, ляжыць у сваёй пасцелі. Толькі што пайшла ад яго жонка. У другі пакой. Да дзяцей. Ёй там спакайней. Будзе ляжаць і спаць. Радавацца, што ніхто не дакранецца да яе бядра...

Гудзе самалёт, недзе, як у вайну. На сцяне два белыя фламінга. Ім добра, яны ўдваіх…

Чаму вельмі часта наш жыццёвы тонус ствараюць жыцейскія дробязі. Не тое галоўнае, што робіш ці стараешся рабіць ты, а мішура, мураўінае капашэнне. Непрыбраная пасцель, непамыты посуд на кухні, раскіданыя ўсюды прыколкі, трусы, панчохі... Здавалася, чорт з імі, а засядуць у галаву, у нутро, і мурашкі паўзуць па целе. Відаць, і ў сям'і павінна быць нейкая важная аснова. Можна цярпець адзін аднаго, а жыць немагчыма.

Пра характары: яны занадта паралельныя, каб перасекчыся і высячы іскру.

Андрэй Кавалёнак. Аколіца: «Вапшчэткі, я б і зубы сабе вытачыў, метала нет». І гэта праўда: ён бы вытачыў.

Не косіць, а галосіць.

Матаюся як чорт. Праз два дні здаваць дыямат, а я яшчэ нават Афанасьева не адолеў. На рабоце Іна злуе: мала сяджу над пісьмамі. А што можна зрабіць за тры гадзіны? Да пяці працаваў над пісьмамі, да васьмі ў ленінцы, а там зноў у рэдакцыю — дзяжуру. Добрае за ўвесь дзень — «бульбяная», гаршчочкі і піражкі. Пасля адзінаццаці з Любай. Ішоў снег. Рукі былі занятыя, нельга было нават пацалаваць. Пры развітанні яна сказала, што дрэнна падлізваўся.

Са збана можна выліць толькі тое, што ў ім ёсць (арабскае).

Ад жорнаў уцёк, ды пад прэс трапіў.

Невуку даруюць і семдзесят памылак, а вучонаму — ніводнай.

Голас, як барабан: гучны і пусты знутры.

Па тратуарах весела нësліся белыя хвасты пазёмкі.

Полымя ўзаемнай дружбы можа гарэць, калі яго падтрымлівае жар агульных інтарэсаў.

Былі Кажушковы — усе ўтраіх. Гена расказаў некалькі цікавых гісторый.

Чалавека перастрэлі каля дома трое:

— Здзявай штаны.

Ён падумаў: старыя штаны, аддам.

Здзеў, узняўся на другі паверх і ўспомніў, што ў штанах 35 рублёў. Бягом назад. Зладзеі не паспелі далёка адысціся.

— Давайце назад штаны.

Зладзеі ўцякаць, ён даганяе. Насустрач машына з міліцыяй. Тых траіх прапусцілі, а яго забралі: чаму без штаноў?

Пакуль тлумачыў, што ды як, зладзеі зніклі.

Студэнты рашылі пажартаваць над сябрам. «Пайшлі, ёсць справа!» Вадзілі, лазілі па дварах, цераз платы, таямніча сабраліся. Ёсць што? Нічога, нейкія капейкі. Толькі ты нікому ні слова...

Праз тыдзень: табе прыйдзе тэлеграма. Першыя дзве лічбы — нумар дома, дзве другія — кватэры, наступныя — час, калі трэба рабаваць.

Сабраліся. Адкрылі кватэру — гэта была кватэра аднаго з хлопцаў. Сабралі шмоткі. Ты глядзі грошы. Знайшлі 40 капеек. Далі яму вузел. Ён схаваў, закапаў. Пасля сказалі: адзін з нашых засыпаўся. Ён ноч не спаў, а назаўтра прыйшоў у міліцыю...

Для здаровага чалавека дзяўбанне дажджу па бляхе за вакном — музыка, для хворага — пакута.

Учора купіў тры тамы пісем Някрасава (10, 11, 12) за 60 капеек. І добра, і здорава, усяго за паўтары шклянкі бяздарнага віна.

Чалавек заўсёды знойдзе месца памерці.

Дзяцінства багатае памяццю. Памяццю на ўсё. А асабліва памяццю на пахі і на смак.

Ніколі не забуду, як пахла і які смак мела белая булка, якую прывёз бацька з Бабруйска. (Яны з мамай прадавалі мяса і сала заколатай свінні, каб сабраць грошы на карову). Толькі адзін раз, ужо ў трынаццацігадовым узросце, у Мінску, давялося мне з'есці такую смачную булку. Яна на нейкае імгненне ажывіла тое далёкае адчуванне і тое колішняе шчасце.

Ніколі не выветрыцца смак галандскага сыру, якім пачаставаў Надзін Геня, яны атрымалі яго з Амерыкі, на забітага бацьку.

На плошчы Якуба Коласа ўстанаўліваюць помнік. Кожны дзень то хаджу, то езджу паўз яго. Вельмі прымітыўная трактоўка пісьменніка. Не трэба было садзіць пісьменніка, гэта сядзячая постаць яшчэ болей адцяняецца скульптурнымі групамі — музыка, дзед Талаш. Ёсць масіўнасць, велізарнасць, няма ўнутранага, духоўнага адзінства. А тут яшчэ гэтая правая рука, якая завісла паміж падбародкам і грудзямі.

Часта думаю пра Купалу і Коласа. Купала ўлавіў, паказаў дух беларуса перад рэвалюцыяй 1917 года, дух бунтарны, неспакойны, трывожны. Ён вылучыў яго з натуры беларуса і паказаў усяму свету.

Колас паказаў натуру беларуса, яго душу, яго сутнасць. Натура — з'ява больш складаная. Яна больш вечная, больш гнуткая, яна мяняе абалонку, пакідае сэрцавіну, яна можа ісці з часам, можа легчы на дарозе ў яго, яна жыве разам з народам і памірае разам з ім. Вось у чым агульнае і рознае ў Купалы і Коласа, і калі Анікейчык улавіў у сваім цудоўным помніку Купалаву душу, Азгур не ўлавіў. Ягo купіла знешняя прастата Коласа, за ёй не ўбачыў маштабнасці і значэння Коласа. Масіўнасць — гэта не маштабнасць, а спрошчанасць — не прастата.

Пад раніцу прысніўся сон. Шырокі залiўны луг, вада і трава. І цераз луг, як можа дастаць вока, высокія дашчатыя масткі шырынёй на чатыры–пяць дошак, дошкі слізкія, гладкагабляваныя, масткі зігзагападобныя. Ідуць па іх Вера, Павел і я. Вера і Павел дурэюць, і мне страшна за іх, каб не зваліліся, але і не вельмі страшна, бо ведаю: нічога, апрача перапалоху, не будзе.

Недзе на канцы масткоў, здаецца, мы ўжо сышлі, убачыў Любу, яна ішла ў белым, у прадоўжную чырвоную лінію халаце. Я пазнаў гэты халат, ён некалі быў у яе, ці сукенка такая была. Халат напаўрасшпілены, відно загарэлае дзябёлае цела, і мной авалодала вострае мужчынскае жаданне. Гляджу на Паўла, хочацца, каб ён куды пайшоў, пагуляў, пакінуў нас адных...

І тут раптам паказаўся вярхом на цёмным кані Міша Дзегцяронак, сын каваля. Люба ўбачыла яго, зашпіліла халацік...

Прачнуўся ў шэсць гадзін, і нешта трывожна стала на душы. Ці добра ўсё ў дзяцей у Бышені, як там у Любы ў Югаславіі? Надта доўга цягнецца час... І зноў жа гэты цёмны конь. Ён заўсёды прыносіць хваробу.

Наверсе, у тэрапеўтычным аддзяленні, ляжыць Л. П. Александроўская. Узяў я букецік ружаў, зайшоў праведаць. Узрадавалася кветкам, як дзіця, увесь час нюхала іх, пакуль мы сядзелі на канапе ў калідоры. І таксама расказала пра каня. «Вось ужо гадоў з дзесяць сніцца адзін і той жа конь, не конь, а малады жарэбчык ярка жоўтай, як новая выгбляваная сасновая дошка, масці. І як толькі ён сасніцца, прыходзіць хвароба. Я яго чакаю са страхам, але чакаю... І цяпер, перад тым, як легчы ў бальніцу, ён зноў сасніўся. Здаецца, я ў звонкім сасновым бары, высокія звонкія сосны, лес праглядаецца наскрозь, і раптам бачу яго, а сама хаваюся, каб ён не бачыў мяне. Хаваюся за ствол сасны, ён бяжыць, а я ўкруга сасны ўцякаю. Ён прабег, потым спыніўся і раптам гаворыць: «Не хавайся, усё роўна я бачу цябе». А потым сасніўся яшчэ раз. Ляціць раптам на мяне. Я думаю: усё, растопча, а ён цуп — стаў перада мной, ноздры раздзімаюцца, вочы гараць. Потым раз — стаў на заднія ногі, ды як дасць пярэднімі нагамі ў зямлю. Я гляджу, ажно перада мной магіла, і нікога кругом няма — ні жарэбчыка, нікога... І вось я чакаю яго, чыю гэта магілу ён пакажа, а ён усё не прыходзіць».

Ларыса Пампееўна засмяялася нярвовым астматычным смехам, але адчувалася, што гэты конь вельмі займае яе думкі. Я пачаў яе адгаворваць, сны — гэта трывогі дня, трывогі цела, усё пераносіцца на ноч, у сны, але яна некалькі разоў вярталася да гэтага жарэбчыка з нечакана жоўтай афарбоўкай. Голас яе ломкі, грубаваты, яна часта збіваецца з думкі, але потым вяртаецца.

Шмат гаварылі пра яе жыццё. «Хай бы вы напісалі ўспаміны... Вы столькі пажылі, столькі пабачылі...». «Ага, трэба...», — адказвае яна, але па голасе відно, што і сама не верыць, што зможа гэта зрабіць.

Я пазіраў на стары маршчыністы твар, слабое, расшатанае нервамі цела, стараўся ўявіць яе маладой, моцнай. Нешта ўгадвалася ў валявых, некалі, мусіць, вельмі прыгожых губах, жывых карых вачах, і ў голасе, не ў самім голасе, не ў яго інтанацыях, а ў паспешлівай гаворцы, асабліва калі яна пачынала ўспамінаць. Яна была там, яна жыла ў сваіх песнях, сваіх вобразах, з тымі людзьмі, з якімі сустракалася...

Дрыжачымі рукамі, спяшаючыся, яна перабірала пісьмы, кнігі, фотаздымкі ў шуфлядцы століка, пакуль не знайшла патрэбную запісную кніжку. Яна была на 2-м сусветным кангрэсе міру ў Варшаве ў 1951 годзе. Кітайцы падарылі ўсім членам кангрэса кніжачкі з партрэтам Мао. Ларыса Пампееўна папрасіла некаторых делегатаў пакінуць свае аўтографы. І яны пакінулі — Д. Шастаковіч, Ц. Хрэннікаў, Анна Саксе, М. Т. Задэ, К. Сіманаў і многія іншыя. Яна ўспамінала пра іх, пра той час, і, можа, гэта было тое, што трымала яе на гэтым свеце. Хаця, не... З акна яе палаты добра відаць дахі хлявоў бліжэйшага двара. Ларыса Пампееўна расказала, як аднойчы вельмі доўга назірала за гульнёй маладых сівой поўсці ката і кошкі. Кошачка рабіла выгляд, што дрэмле, а кот стараўся нячутна падабрацца да яе. Вось ён асцярожна падымае лапку, асцярожна ставіць яе на бляху, пераносіць цяжар цела на яе, падымае другую лапку, і калі кошачка паказала, што яна ўсё чуе, ён адвярнуўся, быццам нічога такога і не памышляў...

Жоўты жарэбчык не доўга даў пажыць Ларысе Пампееўне. Яна памерла 23.5.1980 г.

Галоўны хірург рэспублікі, Аўдзеей, 48 гадоў. Апошнія дні ён быў у вельмі прыгнечаным стане. З'ездзіў да старых у Івянец. Як на развітанне. Сказаў: «Калі што, не памінайце ліхам». Пабываў на прыёме ў міністра, Мік. Саўчанкі. Гаворка была чыста службовая, пра сябе не сказаў ні слова. Сеў на машыну, трохі ад'ехаў ад Мінска, Цна-Ёдкава, стаў у кустах, недалёка ад дарогі, зачыніў усе дзверцы. Быў флакон з медыцынскім спіртам. Трохі выпіў. Павярнуў люстэрка, каб добра бачыць свой твар, дастаў ножык са страляючым лязом, прыклаў да артэрыі і выстраліў.

Знайшлі яго позна вечарам школьнікі. Сядзеў ён, аб'ехаўшы за рулём, кашуля ў крыві. Прычына: знайшоў у сябе рак печані. Як паказала ўскрыццё, дыгназ быў правільны.

За паўгода да гэтага прыязджаў блізкі сябра з Пецярбурга. У таго быў рак печані. Аўдзей паклаў яго ў Бараўляны, сам рабіў аперацыю. Той памёр у яго на руках.

Можа, і гэтая смерць зрабіла на яго сваё ўражанне. У жніўні дачка павінна была выходзіць замуж, а сын паступаць у інстытут...

Памерла Еўдакія Лось. 48 гадоў. Рак прамой кішкі. І нічога лішняга. Маладая, здаровая, актыўная, дзейсная. Чакала у самым развіцці, у самым квітнеючым таленце. Здаецца, усё ў табе і ўсё табе. Але жыццё робіць свае папраўкі. І ніхто не можа іх папраўляць.

Шмат хто зайздросціў ёй і, можа, думаў усякае. Але жыццё ўсё ставіць на сваё месца. І плюс, і мінус. Смерць так нечакана паставіла ўсё на сваё незразумелае і несправядлівае месца, што людзям засталося толькі рукі развесці.

Аперацыю рабілі ў Бараўлянах. Як казалі дактары, аперацыя прайшла добра. Хворая стала папраўляцца. Папрасіла, каб прынеслі залатыя завушніцы, пачапіла іх. На дванаццаты дзень адчула сябе горш. Паклікала мужа, сына, былога мужа. Развіталася з усімі.

Яе перавялі ў рэанімацыйны пакой. Назаўтра яна памерла ад тромбафлебіта.

Як аказалася, ні залатых завушніц, ні грошай у яе партманэ не знайшлося.

▸ БЫЛІЦА

# ВІШНЁВЫЯ САДЖАНЦЫ

Мікола ЗГУБАРЭВІЧ



Хата ў старога Яўсея мураваная, прасторная, на цэлых пяць пакояў, акрамя шырокай, на ўсю падоўжную сцяну, веранды. Стаіць яна ў вабным месцы, у засені старых, яшчэ дзедаўскіх ліпаў.

Нябожчык Апанас, Яўсееў дзед, відаць, разлічваў на тое, што Мікульскіх у вёсцы будзе жыць яшчэ не адно пакаленне, таму пасадзіў вялікі сад, а вакол яго ліпы — гэты казачнага хараства дрэвы.

Яўсей, як будаваўся, таксама меркаваў па дзедаўскім разліку. Хацеў, каб было ўдосталь прытулку і дзецям, і ўнукам. Сусед яго Мацвей без злосці пакепліваў:

— Ты, Яўсей, далібог, палац надумаў адгрукаць! Не інакш кожнай дачцы і сыну па асобным пакоі. Глядзі, а то на старасць давядзецца з Хрысцінай шукаць адзін аднаго ў гэтакай гамэрні...

Яўсей хітравата пасміхаўся ў адказ і цешыўся роўнымі, з белай цэглы сценамі новай хаты.

З жонкай Хрысцінай яны працавалі на адной ферме яшчэ да таго, як пабраліся шлюбам. Яўсей даглядаў жывёлу, а Хрысціна даіла кароў. Дзяцей сваіх — трох дачок і сына — змалку прывучылі да сялянскай працы. Думалася — вырасцяць дбайных памочнікаў. І дзеці, здавалася, палюбілі вясковае жыццё.

Але час мяняўся. Моладзь у пошуках заробку і лепшага жыцця рвалася ў горад. Пасля школы іх старэйшая дачка Шура падалася на новабудоўлю, а пасля звабіла і малодшых — Раю з Кацяй. Неўзабаве дзяўчаты адна за другой павыскоквалі замуж.

Хрысціна напачатку бедавала, што адна, як быліна, засталася на вёсцы. Блізкіх сваякоў у яе не было — браты і родныя, і стрыечныя пагінулі на вайне, а сястру пагналі ў Нямеччыну. Там недзе і прапала.

А праз нейкі час, калі дочкі разжыліся ў горадзе, настрой у Хрысціны змяніўся.

— Вось і добра, што паехалі адсюль! — не раз даводзіла Яўсею. — Я тут прапетавалася, гразюку па калена мясіла, дык хай хоць дзеці па-людску пажывуць. А то што яны тут пабачаць?! Ад хлева да хаты — і ўся мая дарога. Спадніцы чыстай не было калі адзець! Хай яна спрахне, такая жытка!

Яўсей моўчкі слухаў, нібыта згаджаўся, а ў самога ў душу не раз закрадваліся сумненні: мо і праўду Мацвей калісь казаў? Каму я ўсё гэта дбаю? Калі ж Хрысціна моцна дакучала, ён, пыхкаючы цыгаркай, махаў рукой «адчапіся!» і выходзіў на падворак альбо ў сад.

Усе свае надзеі ён ускладаў на сына Івана. Хоць яго меркаваў прывязаць да зямлі.

Малым той вельмі цешыў бацьку. Змалку цягнуўся да сялянскай працы. У сем гадоў ужо спраўна запрагаў каня і, узяўшы ў рукі лейцы, упапад дарослым ўладна прыкрыкваў:

— Но-о, Сіві! Варушыся! Пляцешся ўсё адно, як нежывы!

— Ну Ганчык дае! — забаўляліся мужыкі на ферме. — Добрая змена бацьку расце!

Іван, калі вучыўся гаварыць, на пытанне «Як цябе завуць?», адказваў не Іван, а Ган. Так яго і прazвалі ўсе — Ган, Ганчык.

А Ганчык тым часам рос, і не паспелі бацькі азірнуцца, як стаў Іванам — рослым, дужым хлопцам. На ферму да бацькі, дзе да таго часу шмат чаго змянілася, механізавалася, Іван не захацеў ісці, а пасля дзесяцігодкі падаўся ў вучылішча металістаў, пазней завочна паступіў у політэхнічны інстытут.

Яўсей, дапрацаваўшы да пенсіі, так і застаўся ў сваім мураваным асабняку ўдваіх са сваёй Хрысцінай. Сусед Мацвей як у ваду глядзеў...

Іван хутка ажаніўся і, не маючы пакуль сваёй кватэры, жыў на прыватнай. Праз некалькі гадоў яму падышла чарга на кааператыў.

У Яўсея з Хрысцінай, калі яны рабілі на ферме, заробкі былі неблагія. Грошай на сябе яны асабліва не трацілі, таму капейка ў іх вадзілася. Усе дзеці ведалі пра гэта і, станавіўшыся на кааператыўную кватэру, упэўнена спадзяваліся на ашчадныя кніжкі бацькоў.

Усім дочкам Яўсей з Хрысцінай добра памаглі, не пакрыўдзілі і сына. Калі прыйшлося ўносіць грошы на будаўніцтва, Яўсей амаль чатыры тысячы выклаў сыну на стол.

Яшчэ маладым Яўсей паўз усю мяжу ў сваім агародзе насадзіў вішняку. Вішань таму ў іх скрозь хапала ўволю. Былі гады, што цэлымі бочкамі здавалі на загатоўку. Цяпер, праўда, большасць дрэў знасілася, пастарэла. Неяк увесну Яўсей некаторыя зусім спілаваў, а замест спілаваных насадзіў вішнячку. Даглядаў маладняк, бы малых дзяцей. Яўсею хацелася хоць у дрэвах не даць выселіцца з гэтага селішча роду Мікульскіх.

Дочкі штогод прыязджалі гасцяваць, цешылі бабу з дзедам унукамі. Іван жа наязджаў часцей за ўсіх. Балазе, жыў блізка. Памагаў бацьку і сена накасіць, і дроў нарыхтаваць. Яўсей у сына ў даўгу не заставаўся. На ўваходзіны падараваў сыну дарагі мэблевы гарнітур, пазней памог купіць каляровы тэлевізар. Абяцаў трохі падсобіць на машыну.

Але вось Іван перадумаў купляць легкавую і вырашыў будавацць лецішча. Яўсей, даведаўшыся пра гэта, ледзь не пасварыўся з сынам.

— Божа, на якую халеру табе тая будоўля! — абурыўся ён. — А мая хата чым табе не дача? Ліпы такія, сажалка побач, вішняк праз годдругі падымецца... Каму я ўсё гэта шаную? Табе ды дзецям тваім!



Старому здалося, што гэта не Іван, не ягоны сын, а нейкі чужы, незнаёмы чалавек, адсякае карэнні не вішанькі, а ўсяго іх Мікульскага, старэйшага на вёсцы, роду

Але Іван упарціўся, стаяў на сваім, прызнаўся, што заказаў ужо матэрыялы і наняў будаўнікоў.

Калі сын паехаў, Яўсей усю злосць спагнаў на Хрысціне:

— Тваё выхаванне! Хіба не бачыш, што твае дзеці панамі робяцца? Асабняк яму захацелася... Пра нас хай бы падумаў... На старасці вады не будзе каму падаць...

Хрысціна маўчала. Бачыла, што стары мае рацыю, але дзе там ёй Івана пераканаць? Вядома, не трэба быў яму той летні дамок. У дачок зяці былі спрытныя, рукастыя. Даўно ўжо сабе пабудавалі. Яна адчувала, што сына падбухтырыла на будаўніцтва нявестка. «У іншых ёсцека, хай і ў нас будзе!» — такі грэх за ёй водзіцца.

У водпуск Лена звычайна ездзіла куды-небудзь на поўдзень. Дзяцей жа, Ігарка з Юркам, прывозілі да дзеда з бабай. Сваіх бацькоў у Лены не было. Рана зусім памерлі. Калі нявестка прыязджала з Іванам на выхадныя, Яўсей з Хрысцінай працай яе асабліва не нагружалі. Але ж як у вёсцы без працы абыдзешся? Улетку ёй даводзілася памагаць сена сушыць, грады прапалоць... Затое пойдзеш у агарод, дык чаго там толькі няма: садавіны ўсякай, гароднiны. А што тая дача? Калі там што вырасце? Дадуць нейкі шматок зямлі, пяску з глінай...

Захапіўшыся пабудовай дачы, Іван усё лета да бацькоў прыязджаў рэдка. Нават радоўку Яўсей з Хрысцінай адпасвалі самі. Пасля дзеці пайшлі ў школу, і часу вольнага зусім паменела. Аж у пачатку кастрычніка Іван прыкаціў дамоў з нейкім сваім знаёмым на «Жыгулях». Яўсея якраз у той дзень зранку не было дома. Яшчэ на досвітку пайшоў у лясніцтва прасіць дроў. Абяцаў неўзабаве вярнуцца. Ён нібыта прадчуваў, што сын павінен прыехаць, але чамусьці недзе забавіўся.

— А дзе ж бацька, мама? — павітаўшыся, запытаў Іван.

— У лясніцтва яшчэ на золку пайшоў. Мо там дроў гатовых дадуць, то надумаў прывезці. Сядайце, сядайце, хлопцы! — замітусілася старая. — Я зараз на стол чаго збяру. Пакуль суд ды справа, то і бацька адшукаецца.

— Мам, мы вось з суседам па дачы вырашылі садок пасадзіць, дык я ўспомніў пра бацькавыя вішнёвыя саджанцы. Іх жа шмат у нас...

— Э не, сынок! Ты пра гэта з бацькам гавары. Ён іх садзіў, яму імі і распараджацца.

— Разумееш, мама, Алёша спяшаецца, таму нам няма часу чакаць бацькі. Я ўпэўнены, што ён не запярэчыць. Мы ж не ўсе выкапаем, а толькі некалькі дрэўцаў.

— Глядзі, Іван, каб не зазлаваў стары. Вельмі ж ён шануе гэты вішняк, цешыцца, як малы. — Хрысціна паківала галавой, уздыхнула і пайшла ў веранду.

Іван са сваім сябрам выйшлі на двор, узялі рыдлёўку і маленькую сякерку і накіраваліся ў сад.

Дома вялікай работы не было, таму Яўсей дахаты асабліва не спяшаўся. Па дарозе стрэў Саўку Мініна, сябра дзяцінства, і яны, слова за словам, ладны час прагаварылі. Толькі нейкае прадчуванне цягнула Яўсея дахаты.

Убачыўшы ля брамы сінія «Жыгулі», абрадаваўся: «Нехта з дзяцей, відаць, прыехаў. Мо Шура з мужам? У яго сіняя машына...»

Яўсей зайшоў на веранду, прачыніў дзверыну ў хату: там было ціха. Выйшаў на двор.

З глыбіні саду даносіліся галасы. Сынаў голас Яўсей уразпазнаў, іншы быў незнаёмы. «Мусіць, Іван апошнія антоны збірае», — падумаў Яўсей. Але раптам пачуў чахканне рыдлёўкі.

Яўсей таўхнуў рукой брамку ў сад і паўз пуню наважыўся падысці да хлопцаў. І раптам сэрца яго ёкнула. Ля плоту стаялі выкапаныя саджанцы вішняку. Іван са сваім сябрам захапіліся справай, і Яўсея не заўважылі. Сын у гэты момант наводмаш падсякаў сякеркаю разлапістыя карэньчыкі маладзенькай, самай прыгожай Яўсеевай вішанькі.

«Што ты робіш?! Загубіш дрэва!» — хацелася крыкнуць Яўсею, аднак ён не здолеў. Як мову адняло. Старому здалося, што гэта не Іван, не ягоны сын, а нейкі чужы, незнаёмы чалавек, адсякае карэнні не вішанькі, а ўсяго іх Мікульскага, старэйшага на вёсцы, роду.

«Божа, чаго я не дагледзеў у сваім сыне? Чаму не навучыў? — вярэдзілі душу старога Яўсея цяжкія пытанні. — Хай жа б хоць раней сказаў... Я б сам асцярожна, з зямелькаю выкапаў бы тыя саджанцы...»

Роспач і злосць поўнілі Яўсееву душу. Да сына ён так і не падышоў. Стуліўшыся пад паветкаю, бачыў, як Іван з сябрам ладкавалі паклажу ў машыну. Глядзеў, як з багажніка сіратліва тырчэлі похапкам адкапаныя карэньчыкі вішнёвых саджанцаў, і вочы яго спакваля вільгатнелі.

Калі машына, злосна фыркнуўшы, рванулася з месца, па маршчыністых шчоках старога, як гарошыны, скаціліся дзве слязінкі...

Першага ўраджаю ад свайго маладняку стары Яўсей так і не дачакаўся. Менш як пра год нечакана захварэў, злёг і з бальніцы дамоў ужо не вярнуўся...

Хрысціну забрала да сябе малодшая дачка, а хата з вялікім садам так і засталася без гаспадароў. Вёска была далёка ад горада, і ніхто тут не хацеў сяліцца. Аднак улетку, як зацвіталі ліпы, сад гудзеў ад пчол, якія аднекуль сюды прыляталі. А уздоўж мяжы вабілі позірк налітыя чырванню вішні.

ФРАГМЕНТ РАМАНА

# У ПАДЗЯМЕЛЛЯХ ГЕВАНТА

Тадэвуш МІЦІНЬСКІ

**Надзвычай неардынарны польскі пісьменнік Тадэвуш Міціньскі нарадзіўся ў 1873 годзе ў Лодзі, а загінуў пры таямнічых абставінах у 1918-м у Беларусі, пад Чэрыкавам. Загадкавы раман «Нятота. Таемная кніга Татраў», прасякнуты ідэямі месіянізму і містыцызму, лічыцца адным з галоўных яго твораў. Фрагмент гэтага рамана і прапануецца чытачам «Літаратурнай Беларусі».**



Выйшаў Маг Літвар на зорнае святло.

І зноў ён у пустэчы, высечанай сценамі чорных гігантаў. Цішыня настолькі велічная, што чуецца пад валунамі шолах росных струменьчыкаў.

У змроку, сярод блакітных туманоў, рушыла жанчына, нібы прывід.

Вечная сярод тых, хто жыве.

У яе руках была трохкутная арфа, струны якой прадвяшчалі Новае Адкрыццё. Над тварам, бялейшым за месяц, узносіўся гушчар цудоўных валасоў.

І распавядала тая песня пра гады чакання сярод слёзаў і пакут. Звярталася да сваіх патаемных думак, народжаных слотнымі, лістападнымі, безнадзейнымі начамі. Да думак, што паўставалі ў ночы месяцовыя, зеленаватыя, магічныя, сярод бароў над берагам паўночнага мора. Песня пыталася, калі пераможа Каханне?

Злавесны боль прымружыў вочы Мага Літвара.

У яе слязах парушаліся скляпенні нябёсаў.

Маг Літвар, нерухомы вартавы, стаў ля брамы смерці і вымавіў у вечнасць: ніколі! Заўважыў, што ўстрапянуліся кончыкі яе далікатных, з пералівамі розных адценняў, пальцаў. Зірнуў, але не ў вочы яе, падобныя да гротаў, дзе фасфарычна ззяе аметыстамі і чорным агатам азёрная глыбіня Марскога Вока, — зірнуў у страшэнны змрок пекла, якое пакрывала яе вязніцай.

У змроку тым бліШчэла некалькі цьмяных зорак — гэта быў Змеяносец. Паказаў ёй: нібы яе ўзводзіў на алтар і прыносіў у ахвяру богу Пекла. Прамовіў словы моцныя, недасяжныя.

Яна адышла.

Чуў яе ціхія крокі, нібы хтосьці пад зямлёй забіваў цвікамі труну, — цішэй — нібы сыпалася зямля на твар памерлай — так незваротна, як дакрананні кінутых у магілу кветак.

Змоўкла пустэча вялікіх гор.

Змрочны Гевант пужаў — прадвеснік смерці, суправаджальнік да краю ценяў, ён іскрыўся ад зор. Маг прылёг у лагчыне гары.

Невядома, колькі нерухомых эпох — глядзеў уверх, дзе плыў на нябачнай барцы таямнічы, жахлівы месяц. Падножжа гары, што нагадвала магілу рыцара, распасціралася на некалькі далінаў і мела такую велізарную вышыню, што манументальны крыж на рыцарскім шлеме здаваўся цацкай. Галава, патрэсканая ямінамі і прадоннем, не змяшчала ўжо выявы твару.

Боль і таямнічасць згушчаліся ў нейкі звышчалавечы выгляд вусцішна скамянелай Бясконцасці. Памерлі мільёны ляхаў, змяніўся шэраг каралеўскіх дынастый, перш чым тыя шматпаверховыя валуны з шэрага граніту былі абцяты дажджамі ды снягамі і зведалі на сабе ўздзеянне лавінаў, перш чым гіганцкая рака высекла вадападам каменную масу ў бажніцы Геванта.

Маг Літвар адчуў унутры ўсхваляванае пачуццё тоеснасці з тым, чый прах ужо даўно быў развеяны з па-блюзнерску парушанага кургана. Але прасякнуты болем вечнай Ілюзіі, вымавіў у найглыбейшым маўчанні сваім: не кружляе нічога над пустэчай знішчэння!.

Каменны гмах раптоўна пахіліўся на бок, цела Мага, што перад тым ляжала бяспечна, зараз завісла над безданню, дзе лесам коп'яў тырчэлі яліны.

Ён трымаўся за скальны выступ, а Гевант сваёй магутнай вагой схіляўся ўбок насуперак усім законам гравітацыі...

Мабыць, Гевант хацеў спалохаць такім чынам Мага, як мамант малую казурку, што зачапілася за агромністы карак; лінію гарызантальную ён зносіў перпендыкулярна і спадаў, але найбольш здзіўляла тое, што рухі адбываліся ў вакууме, то бок удараў аб зямлю не было чуваць! Раптам, быццам карабель падчас буры, які сядае на водмель, Гевант цяжка абваліўся, а скалы страпянуліся, як подых бушуючага мора. Кожны смяротны страціў бы прытомнасць ад знясілення і жудасці і зрынуўся б з тых паверхаў, вышэйшых за муры Вавілонскай вежы.

Знянацку блiснула святло, запаленае ў аддаленым кутку — можа, месяц кінуў з-за хмары свой заходзячы прамень? Не, хутчэй гэта быў бляск унутры Геванта.

Маўчанне. Нечаканы спакой. Маг рушыў па біўнях вапнавага дна Прамора Татраў. З галавы ідала святло здавалася зусім далёкім і ўрэшце згасла.

Калі Маг Літвар урэшце агледзеўся перад уваходам, прыхаваным у трохкутніку забрала Геванта, з вуснаў яго сцякала крывянiстая юшка.

Душа сплывала разам з ёй — зведае гора?

Ён зноў увайшоў у шчыльны калідор, які выгінаўся чарвяком, і намацаў апошнюю мяжу;



Гара Гевант

гэта быў мур або шліфаваная скала? Ніводны геній не здолеў яе адчыніць. Але нягледзячы на гэта, ягоныя рукі дакраналіся да рунаў, і пры адным толькі націсканні скала прыадчыніла яму ўваход у нейкую галерэю над прорвай, адкуль дзьмула ледзяным холадам. Шолахі і ўздыхі — напэўна, прыліў паветра праз шчыліны, — хоць здавалася, што гэта дзейнічаюць здані.

Скала самкнулася. Памацаўшы валуны, якія выступалі над прорвай, Маг адчуў, што яго сэрца замірае, бо не мог знайсці выйсця назад — значыць, патрапіў у магільную пастку. Выцягнуўшы руку, ён ухапіўся за канец ланцуга і без даследвання таго, куды гэта прывядзе, пачаў караскацца па ім угору — як на званіцу. І не ўступіў, а на каленях патрапіў на парог малой залі, акружанай калонамі з выгравіраванымі законамі ўсёй зямлі. Праз вузкую адтуліну ў гары, што прарэзвала велізарнае верхняе плато, было відаць, нібы ў тэлескоп, рухавую Туманнасць Арла, якая адлюстроўвалася ад увагнутых люстэркаў ледавіка і кідала чароўнае ззянне на каштоўныя камяні — аздабленні сцен.

Зіхацелі мільёны агеньчыкаў барвовага задыяка — смарагды багіні Маруны стваралі ціхі бляск найглыбейшай мудрасці; астральныя крылы Кастара і Полукса на архітраве патаналі ў змрочных глыбінях халоднага Марскога Вока.

Моц і натхненне перапаўнялі Мага, адраджалі і ўзвышалі да вечнага экстазу маладога Светавіта. Адчуў сябе ўладаром, прасякаў мільёны гадоў, узнімаўся на вяршыні неймаверных гор.

Потым азірнуўся.

Ён быў не адзін. Адчуваў гэта, не заўважаючы нікога. І вось пабачыў на сцяне водблiск рукі, якая свяцілася, высунутая з-за чорнай хмары. Не ведаў, што яна мусіць падсвечваць, толькі пачуў, як раптам аднекуль выпаў меч і пачаў вастрыцца аб глебу. Гэты меч мільгануў у паветры і апынуўся ў далоні прывіда, які, паскрыпваючы вострым лязом па граніце, выпісаў на страчанай арыйскай мове:

— Я існую.

Зырчэнне Туманнасці ў крышталёвых люстрах было такім моцным, што Маг выразна чытаў тое слова — вечнае, творчае, нязведанае, нібы першая прыступка да цудоўных святыняў, ужо невядомых на зямлі. Рука прывіда адным тым выразам акрэсліла дзівосную паэму спрадвечных удасканальванняў Памерлага...

**Пераклад з польскай Ірыны Хадарэнка**

ВЕРШЫ

# МАЛЬБА ЖУРБЫ

Ніна ДЗЯБОЛЬСКАЯ

## У музеі

*Бляск ад мяча, клінка і шпагі*
*не абвастрае страх.*
*Ах, колькі ж сілы і адвагі*
*не выспела ў руках.*
*А кроў цурчэла і пяклася,*
*шыпеў чужы пясок.*
*На скроні, як на сумнай пласе,*
*уздрыгваў валасок.*
*Замардаваных — без аховы*
*кладуць да царскіх ног…*
*Зіхцець з вітрыны двухбаковы*
*клінка жывы спалох.*

***

*Ці ж слова было напачатку?*
*Было? То з гаворкі якой?*
*Хто выпек яго як аладку?*
*Мо выдыхнулі талакой?*
*Ці ж слова было напачатку?*
*А можа жалейка вяла*
*гул росных лугоў на брусчатку,*
*дзе гук зачала кавяла?*
*Не слова было напачатку.*
*На воклік зазыўнай трубы,*
*каб рэха завабіць у хатку, —*
*мальба вырастала з журбы.*

## Каля ледніковай грады

*Лілейна возера мігцела:*
*быў лес — як абдымач.*
*Свавола-чаічка ляцела.*
*На ключ-скрыпач*
*успырхнулі лебедзяняты.*
*Настырныя бабры*
*плаціну ладзілі і ў сваты.*
*А смоўж свае грыбы*
*надкусваў вельмі акуратна.*



Фота Віктара Хурсіка

Ніна Сяргееўна Дзябольская (справа) і Сяргей Панізьнік

*Сук не дзяўбаў, застыў парадна*
*з пярэстай галавою дзяцел.*
*Хто нам такі пакінуў рай?*
*Ляднік з грады раскрыліў край,*
*каб радаваліся дзеці, дзядзі?*

## З вагоннага акна

*Зрэдчас ускочыць царква*
*на залаты касагор.*
*Чэзне ля трасы трава,*
*Цьмее задумлівы бор.*
*Шэры каршун знедужэў.*
*Гнёзды без птушанят.*
*Родненькі далягляд,*
*хто нам цябе зберажэ?*

## Пасля майдану

*Дзе мы былі? — У закуце дастатку.*
*На што нацэльваліся? — Толькі*
*на машну.*
*Час марнавалі? — Ах, вы ўжо прабачце*
*статку*
*і верхаводнаму ражну.*
*А злая сіла прэцца… Існы Божа!*
*Дурыла хараводзіць з галышом…*
*Сабраць бяссілле мы ў кулак не можам*
*і толькі гарлапанім пад крыжом.*

**Пераклад з расійскай Сяргея Панізьніка**

▸ АРХІЎ

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ. ЛІСТЫ З ГОРАДНІ

## Нілу Гілевічу

**[9 кастрычніка 1963 г.]**

Ніл, дарагі чалавеча!

Дзякуй табе за твае добрыя словы і за спачуванне. Толькі на фільм [«Третья ракета» («Беларусьфільм», 1963; аўтар сцэнарыя В. Быкаў, рэжысёр Р. Віктараў). — *С.Ш.*] гэты я ўжо даўно плюнуў, як кажуць. Не па-мойму ён зроблен, шмат што не так, дрэнна, слаба — чорт з ім, з фільмам. Гэта балаган, а не мастацтва — кіно. У літаратуры, нягледзячы на ўсё, усё больш тваіго, аўтарскага, а кіно — дрэнь.

Сёння атрымаў ліст ад Юркі Вылчава [Вылчаў Георгі Дзімітраў (нар. у 1926) — балгарскі крытык, літаратуразнавец, перакладчык]. Ён між іншым просіць прыслаць яму выклік чытаць лекцыі на 1 м[еся]ц ад Мінскага або Гродзенскага ўніверсітэтаў, як ён піша. Я зусім не ўяўляю, як гэта зрабіць і ці магчыма гэта.

Краўчанка, фотакор наш, яшчэ не знайшоў таго фота, што ты прасіў. Калі знойдзе, я табе прышлю.

Вось, бадай і ўсё.

Бывай здароў і добрых вершаў табе.

З шанаваннем — Васіль.

Прывітанне Івану Н[авумен]ку.

## Янку Брылю

Дарагі Іван Антонавіч!

Прыехаўшы з Каўказа, знайшоў Ваша пісьмо, якое мяне, вядома, дужа парадавала. Па-першае, таму, што гэта першы пісьмовы водгук, ну а, па-другое, таму, што ён ад чалавека і пісьменніка, які для мяне здаўна вельмі і вельмі шмат значыць. Так што — дзякуй вялікае і шчырае.

Сапраўды, мы вельмі чэрствыя адзін да аднаго, нават аднадумцы, у большасці падвержаны сальераўскаму пароку, і не кожны здольны пераступіць цераз сябе, каб парадавацца чужой удачы. У гэтым сэнсе «Мост» для мяне — радасць, у тым ліку і мастацкая (як для чытача), але найбольш за аўтара, які, даволі пакружыўшы, вяртаецца на «кругі своя», да сваёй, чалавечай, хоць і абскубанай, але праўды. Вось гэты аўтарскі кірунак і змусіў мяне падтрымаць аповесць, я сам напісаў рэцэнзію, і «ЛіМ», трохі яе папатрашыўшы, надрукаваў [Размова пра рэцэнзію на аповесць І. Шамякіна «Мост»: Быкаў В. Улада праўды // Літаратура і мастацтва. 1965. 27 жн.].

А з «Раман-газетай» я Вам спачуваю. Гэты Ільінкоў такі асцярожны тып, ён так доўга прынюхваецца, што ўрэшце атручвае ўсю радасць ад выдання 1 млн. тыражом. Больш палахлівых і больш асцярожных радактараў, чым у «Раман-газеце», я не сустракаў нідзе.

Ну, а мы тут жывем ціха і мірна. Аляксей [Карпюк Аляксей Нічыпаравіч (1920—1992) — беларускі пісьменнік; сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СП БССР (1965—1970, 1978—1992)], вызвалены ад свае чыноўнічай службы, цяпер «обуреваем» тысячай ідэй самых розных, носіцца з імі па начальству, піша ў высокія інстанцыі. З Мінска выпісаў урэшце Броўку і брыгаду пісьменнікаў і цяпер бударажыць увесь горад сустрэчамі, вечарамі…

Ну дык яшчэ раз Вам вялікае дзякуй.

Бывайце здаровы, усяго Вам найлепшага.

Да сустрэчы!

Ваш — Васіль.

**15/IX–65 г.**



**Аляксей Сіманаў, Валянцін Аскоцкі, Лазар Лазараў і Васіль Быкаў**

## Максіму Танку

*Першаму сакратару праўлення Саюза пісьменнікаў БССР*

Паважаны Яўген Іванавіч!

На днях выдавецтва «Беларусь» без колькі-небудзь пераканаўчага абгрунтавання афіцыйна адмовіла мне ў выданні аповесці «Праклятая вышыня», раней запланавара на 1969 год.

На працягу апошніх трох год гэта другая адмова запар. Такім чынам, фактычна я пастаўлены перад немагчымасцю выдавацца ў Беларусі на беларускай мове.

Я прашу Вас, сакратарыят, прэзідыум і секцыю прозы СП БССР выкарыстаць высокі аўтарытэт свае арганізацыі і аказаць мне магчымае садзеянне ў гэтым канфлікце з выдавецтвам «Беларусь»

З павагай Васіль Быкаў.

**26 ліпеня 1968 года.**

## Валянціну Аскоцкаму

**17/VII–69 г.**

Валя, дорогой дружище!

Спасибо тебе за теплые слова поддержки, они, разумеется, дороги мне. Но я не очень отчаиваюсь — уже привык за последние годы и другого не ждал. Правда, я все же не думал, что наш «ЛіМ» тут же схватится за это дерьмо из-под Мотяшова и перепечатает его на своих страницах [размова пра артыкул І. Мацяшова аб аповесці «Круглянскі мост»], как он это незамедлительно сделал, видимо, не найдя подходящего подонка в Минске. Ну и то бог с ним. Я всем прощаю.

Эти дни усиленно читал, в т. ч. и Б. Окуджавский роман [Акуджава Булат Шалвавіч (1924–1997) — расійскі паэт, празаік, бард. Размова, відаць, пра раман Б. Акуджавы «Бедный Авросимов» (Дружба народов. 1969. № 4–6).]. Неплохо сделанная вещь, стилистическая сторона просто изумляет. Правда, слишком все зашифровано, затуманено, плохо просматривается в сторону замысла. Но хороша вообще. Превосходен Камю («Падение» в № 5 «Нового мира») и один рассказ Искандера (там же), этот последний бесподобен. Прочитал и твою статью в последней «Литературке» [Оскоцкий В. Безбрежная романтика и берега романтизма // Литературная газета. 1969. 16 июля] — молодцом, правильно воюешь с этими псевдоромантиками и их апологетами. Но романтика сейчас нужна, она дает простор для идеализации действительности. К чему это приводит, мы уже знаем.

В Москве давно уже не был — нету дороги. Книжка в «М[олодой] Г[вардии]» засохла на корню — не издают. В остальном живу помаленьку. Алексей К[арпюк] собирается в Польшу. Я немножко поезжу в конце июля и буду сидеть дома.

Как ты? Куда и когда в отпуск? Как ребята и где Вася? Мой самый сердечный поклон Нине [Ніна Васільеўна Мінаева — жонка В. Аскоцкага].

Как с приемом-выступлением?

На этом обнимаю

твой Василь Б.

## Грыгорыю Бакланаву

19 октября 69 г.

Дорогой Григорий!

Спасибо тебе огромное за дружеское слово поддержки, сказанное как нельзя вовремя. Только это и утешает, других утешений в нашей жизни осталось уже немного. Не скажу, что все эти крупнокалиберные залпы совсем уж подавили меня, но иногда вызывали недоуменный вопрос: отчего уж так уничтожающе — за что? Неужто так стала опасна правда на уровне дворника, даже не домоуправа? А здесь все это еще усугубляется провинцией и провинциализмом обывателей всех рангов. Но — потерпим. Терпели не такое.

В следующем месяце планирую быть в Москве, хотелось бы повидаться. А пока обнимаю тебя по-братски и с благодарностью.

Твой Василь.

Мой сердечный привет Элле и малышам, а также всем Лазаревым.

В. Б.

## Валянціну Аскоцкаму

Дорогой Валентин, здравствуй!

Получил твое, как всегда, желанное для меня письмо, спасибо. Поздравляю тебя, хотя и с опозданием, с приемом-вступлением [Размова, відаць, пра ўступленне В. Аскоцкага ў СП СССР.], теперь этот год для тебя и еще для одного, неудачного, литератора будет памятен: тебе своим +, а ему -. Но что ж, каждому свое — как было написано над входом в Бухенвальд.

А мы вот только с пленума. Думал, ты тоже появишься в Минске, но из москвичей было лишь трое: З. Богданова (которая не может мне простить Бритвина [Брытвін — адмоўны персанаж аповесці «Круглянскі мост».], так сказала), ее заступница из «ЛГ» и Щедрина. Был юбилейный доклад Мележа, юбилейные прения, подпорченные, как всегда, выступлением А. Карпюка. На том все и кончилось.

Дорогой Вл.! «Родственников» [раман расійскага пісьменніка Юрыя Васільевіча Бондарава (нар. у 1924).] я читал, правда, они не показались мне неудачными, показались лишь опоздавшими на 5–6 лет. А вот «Горячий снег» [Раман Ю. Бондарава.] меня поставил в тупик. Я не знаю, что это такое? И зачем? Кочетова [Кочатаў Усевалад Анісімавіч (1912—1973) — расійскі пісьменнік; з 1954 г. сябра праўлення СП СССР; з 1961 г. галоўны рэдактар часопіса «Октябрь».] я не читал, наслышан уже и без того об этой вещи [Размова, відаць, пра раман «Чего же ты хочешь?», у якім В. Кочатаў выступіў супраць разбурэння савецкага грамадства заходняй псеўдакультурай і прапагандай. У 1969 г. 20 прадстаўнікоў інтэлігенцыі падпісалі ліст супраць публікацыі рамана.]. Слышал, как В. Страфа собирается ему не подать руки…

За твоей уважаемой «ДН» [Часопіс «Дружба народов».] я, разумеется, слежу пристально, хотя и не все читаю. Теперь вот ожидаю окончания П. Куусберга [Куусберг Пауль Аўгуставіч (1916—2001) — эстонскі пісьменнік; народны пісьменнік Эстонскай ССР (1972).], прочту непременно. Но что я могу предложить или пообещать вам? Ты же знаешь мое положение — не могу же я отказать тем, кто для меня столько сделал. А пишу я мало, впредь же намерен еще меньше. Как можно меньше! Потому что уже нет на теле живого места — все избито. Впрочем не только у меня плохо. Наше издательство окончательно вернуло книжки В. Короткевича, В. Адамчика, М. Стрельцова, А. Карпюка. Я даже и не обращался туда.

Так что когда-нибудь в будущем. Если придется.

Твоя книга [Размова, магчыма, пра кнігу — Оскоцкий В. Единство пути, многообразие поиска: (о национальном и интернациональном в советской литературе). М.: Знамя, 1969.] передо мной, я ее посмотрел, собираюсь внимательно прочесть. Материал, как видно, огромный, дай бог тебе умно распорядиться им. Да ты умеешь. Валя, ты же умница. Пусть тебе будет хорошо в этом мире.

Может, как-нибудь свидимся.

А пока — обнимаю.

Твой В. Б.

Мой поклон Нине.

**23 ноября 69 г.**

## Мікалаю Пашкевічу

Паважаны Мікола Пашкевіч [Пашкевіч Мікалай Арсеньевіч (1936—1972) — беларускі педагог, літаратуразнавец, краязнавец]!

Я шчыра дзякую за добрыя словы прысвячэння і за ўвагу, выказаную прысланнем кніжкі. Вы так многа паставілі перада мной пытанняў, што, відаць, адказаць на іх давядзецца ўсё ж вусна. Як-небудзь бліжэй да лета я пастараюся прыехаць да вас, тады пагаворым аб усім падрабязна.

Аб тым я паведамлю дадаткова.

А пакуль што шлю Вам асабіста і ўсім гурткоўцам самыя найлепшыя пажаданні.

Бывайце здаровы.

Са шчырасцю В. Быкаў.

**12/II–70 г.**

## Мікалаю Пашкевічу

Шаноўны Мікалай Пашкевіч!

Нам з Вамі яўна не пашэнціла ў гэтую вясну — так навалілася на мяне клопату ды і хвароба, што, як бачыце, у маі-чэрвені паездка не адбылася. Запіску Вашу знайшоў 28[-га] па прыездзе з Масквы, дзе даўгавата прабыў, а цяпер, вядома, няма сэнсу рушыць. Значыцца адкладзем на восень — верасень-кастрычнік, авось тады лепш пашанцуе.

Я гэтым самым прашу ў Вас і Вашых вучняў прабачэння, але ж не наўмысна падвёў Вас. Акалічнасці, нярэдка здараецца, усё яшчэ мацнейшыя за нас.

Усяго Вам найлепшага ўлетку, з вінаватасцю В. Быкаў.

**30/VI–70 г.**

## Мікалаю Пашкевічу

Дарагі Мікола, я, безумоўна, павінен павініцца перад Вамі, але і цяпер я не ведаю, што і як мне рабіць з Вашаю просьбай. Нейкі час я адсутнічаў у Гродні, ездзіў на Полаччыну, прыехаў не зусім здаровы, хаджу у паліклініку, шмат розных літаратурных (і не толькі) спраў і тут — нядзейснае абяцанне. Вядома, я не супраць і з задавальненнем бы, але не ведаю і цяпер калі зробім гэта.

Але зробім!

Абавязкова прыеду ці адгэтуль, ці з Мінску, за які дзень да таго дам тэлеграму.

На тым і дамовімся.

Тады пагаворым пра ўсё.

А пакуль —

з прабачэннем Ваш В. Быкаў.

**4.X.70 г.**

## Міхасю Лынькову

[Снежань 1970 г.]

Дарагі Міхась Ціханавіч!

Будзьце здаровыя і шчаслівыя ў Новым, 1971 годзе.

Усё жыццё збіраюся сказаць Вам, як я люблю Вас ад самага дзяцінства.

«Гой» была мая першая прачытаная ў жыцці кніжка, я тады быў зусім малы, а Вы — такі малады.

Са шчырасцю абнімаю Вас.

Ваш Васіль Быкаў.

**Падрыхтоўка да друку і каментары Сяргея Шапрана. Яшчэ больш лістоў — у новых нумарах «Дзеяслова»**

КРАЙ

# ЛУНІНЕЦ І ЯГОНЫЯ ВАКОЛІЦЫ,

## АЛЬБО ВАНДРОЎКА ДЛЯ ПАЭТАЎ І ЧЫТАЧОЎ

Аксана СПРЫНЧАН

**Адразу папярэджу: назва палескага мястэчка Лунінец — амбівалентная. Тыя, хто любіць яго, лунаюць у нябёсах натхнення. Абыякавыя ж патрапляюць у луну — яму ў балоце. Вядома ж, гэта пашыраецца і на іншыя вёсачкі і мястэчкі Лунінеччыны, звязаныя прамянямі сцяжынак, дарог і чыгуначных шляхоў. Пра найбольш яскравых сонечных зайчыкаў-палешукоў я і хачу апавесці тым, хто любіць чытаць і вандраваць.**

### Белае і чорнае

Свет падзяляецца на гэты і той, а гэты свет бывае не толькі белым, але і чорным. Каля вёскі Бастынь ёсць Белае і Чорнае возера, і нават герб вёскі падзелены напалам белым і чорным колерамі. Калі да Чорнага возера дапяць цяжка, дык Белае шырока расплюшчыла сваё чароўнае вока. Возера Белае — надзвычай гарманічнае, гэтым яго можна параўнаць са Свіцяззю. А яшчэ тым, што ў гэтых азёрах Беларусі расце надзвычай рэдкая рэліктавая расліна — лабелія Дортмана. Стылізаваная лілея на гербе Лунінца — гэта і ёсць сціплая кветачка Белага возера. Ейная краса і чысціня ўпрыгожвае гербы і вёсак Лунінецкага раёна: то мышалоў трымае яе ў кіпцюрах (вёска Лунін), то чапля ў дзюбе (вёска Сінкевічы), то яна проста ў верхнім блакітным полі герба Мікашэвічаў…

### «Адам Міцкевіч на Відзіуш-гары»

Лабеліяй Дортмана Адам Міцкевіч дакладна любаваўся на возеры Свіцязь. Ці быў ён на возеры Белым, звестак няма. А вось паданне пра тое, што знакаміты паэт прыязджаў у Кажан-Гарадок на магілу Авідзія, існуе. Якіх толькі метамарфозаў не бывае ў жыцці, каханні і смерці, таму цалкам імаверна, што паэт, які нарадзіўся ў Італіі, выпраўлены ў выгнанне на Чорнае мора, урэшце сканаў у Кажан-Гарадку. І на месцы ягонай магілы насыпаны капец — Відзіш (Відзіуш, Авідзіуш)-Гара. Таму адно застаецца чакаць карціну «Адам Міцкевіч на Відзіуш-Гары».

### На грані(це) фантастыкі

Каб пабачыць фантастычную карціну, трэба трапіць на тэрыторыю гранітнага кар'еру ў Мікашэвічах. Найбуйнейшае ў Еўропе прадпрыемства па вытворчасці друзу ўражвае не толькі сваім маштабам (кар'ер у Мікашэвічах — найбольшы ў Еўропе), але і прылажосцю: вадаспады, саракапяцітонныя БЕЛАЗы падобныя да дзіцячых машынак, дзясяткі кіламетраў серпанцінавых дарог, нараджэнне аблокаў падчас выбуху граніту…



Фота аўтара

Свята-Юраўская царква ў Сінкевічах

На безкаменнай зямлі Лунінеччыны менавіта на дзесяці глыгах граніту каля царквы Перамянення ў вёсцы Язвінкі напісаныя Боскія запаветы.

### Сысці немагчыма застацца

Ёсць на Лунінеччыне месца, з якога, як той казаў, сысці немагчыма, хоць і трэба, калі ты яшчэ здольны хадзіць. Гэта клады ў вёсцы Багданаўка, якія захавалі для нас часы паганства. На магілах дзясяткі дубовых прыкладаў: дарослым — вялікія, дзеткам — маленькія, мужчынам — з сукамі. Можна сустрэць і, так бы мовіць, пераходны варыянт ад паганства да хрысціянства: дубовы прыклад з суком-крыжам. Рэшткі такіх магіл ёсць і на іншых могілках Лунінеччыны, але менавіта ў Багданаўцы дубовыя брамы паміж светам жывых і памерлых захаваліся найлепей.

### Лунінецкі вузел

Я не ўмею завязваць марскія вузлы і не ўмею разблытваць іх. Я люблю чыгуначны вузел, бо нарадзілася ў Лунінцы. Такі вузел і не завяжаш, і не разблытаеш, у такі вузел прыязджаеш і з такога вузла з'язджаеш. Ёсць месцічы і хутаране. Ёсць вяскоўцы і местачкоўцы. І, пэўна ж, ёсць вузялкоўцы. Прынамсі, я — вузялкоўка, улюбёная ў цягнікі, дызелі, электрычкі, рэйкі, шпалы… А вось масаж маленства, пэўна, усе адчулі на сабе: «Рэйкі-рэйкі, шпалы-шпалы…» Гэта вельмі лунінецкі масаж. Дарэчы, друз з гранітнага кар'еру пераважна ідзе на будаўніцтва і рэканструкцыю беларускіх чыгуначных шляхоў. А цягнікі са сталіцы прыходзяць у Лунінец уначы і ў сталіцу сыходзяць уначы. Таму Лунінец для мяне — начны вузел. Скрыжаваныя стрэлы на гербе Лунінца сімвалізуюць вузел чыгуначных дарог.

### Драўляныя сродкі руху

Толькі не падумайце, што я пра конскія падводы. У 1930-я гады Васіль Ілючык, каваль з Багданаўкі, змайстраваў драўляны ровар. Ад'ездзіўшы два гады, гаспадар прадаў яго Пінскаму краязнаўчаму музею. І цяпер можна пабачыць яго і ўразіцца чалавечай празе руху.

### Музыка неба

Богам дадзеная вёсачка натхняе, як натхняе і горад, які лунае, у якім нелегальна працаваў настаўнікам і стварыў частку паэмы «Сымон-музыка» Якуб Колас. Таму ў гэтай паэме можна адчуць музыку Лунінца, — мястэчка, дзе на прывакзальнай плошчы стаіць помнік скральнікам космасу, што болей нагадвае статую Свабоды. І ёсць помнік авіяканструктару Сухому, які сустрэў у Лунінцы сваё каханне. І таксама настаўнічаў, але легальна.

### Сардэчная ягада

Лунінеччына — край людзей, якія росцяць сэрцы. Гэта найскладанейшая ювелірна-хірургічная праца. Бо напачатку трэба зрабіць перасадку часткі расліны, потым яе гадаваць, палоць, абразаць, перажываць за яе, ахоўваць, паспець сабраць сабе і натхніць ёю іншых. І няхай не кожная трускалка прымае форму сэрца, у кожнай ягадцы — шчырае сэрца лунінецкай зямлі. Стацца шчаслівым найлягчэй у чэрвені, прыехаўшы ў які заўгодна куточак, ад Любані да Малых Чучавіч. А калі ў трускалкавую сталіцу ахвота — дык вам у Дварэц.

### Палескі дзівак

Рымскія паэты знаходзяць свой супакой у Кажан-Гарадку, а кажан-гарадоцкія гаспадары не даюць спакою ў Рыме. Некалі Крыштоф Шчыт, апрануўшыся «ў Хрыста» і ўзяўшы ў руку пальмавы ліст, сустрэў картэж Папы. Пасля скандалу Крыштофу давялося пакінуць Рым. Але не быў бы ён Шчытом, каб за некалькі гадоў не вярнуўся і не дамогся аўдыенцыі ў Папы. Калі паляшчук павінен быў пацалаваць папскую пантофлю, дык укусіў Папу за палец нагі. «Калі Папеж ёсць святы, не павінна яму ад гэтага балець», — рагатаў Крыштоф, апавядаючы пра здарэнне. Але рагатаў пазней, бо гэтым разам яго пасадзілі ў вязніцу, і толькі праз некалькі гадоў яго выкупілі, прадаўшы адзін з палескіх маёнткаў. Чаго толькі яшчэ не здаралася з Крыштофам Шчытом! На мяжы сваіх уладанняў з царскімі дзяржаўнымі землямі Шчыт загадаў паставіць слупы з надпісам з аднаго боку «дзяржава Шчытоўская», а з другога «дзяржава Расійская», на што падкупленая царская адміністрацыя глядзела скрозь пальцы... Упэўненая, што Крыштоф Шчыт варты помніка, бо калі каму і ставіць помнікі, дык паэтам і дзівакам.

### Паміж сквапным Пінскам і шчодрым Кажан-гарадком

Калі праектаваўся ўчастак чыгункі Баранавічы–Сарны, інжынеры прапанавалі ўгоду пінскім габраям: за ўзнагароджанне правесці дарогу праз Пінск. Тыя пасквапнічалі, упэўненыя, што без Пінска і так не абысціся. А Крыштоф Шчыт сам аддаў 10000 рублёў золатам, каб толькі чыгунка абмінула ягоныя ўладанні.

Вось так, дзякуючы сквапнасці і шчодрасці, Лунінец неспадзявана і залунаў на Палессі, атрымаўшы магчымасці для развіцця.

### Мікалаеўская і Юраўская бажніцы

Узносяцца ў неба беларускія храмы. Найбольш значныя тут былі збудаваныя як уніяцкія. Гэта Мікалаеўская царква ў Кажан-Гарадку і Юраўская царква ў вёсцы Сінкевічы. Свята-Мікалаеўская бажніца паўстала ў 1818 годзе. Пасля знішчэння уніі прыход стаўся праваслаўным, але бунты, калі прыхаджане дамагаліся вяртання ў унію, адбываліся яшчэ цягам некалькіх дзесяцігоддзяў. Храм спалучае ў сабе рысы барока і тыповага палескага дойлідства. З часоў уніі ў ім захаваліся разбяны пазалочаны іканастас і алтары з драўлянымі скульптурамі.

Свята-Юраўская царква — адна з найстарэйшых драўляных бажніцаў рэгіёну (мяжа 17–18 стст.), у якой захавалася багата прыгожых старасвецкіх абразоў. На вялікі жаль, належнай увагі гэтаму ўнікальнаму храму няма. Але і «ўвага» ў сённяшняй Беларусі — рэч таксама небяспечная: колькі ўнікальных драўляных храмаў апошнім часам было знявечана,ператворана ў псеўдарасейскія пароды, і ніхто за гэта не адказвае.

### «Беларуская граматыка» ад святара

А вось найстарэйшае паселішча ў ваколіцах Лунінца — вёска Лунін. Знакамітая яна ў першую чаргу тым, што ў ёй у 1875 годзе святар Барысаглебаўскай царквы Платон Ціхановіч стварыў рукапісную «Беларускую граматыку». Наведваючы царкву, не забудзьцеся паставіць свечку за святара, які любіў беларускае слова.

### суВЯЗь

А звязваюць усе куточкі Лунінеччыны, вядома ж, сакральныя вязы — магутныя дрэвы, якія жывуць да 400 гадоў. Яны ж надзеленыя і моцай аберагаць, таму з іх робяць абярэгі для хатаў альбо саджаюць побач, прывязваючы вязы да сваёй зямлі і прывязваючыся да іх самі.

### Націск на пачатку

Адразу не папярэдзіла, таму не ведаю, куды вы ставілі націск: на ЛУнінец ці на ЛунінЕц. Афіцыйнасць вымагае канца, душэўнасць палешукоў — пачатку…



Нараджэнне воблака. Мікашэвіцкі гранітны кар'ер

ЮБІЛЕЙ

# БЕЛАРУСКІМ ШЛЯХАМ. АРСЕНЮ ЛІСУ — 80!

**Кажучы пра феномен беларускага шасцідзясятніцтва, даследчыкі, зазвычай літаратуразнаўцы, амаль заўсёды імкнуліся весці паралелі са «старэйшым братам», у якога былі Еўтушэнка, Раждзественскі, Вазнясенскі, Ахмадуліна, Акуджава, плошча Маякоўскага, вечары на стадыёнах і ў Політэхнічным. Раўнаючы на беларускую сітуацыю, адзначалася, што ў нас, маўляў, таксама было сёетое, але маштабы не тыя…**



Ушчэнт забываліся людзі на спецыфіку.

Беларускае шасцідзясятніцтва было ў першую чаргу нацыянальна-арыентаваным па сваёй сутнасці. Зрабілі яго феноменам, як ні дзіўна, не толькі і не столькі пісьменнікі, а навукоўцы-гуманітарыі: Міхась Чарняўскі, Генадзь Каханоўскі, Міхась Ткачоў, Мікола Ермаловіч, Зянон Пазьняк, Генадзь Кісялёў і, безумоўна, Арсень Сяргеевіч Ліс, які 4 лютага адзначыў сваё 80-годдзе.

Менавіта руплівая праца гісторыкаў у 1960–1980-я гады — збіранне і захаванне, перадача з вуснаў у вусны, з рук у рукі фактаў, кніг, вусных успамінаў, а пазней і правядзенне праз цэнзурныя рагаткі да публікацыі — дазволіла ўзнавіць нацыянальны праект у надзвычай складаных варунках савецкага часу, а пазней, у час паўстання незалежнасці, за некалькі гадоў стварыць нацыянальны варыянт гістарыяграфіі.

У кола аднадумцаў кожны трапляў сваім, часам вельмі пакручастым шляхам. Для Арсеня Ліса беларускасць была роднай, яна спадарожнічала яму з самага маленства.

…Ён — заходнік. Як можна прайсці наўзбоч беларушчыны, калі бацьку тваймо вучыў у школе Язэп Гаўрылік, які неўзабаве стане паслом польскага сейма; калі цётка твая выходзіць замуж за паэта Алеся Салагуба, а дзядзька Васіль аздабляе графікай беларускі часопіс «Маланка». У хаце тваёй некалі спыняўся Сымон Рак-Міхайлоўскі. Пад падушкай у цябе ляжыць хрэстаматыя «Родны край» Леаніды Чарняўскай, часопіс «Заранка» і пецярбургскае, «заглянесонцаўскае» «Другое чытанне» Якуба Коласа. Маці і бацька, сялянка і чыгуначнік, спяваюць на два галасы «Не загаснуць зоркі ў небе…», «Зорку Венеру», а дзядзька Рыгор спыняе цябе ў двары і патрабуе прадэкламаваць «Хто ты гэткі? Свой, тутэйшы».

Сёння гэта гучыць як фантастыка. Тым не менш, у Заходняй Беларусі было нямала такіх мясцін, і Лісава вёска Вётхава на Смаргоншчыне зусім не была «беларускім гета»: хапала сваіх беларускіх дзеячаў, палітыкаў, паэтаў, мастакоў і ў суседняй гміне, і ў суседнім ваяводстве…

І як тут не станеш даследчыкам культуры Заходняй Беларусі?!

Зрэшты, да сваёй тэмы Арсень Ліс падступіўся не адразу. Была вучоба на філфаку БДУ, праца ў Шаркаўшчыне ў мясцовым РАНА, а неўзабаве — пераезд у Мінск, на працу ў Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Хто толькі не тупаў калідорамі выдавецтва ў 1957–1959 гады, калі там працаваў малады Ліс. Прыязджалі з высылкі і турмаў былыя «маладнякоўцы» і «ўзвышэнцы», заходзілі ў выдавецтва са сваімі новымі кнігамі, а хто навечна застаўся за кратамі, рукапісы тых прыносілі жонкі і дзеці. Наведваліся і маладыя. Не ўсе ведаюць гэты факт, але, каб не Арсень Ліс, застаўся б першы зборнік Уладзіміра Караткевіча без вершаў «Паўлюк Багрым» і «У векавечнай бацькаўшчыне клёны…». Першы з іх быў прызнаны двухсэнсоўным, а другі проста выкінуў з рукапісу рэдактар «Матчынай душы».

«Заходніцтва» вярнулася ў аспірантуры Акадэміі навук, куды Ліс паступіў у 1959 годзе, ды так і застаўся з Акадэміяй на ўсё жыццё. Першая ж тэма, «Народна-паэтычная творчасць Заходняй Беларусі», стала лёсавызначальнай, як быццам распаўшыся на дзве асобныя: заходнебеларускае мастацтва і народную песню, за якой навуковец дзесяцігоддзямі ездзіў па ўсёй Беларусі, запісваючы на магнітафон, парадкаваў у дыхтоўныя тоўстыя тамы серыі «Беларуская народная творчасць», аналізаваў у фалькларыстычных манаграфіях. Збіраючы матэрыял для дысертацыі, Арсень Ліс перагарнуў падшыўкі ўсіх заходнебеларускіх перыёдыкаў, а неўзабаве выйшаў і на старых беларускіх дзеячаў: Зоську Верас, Янку Багдановіча, сыноў Антона Луцкевіча і многіх іншых. Завязаліся знаёмствы, паляцелі з Вільні ў Менск доўгія лісты, праз якія адкрывалася невядомая, замкнёная ад староннята вока гісторыя Беларусі. З цягам часу фактура ўвасобілася ў кнігах пра Браніслава Тарашкевіча, Язэпа Драздовіча, Язэпа Горыда, Міколу Шчакаціхіна, Пётру Сергіевіча — кнігах вельмі чулых, набліжаных да мастацкай прозы, і ў той жа час вельмі насычаных унікальнымі звесткамі. Мажліва, гэтыя біяграфіі, якім неўзабаве ўжо стукне паўвека, пацяху старэюць. Але замяніць іх пакуль няма чым. І не вельмі рвуцца наступнікі, каб дапоўніць сказанае Лісам, напісаць аб'ёмнейшыя і лепшыя кнігі. Да таго ж — Арсень Сяргеевіч мог запраста ўдакладніць нешта ў жонак Тарашкевіча і Шчакаціхіна, у самога Пётры Сергіевіча, у сваякоў і землякоў Драздовіча, у віленскіх беларусаў. У каго сёння спытаецца даследчык? Толькі ў архіўных папераў і… у самога Арсеня Ліса, чыя памяць — «томов премногих тяжелей».

…Ён — інтэлігент: акуратны і гжэчны, асцярожны ў ацэнках і ўважлівы да іншага меркавання. І размова з ім, і чытанне ягоных кніг — заўсёды інтэлектуальнае задавальненне і, адначасова, праверка і ўрок.

…Ён — чалавек, на якога хочацца быць падобным.

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

**100 – 80 =**

*Арсеню Лісу*

*Калі ад дзесяцёх дзясятак*
*Восем*
*Адняць —*
*Не дваццаць застанецца,*
*А роўна гэтулькі,*
*Каб зноў*
*Нашчадкай песняй*
*Разгавецца,*
*Папасвіцца*
*Ў краіне сноў.*

*Яшчэ ў Арсеня*
*Дваццаць год*
*Ёсць у запасе*
*Для нагод!*

**4 лютага 2014**
**Рыгор БАРАДУЛІН**

ДЭБЮТ

# «ЗДАЕЦЦА: БЕЛАРУСЬ МАЎЧЫЦЬ…»

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

**У дадзеным выпадку дэбютуе, упершыню выступае публічна са сваімі вершамі Ірына Дубашынская. Знаёмае прозвішча? Ну так, знаёмае, добра вядомае, асабліва мінчанам старэйшага пакалення, якія яшчэ памятаюць такія спектаклі нацыянальнага рэпертуару, як «За лясамі дрымучымі», «Брама неўміручасці», «Трыбунал», «Адкуль грэх», «Плач перапёлкі», «Парог», у якіх выдатна сыграў характэрныя і камедыйныя ролі, стварыў яркія сцэнічныя вобразы народны артыст Павел Дубашынскі. Бацька Ірыны Дубашынскай.**

«Памятаю, я пачала пісаць вершы недзе з дзесяці гадоў, — піша ў сваім лісце да мяне Ірына. — Па-руску і па-беларуску. Бацька (светлая яму памяць) выбраў беларуская, прачытаў і кажа: «Дачушка, трэба ўсё ж пісаць на той мове, на якой ты думаеш, на якой марыш. Недарэмна ж яе завуць роднай, матчынай». Сам ён быў для мяне жывым прыкладам. Ён не толькі прыгожа размаўляў на роднай мове, развучваў на ёй тэксты п'есаў, спяваў, але, як казаў не раз, думкі думаў толькі на сваёй, бацькавай дадзенай мове. Пэўна таму менавіта яму давяралі чытаць на радыё тэксты без папярэдняга запісу. Вечарам дадуць, а раніцай ён ужо чытае. Дакладна, чыста, без памылак. Бацькаў прыклад, гэтая самая генетычная памяць робіць сваё. Пішу па-беларуску. Набраўшыся храбрасці, рашыла даслаць некалькі Вам. Каб запытацца, ці ёсць у іх паэзія. Бо паэзія — гэта ж, мабыць, не толькі бяздумнае рыфмаванне, а гэта думка-сэрца-талент?»

Такі вось ліст (разам з вершамі) атрымаў я напачатку Новага года. Не мог, натуральна, не пазнаёміцца з вершамі. Першымі вершамі Ірыны Дубашынскай — дачкі знанага акцёра-патрыёта Паўла Ціліпавіча Дубашынскага. Балазе, сустракаліся з ім, сябравалі, ездзілі, памятаю, на Віцебшчыну і ўсю дарогу, былі асабліва на зваротным шляху, быў ў палоне яго вясёлага пеўчага дару… «Так, у Пашы быў моцны голас і тонкі музычны слых, — згадвае Марыя Захарэвіч, калі я прачытаў ёй некалькі вершаў Ірыны, мы абмяняліся ўражаннямі і калі потым загаварылі пра бацьку. — Акцёр быў ён цудоўны. І сапраўдны беларус. Не дзіва, што і дачка турбуецца за мову, сама піша вершы. Яблык ад яблыні, як кажуць…»

Гаворым яшчэ з Марыяй пра той адметны факт, што нягледзячы на не самыя спрыяльныя ўмовы, на час не столькі паэтычны, колькі палітычны, ідзе ўсё ж у паэзію шмат моладзі, прытым патрыятычна настроенай. Марыя Георгіеўна, быццам у якасці аргументу, прыводзіць радкі аднаго са сваіх любімых твораў — верша Пімена Панчанкі «Край паэтаў»:

*Там чарнічныя ўсе ночы,*
*Сунічныя ранкі,*
*Там народ найболей любіць*
*вершы Янкі…*

Прыведзены вышэй ліст Ірына Дубашынская пачынае з прызнання ў тым, як яна апошнім часам адкрывае для сябе па-новаму скарбы беларускага паэтычнага слова — і «вершы Янкі», і творы сучасных аўтараў. Ну а цяпер давайце пазнаёмімся з яе ўласнымі вершамі.

## ІРЫНА ДУБАШЫНСКАЯ

### Полацкія крыжы

*Плыве над Дзвіною*
*па небе сабор.*
*Дакранаецца аж крыжамі*
*да зор.*
*Узносіць малітвы свае*
*да Бога.*
*А з неба глядзяць серафімы*
*строга.*
*І нам у зямной нашай імжы*
*Здаецца, што ўзносім свае*
*крыжы,*
*Якія нясем мы ўсе,*
*як хто можа…*
*Памілуй і злітуйся, Божа!*
*Плыве над Дзвіною сабор.*
*Крыжамі сягае да зор.*

### Пра двухмоўе

*Гавару на адной,*
*А тужу па другой.*
*Ужываю адну,*
*А надзею другой сустракаю.*
*І на ёй я, толькі на ёй.*
*На сваёй*
*Сваё шчасце гукаю, гукаю.*

### Пра нас

*Вось здаецца:*
*Беларусь маўчыць.*
*Бо не чую ж мовы роднай.*
*Ціха.*
*Ці ў глуханемачы*
*сваёй крычыць:*
*«Дзе вы, мае дзеці?!»*
*Ліха,*
*Вы сляпыя і глухія вы?*
*Што, не бачыце вы*
*катастрофы?*
*Што, не ўзняўшы нават*
*галавы,*
*Ідзеце пакорна да Галгофы?!*

* * *

*Скончылася ўсё. Крычу:*
*«Што дзеецца навокал?!»*
*Скончылася ўсё. Шапчу:*
*«Чаму так адзінока?!»*
*Скончылася ўсё. Маўчу.*
*Да Бога так далёка!.*

### На далоні ў Бога

*Угору ішла.*
*Угору ішла.*
*Угору ішла і гукала я.*

*Гукала свой лёс.*
*Гукала свой лёс.*
*Гукала і не спазнала я.*

*І не дайшла.*
*І не дайшла.*
*І не дайшла, і ўпала я.*

*Ды ўзняў і панёс.*
*Ды ўзняў і панёс…*
*А думала, што няўдалая.*

САМ-НАСАМ

# Валеры ДУБОЎСКІ: «ГАЛОЎНАЕ Ў ЖЫЦЦІ — НЕ БЫЦЬ, А ЗБЫЦЦА»

***— Шаноўны Валеры Леанідавіч, нядаўна свет пабачыла Вашая кніга «На пачатку маўчання». У ёй ёсць верш з такімі радкамі «...Столькі слоў, // І няма паэзіі». А што Вы лічыце сапраўднай паэзіяй, якую ролю яна выконвае ў Вашым жыцці?***

— І ў прыгожым слове, і ў прыгожым па форме вершы можа не быць паэзіі. Адбываецца гэта, калі няма ў іх душы, калі творца насамрэч не творца, а штукар. Яго стыль — кідкі, правакацыйны сцёб, каб заўважылі... Успомнім: «паэзія» паходзіць ад грэцкага слова «творчасць». А некалі І. Гердэр трапна і назаўсёды вызначыў, што паэзія ёсць «музыка душы».

Спрэчкі пра паэзію, як стан цягнуцца ад старажытнасці. Развагі пра душу, пра тое, ці ёсць яна і што гэта такое, калі не мітусня атамаў, — ад Платона, ад Цыцэрона. Абвінавачванні ў мадэрнізме — таксама адтуль, ад часоў Валерыя Катула, сучасніка Цыцэрона, Цэзара (апошняе стагоддзе да новай эры). Менавіта рымскі дыктатар кпіў з Катула за тое, што ён на вякі заплявіў яго імя ў сваіх вершыках. Ды і сам паэт свае творы лічыў за драбязу, забаўкі. Праз многія стагоддзі ягоныя «забаўкі» зрабіліся канонам, а ў сусветнай літаратуры паклалі пачатак новаму жанру — лірычнай паэзіі.

Дарэчы, Валеры Катул — з «неатэрыкаў», што ў перакладзе на сучасную мову — з мадэрністаў.

У паэзіі ўсё ўжо некалі было. Не было ў мінуласці толькі нас, нашых пачуццяў, нашай музыкі душы. Быць паэтам — мець душу, быць творцам, з не абы-якім чалавечым досведам.

На жаль, праявы сённяшняй цывілізацыі палохаюць падменай сапраўдных чалавечых каштоўнасцей, пачуццяў штучнымі элементамі глабальнай матрыцы — прыгожа, ярка, спакуслівa ўкладзенай у галовы праз навушнікі, маніторы, тэлеэкраны... Чалавек губляе адчуванне рэальнасці, не заўважае прыгажосці сапраўднага жыцця, яго боляў і радасцей. Ён і сябе не адчувае, не шукае сваю самасць, не рэалізуе ў сабе боскі дар, сваё прызначэнне. Галоўнае ж у жыцці — не быць, а збыцца.

Чалавек ёсць чалавекам, калі ён творца, і не толькі ў паэзіі.

***— Вы пачалі пісаць вершы яшчэ ў школе, але потым замаўчалі, і маўчанне цягнулася каля 20 гадоў (з 1980-х да 2003 года). І вярнуцца да вершаў Вас падштурхнуў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Сярод творцаў (вашага пакалення), што «замаўкалі», але потым зноў вярталіся ў літаратуру, можна згадаць, напрыклад, Леаніда Галубовіча... Чым было выклікана Вашае маўчанне?***

— Як і ў Леаніда Галубовіча, выдатнага і ўдумлівага літаратурнага крытыка, у любога, хто раптам «замаўкае», свае падставы. У мяне, насамрэч, «маўчанне» было некалькі. У школьныя, шасцідзясятыя гады, падчас аршанскага жыцця, кінуў творчыя спробы пасля раптоўнай смерці бацькі. Чатырнаццацігадовы, я застаўся ў сям'і старэйшым з мужчын. Паэтычны рамантызм дымам пайшоў. Галоўным стаў пабытовы клопат пра выжыванне. Маці, пенсіянерка па інваліднасці, якая страціла здароўе ў партызанскім атрадзе, стала працаваць не магла, а яшчэ ж, акрамя мяне, трое меншых дзяцей...

Матэрыяльныя цяжкасці падштурхнулі кінуць і вучобу на філфаку БДУ ды пайсці ў войска. Затым завочная вучоба на журналістыцы, вар'яцкі газетны рытм, гойсанне па палях і фермах, пераезды з раёна ў раён, з вобласці ў вобласць. Вучоба, праца, малыя дзеці, адказныя пасады, сур'ёзныя грамадскія нагрузкі...

Другі раз пачаў пісаць пад уплывам Рыгора Семашкевіча, з якім былі ў добрых сяброўскіх адносінах. Пасля рэдактарскай пасады ў карэліцкай раённай газеце «Полымя» на Гродзеншчыне быў накіраваны на два гады вучыцца ў Мінскую вышэйшую партыйную школу. У суседнім квартале на вуліцы Карла Маркса жыў Рыгор. Бачыліся амаль штодня. Ён мне адкрываў вочы на шмат якія моманты ў беларускай літаратуры, яе трагічнай гісторыі. Распавядаў пра лёс Янкі Купалы, пра арышты, расстрэлы нацыянальных пісьменнікаў, іншых дзеячоў культуры. Яму я даводзіў таямніцы ў рэальнай савецкай гісторыі, у біяграфіях бальшавіцкіх лідэраў, у эканамічнай палітыцы і сапраўдным становішчы ў краіне... Рыгор Семашкевіч ведаў пра мае літаратурныя памкненні. Прымусіў паказаць. Прозу, паэзію... Вершы параіў схаваць, бо пасадзяць ці запіхнуць у вар'ятню. А прозу ўхваліў і парасіў перадаць яму машынапісны варыянт, а ён ужо аднясе ў часопіс: «Можна друкаваць». Проза была нестандартная, накшталт таго, што пазней Алесь Разанаў вытварыў у асобны жанр і назваў версэтамі, зномамі... Мяне ж вывелі на тую сцяжынку творчасць Прышвіна і, як ні дзіўна, стылёвы почырк Кузьмы Чорнага, майстра буйных жанраў.

Зрабіў машынапісны варыянт і... усё спаліў. Унутры сядзела сумненне, а яно цвіліла сумленне... Адчуваў праз гэтую ломку, што гавару не напоўніцу, больш замоўчваю. Няшчыра. Калі Рыгор знаёміў мяне ў двары свайго дома з Караткевічам, то, назваўшы аршанцам і яго земляком, дадаў: «Піша і кідае ў агонь». Уладзімір Сямёнавіч зарагатаў: «Гогаль! Спачатку трэба друкавацца, а тады ўжо паліць. Рукапісы гараць...» І засумаваў раптам, і шчыра развітаўся з намі на фразе «Не беражэм мы сябе, беларусы...»

> **Упершыню ў Савецкім Саюзе (за ўвесь савецкі час) мы адзіныя ў дзяржаўным выдавецтве накладам 33 тысячы асобнікаў выдалі забароненую Кнігу кніг. Дагэтуль яе, не трымаўшы ў руках, пляжылі ўсімі сродкамі**

«Маўчаў» я да сярэдзіны 2003 года. Зноў мяне падштурхнуў Рыгор, Рыгор Барадулін. І доказ прывёў, што калі з дзяцінства нешта такое муліць, то, можа, Бог заклаў. Грэх не пісаць, не рэалізоўваць сваё пакліканне. А думкі пра тое, каму і навошта гэта трэба...

Апошнім часам паэзія, творчасць зрабілася неад'емнай жыццёвай патрэбай, роўнай самому жыццю, працы, спасціжэнню сябе, беларускага лёсу, свету, таямніцы быцця.

«Маўчанне» ў жыцці — цяжэйшае, чым у творчасці. Не выказваецца «за», не рабіць подлае, не пісаць на патрэбу, не даносіць, калі ад большасці падтрабавалася якраз іншае... Апошняе было лягчэй і выгадней.

Такое маё апраўданне перад сабой, што тычыцца маўчання як пісьменніка, ды і не толькі. Вольны па выхаванні чалавек пераканаены, што жыць трэба смела. Усё магчыма, калі бярэшся зрабіць нешта патрэбнае грамадству, а не дзеля ўласнай карысці. Таму і браўся як кіраўнік за праекты рызыкоўныя, але бясспрэчныя ў сэнсе грамадзянскім, чалавечым, прафесійным. Зусім свядома, без усялякага дазволу (а яго проста быць не магло), напрыклад, у выдавецтве «Беларусь» мы выдалі ў 1991 годзе поўны кананічны тэкст «Бібліі» з навуковым каментаром. Праўда, па-расейску, бо беларускі пераклад з'явіўся пазней. Але ўпершыню ў Савецкім Саюзе (за ўвесь савецкі час) мы адзіныя ў дзяржаўным выдавецтве накладам 33 тысячы асобнікаў выдалі забароненую Кнігу кніг. Дагэтуль яе, не трымаўшы ў руках, пляжылі ўсімі сродкамі атэістычнай прапаганды. Прызнаюся: у газеце, у таварыстве «Веды» займаўся тым і я...

***— Вы — галоўны рэдактар календара «Першапачатак», выхад якога быў прымеркаваны да 80-годдзя Саюза беларускіх пісьменнікаў. Праца над праектам доўжылася больш за год. Як вялася здымачная праца і падрыхтоўка календара? Ці былі нейкія містычныя ці кур'ёзныя выпадкі падчас працы?***

— За кадрам засталіся імгненні «дакранання» да выдатнай беларускай літаратуры. Да высокіх духам, талентам асобаў, да іх эмоцый. Разам шукалі вобраз, вымалёўвалі яго не словам, а іншымі сродкамі.

Містычныя, кур'ёзныя выпадкі? Анатоль Вярцінскі (Жыцень) узгадаў раптам на жытнёвым полі пад Лагойскам, што першая ягоная кніжка паэзіі называлася «Песня пра хлеб» і пабачыла свет у 1962 годзе, роўна паўвека таму. З аўтарскім аўтографам яна захоўваецца цяпер у мяне як адна з каштоўных рэліквій.

Не веру ў прымхі, але ў календары «Першапачатак» партрэтаў літаратараў атрымалася 13. «Чорная магія» асветлена, дзякуй Богу, чатырнаццатай мадэллю — дзяўчынкай Евай, якая ў кадры разам з Баем, шаноўным Генадзем Бураўкіным. Пятнаццаты герой здымкаў — руды кот Рысік. Ён абсалютна арганічна дапоўніў вобраз Дамавіка — свайго гаспадара, Рыгора Барадуліна. Здзейсніў Рыгор, праўда, даў жывёліне за яго брыдкія справы мянушку Усярысік...

Ці будзе працяг праекта? Не ведаю. Патрэбны вялікія сродкі. Але прыватны мой творчы інтарэс доўжыцца. Хочацца паступова зрабіць партрэты некаторых іншых пісьменнікаў. Не толькі знакамітых, але і маладых, якія распачынаюць заўтрашнюю беларускую літаратуру. Ёсць ужо некалькі фотаздымкаў...

***— Дзякуючы Вам як дырэктару выдавецтва «Беларусь» напрыканцы 80-х — пачатку 90-х гадоў пабачылі свет кнігі Аркадзя Смоліча, Юрыя Туронка, Вацлава Ластоўскага, а таксама шмат іншых смелых для свайго часу і запатрабаваных выданняў. У 1995 сталі старшынёй праўлення выдавецтва і друкарні ЗАТ «Юніпак». Упершыню ў краіне перавыдалі «Катэхізіс» Сымона Буднага, Біблію («Пацікніжжа») у перакладзе на беларускую мову айца Уладзіслава Чарняўскага. Якім чынам Вы вызначаеце кнігі, вартыя для выдання? І што ў найбліжэйшых творчых ды выдавецкіх планах?***

— Як ствараюцца цікавыя кнігі? Трэба самому выдаўцу быць у авангардзе, мець шырокі досвед, супрацоўнічаць з разумнымі, сумленнымі, смелымі і таленавітымі, нацыянальна свядомымі людзьмі. Патрыётамі, а не «этнічнымі беларусамі» з рэзервацыі. Так называе Барадулін тых, хто свядомы толькі ўзорам на кашулі, якую апранае напаказ, а ў душы...

Амаль падрыхтаваны да друку насценны перакідны каляндар на 2015 год «Мудраслоўе беларусаў». Імкнуліся да выразнага раскрыцця нацыянальнай скарбонкі слова, паэтыкі, думкі. Праз тэкст, праз тэматычныя ілюстрацыі, якія адмыслова выканала цудоўная наша мастачка Юлія Рудзіцкая.

У гэтым годзе выйдзе ў свет апошні, чацвёрты том знакавага, лічу, для Беларусі выдання, падрыхтаванага сумесна з Міністэрствам замежных спраў, Беларускім дзяржаўным універсітэтам і Нацыянальным архівам — «Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914 — 1991 гг.)». У ім упершыню сабраныя ў пяці кнігах, кожная аб'ёмам больш за 40 — 50 уліковых выдавецкіх аркушаў, гісторыя пра нашу дзяржаву ў дакументах. Як нас дзялілі без нас, як цынічна ўсе дзяржавы наўкола ірвалі і тэрыторыю, і гонар, і дух маладой нацыі... Суседзі вялікія і малыя. У гэтых тамах шмат адкрыццяў, фактаў, лічбаў, падказак, засцярогаў, як для дзяржаўных палітыкаў, так і апазіцыйных. Адно шкада (грошы!) — малы наклад, 50 асобнікаў.

Кажуць, хочаш рассмяшыць Бога, раскажы пра свае планы. І ўсё ж прызнаюся: рыхтую да выдання яшчэ адну, а то і дзве свае кнігі: «А» і «Графіці». Гэта зноў паэзія.

Смяшыць Найвышняга — вельмі цікавая справа. Ды хто каго смяшыць — ці не Ён, нас стварыўшы? Адзін з маіх вершаў у выдадзенай летась кнізе так і называўся: «Боскія казытанкі».

**Гутарку вёў Алесь Сачанка**



Фота lit-bel.org

Валеры Дубоўскі — літаратар, выдавец. Аўтар кнігі паэзіі «На пачатку маўчання» (2013). Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Мінску.

**З новымі вершамі Валеры Дубоўскага чытачы «новачасаўскай» «Літаратурнай Беларусі» змогуць пазнаёміцца ў бліжэйшых нумарах выдання.**

ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

# БІБЛІЯТЭКА ЕЎРАМАЙДАНУ

**5000 кніг — такую калекцыю сабрала бібліятэка Еўрамайдану за першы тыдзень працы. Выданні, прадстаўленыя тут, — мастацкія творы ўкраінскіх і замежных аўтараў, літаратура пра рэлігію, бізнэс, медыцыну.**

Пасля завяршэння працы бібліятэка Еўрамайдану плануе перадаць усе выданні чытачам з украінскіх сёлаў у рамках праекта «Сто кніжак для вясковай бібліятэкі».

Як паведамляе афіцыйная старонка бібліятэкі Еўрамайдану ў Facebook, кніг кожны дзень прыносяць вельмі шмат, і валанцёры сёння актыўна займаюцца структурызацыяй літаратуры па тэматыцы і алфавіце. Прыдуманы і правілы карыстання бібліятэкай, галоўнае з якіх: «Прачытаў — вярні», хоць фармальна ўлік выдачы і звароту выданняў не вядзецца — літаратуру выдаюць «пад слова гонару». Акрамя таго, у правілах значацца наступныя актуальныя для Еўрамайдану запісы: «Кніга — не шына, для барыкадаў выкарыстоўвай іншыя матэрыялы», «Кніга — не камень, не шпурляй ёю ў Беркут», «Кніга — не дровы, у бочку не кідай», «Кніга — не ўсцілкі, старонкі ў чаравікі не кладзі».

Варта нагадаць, што пра сам Еўрамайдан дзясяткі пісьменнікаў — і не толькі ўкраінскіх — ужо напісалі каля сотні тэкстаў: вершаў, эсэ, апавяданняў…

# ГОД ЛІТАРАТУРЫ Ў РАСІІ

**2015 год у Расіі абвесцяць Годам літаратуры.**

Адбылася нарада па пытанні яго правядзення. Падчас дыскусіі ўдзельнікі выказалі свае прапановы адносна плану мерапрыемстваў. Агенцтва «Расдрук» прымае прапановы па арганізацыі і правядзенні мерапрыемстваў у межах Года літаратуры.

У абмеркаванні прынялі ўдзел Уладзімір Талстой, дарадца прэзідэнта РФ, Веніямін Каганаў, намеснік міністра адукацыі і навукі РФ, Алена Зелянцова, першы намеснік кіраўніка дэпартамента культуры Масквы, Аляксандр Архангельскі, пісьменнік, член рады па культуры пры прэзідэнце РФ, Алег Новікаў, віцэ-прэзідэнт Расійскага кніжнага саюза, Аляксандр Эбанаідзе, галоўны рэдактар часопіса «Дружба народов», Барыс Тарасаў, рэктар Літаратурнага інстытута імя Горкага, Віктар Фёдараў, прэзідэнт Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, і іншыя дзеячы навукі і культуры.

Як заявіў Міхась Сеславінскі, кіраўнік Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях, Год літаратуры — «добрая магчымасць ссунуць з мёртвай кропкі шматлікія праблемы. Трэба вылучыць прыярытэтныя і жыццяздольныя тэмы, якія складуць план мерапрыемстваў Года літаратуры».

# НЕВЯДОМЫЯ ТВОРЫ ШУКШЫНА

**Супрацоўнікі Алтайскага дзяржаўнага ўніверсітэта ў фондах музеяў і архіваў Расійскай Федэрацыі выявілі 24 творы Васілія Шукшына, якія раней не выдаваліся.**

Калектыў навукоўцаў-філолагаў пад кіраўніцтвам Дмітрыя Мар'іна сабраў аўтографы, запісы, лісты і дакументы, якія мелі дачыненне да творчасці і асабістага жыцця пісьменніка і рэжысёра.

Найбольш каштоўнай знаходкай алтайскія навукоўцы называюць сцэнар да фільма «Адны» — з 1965 года ён захоўваўся ў архіве кінастудыі «Масфільм».

Матэрыялы падрыхтаваны для публікацыі. У ліпені 2014 года, да 85-годдзя з дня нараджэння Васілія Шукшына, плануецца выдаць 9-тамовы збор яго твораў, куды, у прыватнасці, увойдуць і знойдзеныя тэксты.



Фота з архіва пісьменніка

# КНІГА, ЯКАЯ ПАКАЗВАЕ НАСТРОЙ

**Sensory Fiction — унікальны праект навукоўцаў Масачусецкага тэхналагічнага інстытута. Адмысловая кніга, якая была створана тут, дазваляе адсочваць унутраны стан чытача і з дапамогай асвятлення і вібрацый адлюстроўваць яго.**




«Разумная» кніга у святлодыёднай вокладцы адсочвае некалькі ключавых паказчыкаў: тэмпературу цела, пульс,ціск і інш. Пры моцных перажываннях вокладка пачынае свяціцца і вібраваць, што дадаткова ўзмацняе эфект ад чытання кнігі.

# «ГОЛЫЯ ЧЫТАННІ» Ў ЛОНДАНЕ

**Гэтае шоў — Naked Girls Reading — узнікла па іншы бок Атлантыкі, у Чыкага; яго стваральнікамі з'яўляюцца артыстка бурлеска Мішэль Ламур і яе партнёр Фрэнкі Вайвід. Аднак і ў Старым свеце гэтая забаўка з кожным днём становіцца ўсё больш папулярнай.**

Па словах кіраўніцы лонданскага прадстаўніцтва шоў, ад наведвальнікаў літаральна няма адбою, а квіток на «дзейства» трэба браніраваць за месяц.

Шоў доўжыцца 2,5 гадзіны. На невялікай сцэне прыгожыя агаленыя дзяўчыны чытаюць урыўкі з твораў, аб'яднаных вызначанай тэмай. Правілы не дазваляюць выкарыстоўваць электронныя сродкі — толькі папяровыя кнігі, фрагменты якіх чытаюцца ўслых без мікрафона. Гледачы могуць хадзіць па зале ці заставацца за столікамі, піць віно і кактэйлі. І нічога іншага — ні стрыптызу, ні іншых эратычных забаў у шоў не ўключана.

Па словах людзей, якія наведалі Naked Girls Reading, агаленых дзяўчат праз некалькі хвілінаў перастаеш заўважаць, цалкам аддаючыся літаратуры. А аднойчы падчас «голых чытанняў» дзяўчына Абігайл Колінс прачытала публіцы і свае апавяданні. Літаратурны агент, які прысутнічаў у зале, ацаніў яе талент і неўзабаве прапанаваў кантракт на выданне твораў.

ГЕНДЭР

## ЛІТКОНКУРС «ЖАНЧЫНА Ў ГІСТОРЫІ»

З мэтай узвысіць і апісаць на прыкладах мінулага талент і веліч жаночай душы, а таксама для напаўнення цікавымі матэрыяламі рубрыкі «Жанчыны ў гісторыі», украінскі вэб-партал для творчых, таленавітых ды ініцыятыўных «Жанчыны-УКРАІНСКІЯ» абвяшчае конкурс на лепшую публікацыю (нарыс) пра жанчын-украінак, якія сваімі добрымі справамі ў галіне нацыянальнай культуры, літаратуры, адукацыі, народнага мастацтва пакінулі добры след у жыцці грамадства.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца гісторыкі, літаратуразнаўцы, краязнаўцы, журналісты і ўсе, каго цікавіць дадзеная тэматыка.

Варта нагадаць, што падобныя мерапрыемствы – і ў планах Саюза беларускіх пісьменнікаў. Старэйшая творчая арганізацыя Беларусі плануе правядзенне агульнанацыянальнага літаратурнага конкурса і заснаванне адпаведнай прэміі за лепшую публікацыю ў галіне «Жаночая літаратура».

ПРЭМІІ

## ПРЭМІЯ ІМЯ ЛЕСІ УКРАІНКІ

**Камітэт па прысудженні ўрадавай прэміі імя Лесі Украінкі, якая ўручаецца за літаратурна-мастацкія творы для дзяцей і юнацтва, назваў імёны пераможцаў у чатырох намінацыях.**



Лепшым літаратурным творам 2013 года прызналі кнігу «Шуршик В. та інші: Казки з Яринчиного саду» Надзеі Гумянюк. Выданне ўключае дзесяць казак, праілюстраваных таленавітай украінскай мастачкай Святланай Баляс.

У намінацыі «Мастацкае афармленне кніг для дзяцей і юнацтва» лепшай сярод выдадзеных у 2013 годзе журы прэміі назвала выданне «Пра фею Дарафею» Вікторыі Кавальчук.

Спектакль «Я не развіваюся…» па апавяданні Я. Артэменка, пастаўлены на сцэне Запарожскага акадэмічнага абласнога тэатра юнага гледача, атрымаў прэмію Лесі Украінкі як лепшая тэатральная пастаноўка для дзяцей і юнацтва, а поўнаметражны дзіцячы фільм «Іван Сіла» перамог у намінацыі «Кінатвор».

## КНІГА ГОДА Ў БРЫТАНІІ

**Лепшай кнігай года па версіі брытанскай прэміі Specsavers National Book Awards стаў раман Ніла Геймана «Акіян у канцы дарогі» («The Ocean at the End of the Lane»). Аб гэтым паведамляецца на сайце прэміі.**

Раман Н. Геймана атрымаў перамогу ў адкрытым інтэрнэт-галасаванні, у якім чытачы выбіралі лепшага з дзесяці пераможцаў намінацый прэміі. «Акіян у канцы дарогі», як паведамляецца, істотна «адарваўся» па колькасці галасоў ад канкурэнтаў – твораў Малалы Юсуфзаі, Роберта Харыса, Кейт Аткінсан і аўтара дзіцячых кніг Дэвіда Уоліамса.

Н. Геймана раней прызналі першым у катэгорыі «Лепшая аўдыёкніга года» (аўдыёверсію рамана ён запісаў сам).

Шортліст у кожнай з намінацый Specsavers National Book Awards штогод адбіраюць 50 экспертаў у галіне кнігавыдавецтва, прадстаўнікоў кнігагандлёвых сетак і літаратурных крытыкаў. Пераможцаў у асобных катэгорыях выбіраюць галасаваннем 750 акадэмікаў прэміі.




«Акіян у канцы дарогі» – апошні раман Н. Геймана, які выйшаў у 2013 годзе. Гэта гісторыя самотнага «кніжнага» хлопчыка, імя якога чытач так і не даведаецца, але ў якім беспамылкова пазнаюцца рысы самога Ніла Геймана.

У 2012 годзе лепшай кнігай года па версіі Specsavers National Book Awards стаў раман Э. Л. Джэймс «50 адценняў шэрага».

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў novostiliteratury.ru, Agence France-Presse, lenta.ru, ukrainka.org.ua**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

ДЫКТАТАРЫ

# НЕПАЎТОРНЫ МУГАБЭ

Алег НОВІКАЎ



**21 лютага Робер Мугабэ — адзін з самых экзатычных дыктатараў на планеце, адсвяткаваў свой дзевяносты дзень нараджэння.**

«Усё ж 20 год знаходжання пры ўладзе — гэта занадта шмат для аднаго чалавека». Такога кшталту бурчанні беларусаў у Зімбабве прымуць за дзікунства. Робер Мугабэ кіруе краінай ужо 34 гады. Прычым нікуды сыходзіць ён не збіраецца. Яго цяперашні прэзідэнцкі тэрмін закончыцца праз 4 гады, калі палітыку стукне аж 94, а Мугабэ не хавае, што пасля збіраецца зноў балатавацца. Хаця б таму, што ў яго ёсць асабістае жаданне «памерці на працы ў прэзідэнцкім офісе». Увогуле, прэзідэнт кажа, што ён ужо паміраў некалькі разоў і пасля зноў ажываў, паколькі валодае сакрэтам Ісуса Хрыста.

Тое, што Мугабэ застанецца да канца жыцця на пасадзе прэзідэнта, здаецца, нікога асабліва не турбуе. І гэта адзін з самых цікавых аспектаў феномена афрыканскага палітыка і яго рэжыму.

Натуральна, усім вядома, што Зімбабве — абсалютны рэкардсмен у свеце па ўзроўню інфляцыі. Усё жыхары з'яўляюцца мультымільярдэрамі, паколькі бохан хлеба каштуе 100 мільярдаў зімбабвійскіх долараў.

У краіне поўная адсутнасць інфраструктуры. Толькі ў 2008 годзе ад эпідэміі халеры і адсутнасці медычных устаноў у краіне памерлі тры тысячы чалавек. Цікава, што на фоне такога калапсу і беднасці Мугабэ падчас афіцыйнай цырымоніі з нагоды дня нараджэння атрымліваў падарунак у выглядзе залатога трону.

Ён таксама можа дазволіць сабе рабіць буйныя інвестыцыі ў развіццё крыкета. Дыктатар — фанат гэтай гульні, і патрабаваў ад чыноўнікаў, каб кожны грамадзянін Зімбабве вывучыўся гуляць у крыкет, які, па яго словах, развівае ў чалавека рысы сапраўднага джэнтльмена.

Чыноўнікі адразу пабеглі выконваць загад, паколькі з Мугабэ лепш не спрачацца. Метады, якімі дыктатар распраўляецца з апазіцыяй, напэўна, не сніліся нават Гітлеру і Сталіну. Так, калі верыць нямецкай прэсе, у 2005 годзе ўрад у адным з прыгарадаў сталіцы Харарэ разбурыў 50 тысяч дамоў, паколькі дадзены квартал, быццам, занадта моцна падтрымліваў апазіцыю. Паралельна 30 тысяч чалавек былі арыштаваны, а мільён проста страцілі дах над галавою.

Падобных гісторый шмат, і таму часам цяжка зразумець, як з такім палітыкам Захад доўгі час меў нейкія справы. Да таго, як заходнія краіны цалкам разарвалі з ім адносіны, Мугабэ нават паспеў атрымаць ад каралевы Елізаветы рыцарскі тытул. Тытул, праўда, пазней адабралі, а самому былому рыцару забаранілі наведваць краіны ЕС і ЗША. Краіна выключана са шматлікіх міжнародных арганізацый, уключаючы Брытанскую садружнасць. Супраць Зімбабве таксама з канца 1990-х гадоў дзейнічае гандлёвае эмбарга.

Нягледзячы на ўсё гэта, нішто не сведчыць пра хуткі крах рэжыму, які пануе ў Зімбабве. Больш таго, самі тубыльцы гэтага не жадаюць. Яны ўпарта падтрымліваюць Мугабэ на выбарах. Зразумець гэта спрабуюць шматлікія афрыканазнаўцы.

Натуральна, у Мугабэ ёсць свая сацыяльная база. Так, шмат людзей падтрымліваюць яго з-за зямельнай рэформы, якую ён правёў прыклада дзесяць гадоў таму. Землі ў белых былі прымусова канфіскаваныя і падзеленыя паміж чарнаскурымі. Матывацыя для канфіскацыі была проста фенаменальнай: «Белыя фермеры любяць Зімбабве, аднак чарнаскурыя любяць краіну больш». Эканамічны эфект ад экспрапрыяцый, праўда, быў невялікі, аднак піяру акцыя нарабіла. Дробныя чарнаскурыя фермеры — адзін з галоўных рэсурсаў падтрымкі дыктатуры, паколькі, паводле статыстыкі, 37 працэнтаў выбарнікаў — менавіта сельскае насельніцтва.

Акрамя таго, грамадзянам Зімбабве прыемна, што іх лідар карыстаецца такім поспехам у суседзяў. У 2004 годзе часопіс «New African» правёў па ўсім Чорным кантыненце апытанне: «Які самы вялікі афрыканскі палітык у гісторыі?» Як і трэба было чакаць, на першым месцы аказаўся Нэльсан Мандэла. А вось Робер Мугабэ па выніках апытання атрымаў бронзу. Прычыны тут дзве — шалёная антызаходняя рыторыка і згаданая вышэй зямельная рэформа. Той факт, што ён на яе пайшоў, забяспечыла Мугабэ каласальныя сімпатыі ў Афрыцы. Шмат дзе дасюль востра стаіць зямельнае пытанне — ліквідацыя каланіялізму не значыла перадзелу зямлі, якая, як і раней, як правіла, належыць белым фермерам. У Паўднёвай Афрыцы ўвогуле створана партыя, якая ідзе на выбары пад дэвізам імпартаваць дзяржаўную мадэль Мугабэ.

Крыніцай эканамічнага выжывання сістэмы таксама ёсць брудная гульня міжнародных кампаній, якія здабываюць у Зімбабве карысныя выкапні. Рознымі шляхамі і хітрыкамі яны атрымліваюць у Зімбабве канцэсіі. Пасля фірмы фактычна трапляюць у пастку, паколькі Мугабэ любіць паразважаць на публіцы — нацыяналізаваць яму ўсе замежныя кампаніі ў краіне або пакінуць іх у спакоі, калі яны будуць даваць больш грошаў у бюджэт. Звычайна замежнікі выконваюць усе капрызы дыктатара, паколькі прыбыткі ад продажу тых жа алмазаў, якія яны здабываюць у Зімбабве, пакрываюць усе хабары».

Таксама эканоміка Зімбабве выжывае за кошт дапамогі з боку афрыканскіх краін. Адмовіць яны проста не могуць, паколькі інакш будуць выглядаць памагатымі Захаду, які Мугабэ крытыкуе 24 гадзіны на суткі. Па-другое, у кіраўніцтве афрыканскіх краін шмат былых удзельнікаў антыкаланіяльных войнаў 1960–1970-х гадоў. Яшчэ тады сфармаваўся неафармальны агульнаафрыканскі клуб паўстанскіх камандзіраў, адным з якіх быў Робер Мугабэ (ён кіраваў партызанкай у Зімбабве, якая тады называлася Паўднёвая Радэзія).

Тое, што Мугабэ прайшоў праз партызанку, у выніку якой край атрымаў незалежнасць, напэўна, і ёсць галоўная прычына, чаму ў Зімбабве ніхто асабліва крытыкаваць яго не хоча. Не вельмі ветліва. Усё ж Бацька нацыі. Да таго ж узровень палітычнай свядомасці ў Афрыцы не вельмі вялікі. Грамадства пабудавана на аснове кланаў, дзе даўно выпрацаваныя свае механізмы рэгуляцыі грамадскіх адносін, формы прымітыўнага права. Іншымі словамі, дзяржава і грамадства — аўтаномныя сферы.

Хаця Мугабэ абяцае жыць ледзь не вечна, усе лічаць, што гэта толькі бравада. Так, паводле Wikileaks, у дыктатара рак прастаты. Таму, хутчэй за ўсё, паступова ўлада будзе пераходзіць да яго 24-гадовага сына Бона, які не так даўно скончыў універсітэт у Сінгапуры. Аднак стоадсоткава Робер яшчэ не раз шакуе еўрапейскую свядомасць.

Бліжэйшы выбрык чакаецца ў Брусэлі ў красавіку. На пачатку года Мугабэ абралі заступнікам старшыні Афрыканскага саюза. Такі статус патрабуе ад яго ўдзелу ў красавіцкім саміце Афрыка — ЕС. Натуральна, еўрапейцы адмовілі дыктатару ў візе. Тады на яго бок сталі ўсе іншыя сябры Афрыканскага саюза, якія пагражаюць Брусэлю абструкцыяй.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ХАЛІФА ХІФТЭР



Лівійскі генерал сухапутных войскаў у кароткім звароце, які быў перададзены па нацыянальным лівійскім тэлебачанні, заявіў, што ён узяў пад кантроль усе дзяржаўныя ўстановы і часова спыніў дзеянне ўрада і парламента. Іншымі словамі, у Лівіі адбыўся пераварот. Галоўная задача путчыстаў, па словах вайскоўца, — пакласці канец хаосу, які стварылі шматлікія апалчэнні, якія не падпарадкоўваюцца нікому. Ён таксама заявіў, што праводзіць кансультацыі з асноўнымі палітычнымі сіламі, каб прызначыць часовых прэзідэнта і грамадзянскі ўрад. Калі меркаваць па каментарах, Хіфтэр з'яўляецца чалавекам Вашынгтона. З гэтым можна пагадзіцца, аналізуючы яго біяграфію. Ён — генерал лівійскай арабскай Джамахірыі, які дэзерціраваў з войскаў Кадафі і атрымаў палітычны прытулак у ЗША. Пазней ім была створана Армія Вызвалення Лівіі, якая згуляла рашучую ролю ў паўстанні супраць Кадафі. Пры гэтым генерал увесь час знаходзіўся ў цені, а зараз чамусьці вырашыў узяць усю ініцыятыву на сябе. Нягледзячы на заявы генерала, шмат хто сумняваецца ў тым што яму ўдасцца так лёгка навесці парадак. Па-першае, у Лівіі дэ-факта тры мікрадзяржавы. Па-другое, прэм'ер, якога зрынуў генерал, ужо заклікаў да супрацыву і прапанаваў узурпатару здацца.

### СІГМУНДУР ДАВІД ГУНЛАЎГСАН



Гунлаўгсан — прэм'ер Ісландыі ад кансерватыўнай кааліцыі. Дзякуючы яму Ісландыя зрабіла беспрэцэдэнтны крок у гісторыі Еўропы. Гэта першая краіна, якая добраахвотна адклікала сваю заяву на ўступленне ў склад ЕС. Адпаведная заява была пададзеная ў Брусэль яшчэ ў 2010 годзе папярэднім урадам з удзелам левых партый. Стаць сябрам ЕС Ісландыя вырашыла пасля моцнага фінансавага крызісу 2008 года. Еўрасаюз вітаў просьбу Рэйк'явіку. Паколькі Ісландыя мала чым адрозніваецца ад іншых скандынаўскіх краін, меркавалася, што яе ўступленне ў ЕС — справа тэхнікі. Аднак хутка еўраэнтузіязм у ісландцаў знік: ім не спадабаліся антысацыяльныя патрабаванні Еўракамісіі. Тым больш з 2012 года эканамічная сітуацыя пачала выпраўляцца. У выніку новыя кабінет вырашыў, што востраў можа пераадолець крызіс і без Еўрасаюзу. Тым больш, можна захаваць нацыянальную валюту і лавіць рыбу без квот, як прапануе Еўрасаюз. Дарэчы, лоўля рыбы — вельмі важны фактар для выжывання ісландскай эканомікі. Каб неяк дапамагчы людзям папоўніць сямейную касу, кожнаму ісландцу дазволілі вылоўліваць і прадаваць да 650 кілаграмаў рыбы, чым многія і займаюцца, акрамя асноўнай працы. Паводле апытанняў, дапамагае гэта слаба, аднак жыць можна. Дарэчы, за час крызісу Ісландыя выйшла на першае месца ў Еўропе па нараджальнасці.

### ГУРБАНГУЛЫ БЕРДЫМУХАМЕДАЎ



Прэзідэнт Туркменістана правёў спецыяльнае пасяджэнне, на якім запатрабаваў ад урада прыняць меры па пашырэнні інтэрнэту ў краіне. «Трэба стварыць усе ўмовы для таго, каб інтэрнэт стаў даступнай і якаснай паслугай для кожнага грамадзяніна», — заявіў кіраўнік дзяржавы. Ініцыятыва туркменскага гаранта шырока дыскутуецца ў апазіцыйных СМІ. Ні для каго не сакрэт, што Бердымухамедаў рэгулярна трапляе ў спіс «ворагаў інтэрнэту», а па ўзроўні свабоды слова краіна знаходзіцца на апошніх пазіцыях ва ўсіх рэйтынгах міжнародных арганізацый, якія маніторац сферу СМІ і інтэрнэту. Прычым Аркадаг (афіцыйны тытул прэзідэнта) знайшоў выдатны спосаб, як адбіць у грамадзян ахвоту лазіць у сусветную павуціну — зрабіў кошты на інтэрнэт-паслугі непад'ёмнымі для звычайнага грамадзяніна. Так, за безлімітны інтэрнэт туркмену цяпер трэба плаціць ад 213 да 682 долараў штомесяц. А «безлімітка» з хуткасцю ад 1 Мбіт / каштуе на месяц увогуле $ 3839. Паколькі ніякіх слоў на тэму коштаў на інтэрнэт на пасяджэнні не прагучала, грамадства схіляецца да думкі, што пасяджэнне было для галачкі. Напэўна, яго прыйшлося правесці, каб пахваліцца перад ААН, якая прызнала вольны доступ да інтэрнэту складовай грамадзянскіх правоў.

ДА 80-ГОДДЗЯ

# Рыгор Вячорка: «Я ПРАІГНАРАВАЎ

Адна з парадаксальных рысаў савецкай сістэмы, асабліва на яе апошнім этапе — наяўнасць пласту сумленных і прафесійна высокаадукаваных спецыялістаў, у тым ліку ў кіруючых структурах. Людзей, якія бачылі неабходнасць перамен, напачатку як удасканалення сістэмы, ачышчэння ад бюракратычных скажэнняў, але паступова ўсведамлялі неабходнасць карэннага рэфармавання самой сістэмы.

Парадаксальным жа чынам іх намаганні злучаліся з памкненнямі нацыянальна свядомага пласту маладых, з дэмакратычнымі настроямі, што выспявалі і ўзрасталі ў грамадстве. Найбольш яркія прыклады такога супадзення інтарэсаў бацькоў і дзяцей — Рыгор Вячорка і яго сын Вінцук, Іосіф Навумчык і яго сын Сяргей. Не варажба, а садружнасць пакаленняў — яшчэ адна рыса беларускай сітуацыі. І агульная на ўсіх няўдача першай спробы дэмакратычных пераўтварэнняў. Чаму, чаго не хапіла?

Сведчанне ўдзельнікаў тых, ужо адышоўшых у гісторыю падзей, ёсць важнай крыніцай асэнсавання мінулага дзеля разумення сучаснасці.

У апошнія гады жыцця Рыгор Вячорка працаваў над успамінамі, кнігу якіх цяпер рыхтуе да выдання ягоная сям'я. Мы прапануем увазе чытачоў урыўкі з будучай кнігі.

**Аляксей Кароль**

## Глыбінка Палесся — радзіма мая

Край лясоў і балотаў, дзе з'явіліся ў пачатку XX стагоддзя Хутары Мерлінскія, — жыццядайнае месца ў цэнтры Палесся. Тут у 1918 годзе набылі зямлю на выплат мае дзед і бацька, пераехаўшы з Гарадной, што недалёка ад Століна. Мяркуючы па ўсім, былі яны ў ліку апошніх пасяленцаў, бо іхны надзел месціўся практычна побач з балотамі князёў Радзівілаў і казёнными Альманскімі балотамі, дзе амаль не ступала нага чалавека і дагэтуль. Раскарчоўванне лесу і хмызнякоў на хутары, прыстасаванне ўчасткаў пад ворыва ляглі на плечы майго бацькі — Вячоркі Мікалая Трахімавіча, які ўручную выконваў гэтую тытанічную працу, хоць асаблівым здароўем не вылучаўся. Маці Праскоўя Міхайлаўна была родам з Давыд-Гарадка. У гэтай сям'і сёмым з дзесяці дзяцей я і з'явіўся на свет.

З 1920 годзе Хутары Мерлінскія як частка Заходняй Беларусі ўваходзілі ў склад Польшчы. На мяжы з паселішчамі Палескай вобласці — Усходняя Беларусь, СССР. А таму барацьба двух светаў, дзвюх сістэмаў, несумяшчальных ідэалогіяў вядомая мне не па літаратуры, я назіраў за гэтымі працэсамі з маленства.

Няправільна было б сцвярджаць, што ішло «акаталічванне» насельніцтва Заходняй Беларусі. Праваслаўныя заставаліся прыхільнікамі сваёй канфесіі, каталікі — сваёй. На хутары, дарэчы, не было нават касцёла, у адрозненне ад праваслаўнай царквы. Але была ўніяцкая капліца, наша сям'я належала да ўніятаў. Усе каштоўнасці, лад жыцця выкладаліся не ў духу бальшавіцкай ідэалогіі, а на аснове хрысціянскіх, агульначалавечых прынцыпаў. Іншая рэч — навучанне ў школе вялося на польскай мове.

Успрыманне навакольнага свету дзецьмі, маладымі людзьмі, дый дарослымі было зусім іншае, чым ва ўсходніх савецкіх землях. Гэта стала відавочна літаральна адразу пасля «вызвалення» Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй, якое суправаджалася разгулам масавых рэпрэсіяў супраць мясцовага насельніцтва. Не пашкадавалі нават членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якія практычна пагалоўна апынуліся ў турмах ГУЛАГу.

У першыя ж дні пасля 17 верасня 1939 года штоночы энкавэдзісты на сваім «чорным воране» кагосьці звозілі... Вось адзін з такіх трагічных выпадкаў. У адну з начэй павезлі нашага суседа па хутары І. Чырца, бацьку 14 дзяцей, з якіх толькі траім было больш за 12 гадоў. Завошта павезлі ў Сібір Івана Панфілавіча — ніхто не ведаў. Толькі пасля вайны, калі чалавек вярнуўся дадому, высветлілася, што пры паляках ён быў некалькі месяцаў пажарнікам у лесе, за што і пацярпеў. Вярнуўся практычна ў пустую хату, бо жонка і дзесяцёра дзяцей памерлі падчас вайны ад інфекцыі — дызентэрыі, «разачкі», як у нас яе называлі. Гэтыя ды іншыя падобныя прыклады як нельга лепш характарызавалі «гуманізм» бальшавіцка-энкавэдзісцкай улады.

Сустрэчы з «усходнімі» і на побытавым узроўні паказвалі, што адзінства беларускага народу было моцна падарванае. Занадта па-рознаму глядзелі людзі, якія сфармаваліся ў той ці іншай частцы Беларусі, на жыццё, на існую сістэму, на сваё становішча ў ёй, на асновы, на прынцыпы выхавання моладзі. Не заўважаць гэтага мы, яшчэ малалетнія, не маглі. Калі ты і не ўмеў пакуль выказаць сваіх думак, то ў развагах і ацэнках старэйшых ужо знаходзіў тое, што імпанавала, што ты гатовы пакласці надалей у аснову сваёй жыццёвай пазіцыі.

У мяне вельмі рана праявілася цікавасць да вучобы. Пытанне ж было ў тым, як навучыцца грамаце, калі для гэтага няма ніякіх магчымасцяў. Бо грымнула вайна. Вырашылі гэтую праблему дзясяткі са два бацькоў, якія нанялі прафесійнага настаўніка (з дыпломам Запарожскага ўніверсітэта) Іосіфа Рыгоравіча Дзямешку. За аднаго вучня плацілі яму паўтара пуда жыта.

Мімаходзь адзначу, што на Хутары Мерлінскія, амаль з усіх бакоў абкружаныя балотамі, немцы не дайшлі. Для мясцовага ж насельніцтва гэты час быў вельмі драматычны. Рэч у тым, што ўжо летам 1941 года па начах сталі хадзіць узброеныя групы нейкіх людзей, якія выдавалі сябе за партызанаў. Скрозь яны займаліся марадзёрствам. Скажам, бацьку майго ўначы ставілі да сценкі, падняўшы ўсю шматлікую сям'ю, якая складалася пераважна з малых дзяцей, і пагражалі, што зараз жа яго расстраляюць, калі гаспадыня не дасць сала, масла і мёду. Але калі яшчэ мёд на лекі амаль заўсёды ў нас быў, то сала і масла і следу не было.

Вядома ж, пакуль адзін з іх стаіць, накіраваўшы на бацьку рулю вінтоўкі, іншыя «партызаны» пройдуць па ўсіх кутах хаты, хлява, склепа, забраўшы ўсё, што іх цікавіць. Вось такім і паўстаў перада мной у маёй дзіцячай свядомасці вобраз бальшавіцкага партызана. У дзённы ж час па хатах праязджае аддзел паліцыянтаў, накіраваных з навакольных паселішчаў для барацьбы з партызанамі. Галоўнае пытанне ў паліцыянтаў — чаму ты корміш партызанаў, за што зноў жа пагражаюць расстрэлам.

Спачатку за партызанаў выдавалі сябе перш за ўсё энкавэдзісты, якія пабаяліся ўліцца ў дзейную армію і ваяваць у яе складзе супраць немцаў, а беглі ў лясы і рабавалі мясцовае насельніцтва. Аднак ужо ўзімку 1941–1942 года ў нашых мясцінах сталі з'яўляцца партызанскія атрады, якія рабілі рэйды па акупаваных тэрыторыях. Некаторыя атрады спыняліся на некалькі дзён, а некаторыя — на некалькі тыдняў. Прынамсі, у нашай хаце, дзе жыла сям'я з 12 чалавек, нам месца было толькі на печы і каля печы, дзе мы спалі па чарзе. Астатнюю плошчу займалі партызаны, у асноўным на падлозе на саломе. На нашых ложках і канапах спалі камандзіры.

Цікава, што ў ліку партызанаў гэтых атрадаў прыйшлося сустрэць і асобных былых марадзёраў, якія, вядома, пазбягалі сустрэчы твар у твар з бацькам і маці. Не абыходзілася без мара-

### Даведка



Рыгор Мікалаевіч Вячорка (1934–2007), вучоны-эканаміст, спецыяліст-практык у галіне макраэканамічнага рэгулявання і прагнозу, фінансаў і крэдыту, публіцыст, савецкі дзеяч. Заслужаны эканаміст Рэспублікі Беларусь, ганаровы член калегіі Міністэрства эканомікі.

Нарадзіўся 27 лютага 1934 года на Хутарах Мерлінскіх. Запаведны «кут» цяперашняга Столінскага раёна, пакрыты балотамі. У 1961 годзе людзей адтуль выселілі і зрабілі авіяпалігон.

Скончыў Пінскі ўлікова-крэдытны тэхнікум, эканамічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кандыдат эканамічных навук. Працаваў у сістэме Дзяржаўнага банку, быў дэпутатам і старшынёй Планава-бюджэтнай камісіі Вярхоўнага Савета БССР. У 1974–1980 памочнік па эканоміцы першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава.

У пачатку 1990-х — першы намеснік старшыні Дзяржэканамплана. Адзін са стваральнікаў нацыянальнай праграмы эканамічных рэформаў, «Праграмы пераходу Рэспублікі Беларусь да рынкавай эканомікі», ухваленай Вярхоўным Саветам і падтрыманай экспертамі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця. Праграма забяспечвала стварэнне эканомікі незалежнай беларускай дзяржавы.

Выкладаў у БДУ, БДЭУ, Беларускай акадэміі кіравання. Удзельнічаў у навуковых канферэнцыях Лонданскай школы эканомікі, Інстытута Адама Сміта ў Парыжы, Інстытута Усясветнага банка ў Вашынгтоне. Арганізатар супрацоўніцтва Беларусі з міжнароднымі фінансава-крэдытнымі арганізацыямі. Аўтар больш за 100 навуковых публікацый, у тым ліку 3 манаграфій.



Хутары Мерлінскія. Сям'я Вячоркаў. Рыгор Вячорка справа ўнізе, 1950 год



З жонкай Аляўцінай, сынам, дачкой, унукамі на лецішчы. Ад працы на зямлі не мог адмовіцца да апошніх сваіх дзён

# ТЫЯ ЎКАЗІЎКІ»



Рыгор Вячорка не імкнуўся патрапіць у кадр з высокапастаўленымі людзьмі. Адно з нешматлікіх фота разам з Пятром Машэравым. Афіцыйны візіт ва Усходнюю Германію, 1977 год

дзёрства і з боку новых «народных мсціўцаў».

Мой бацька актыўна займаўся развядзеннем пчол у калодачных вуллях, размяшчаліся яны высока на дрэвах. Дык вось. Паколькі савецкім салдатам было вельмі цяжка ў Сталінградзе, гэтыя, з дазволу сказаць, ваякі скідалі з хвояў вуллі, расколвалі іх і выбіралі мёд, уносячы тым самым уклад у агульную барацьбу савецкага народу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Словы гэтыя належаць не мне, а нейкаму Папову, які быў, на жаль, начальнікам штаба атраду Кажухова, што кватараваў у нашай хаце. А тлумачэнне такое ён выдаў маёй 85-гадовай бабулі, якая спрабавала абурыцца відавочным рабункам і разбоем ягоных падначаленых.

Падобных паповых было шмат... У якасці яскравага прыкладу прыведзена тут знішчэнне пчол. Але гэта ў роўнай меры адносілася да ўсіх прадуктаў, вопраткі, абутку, скаціны, коней. Пасля такіх «рэйдаў» усе заставаліся голыя, босыя, галодныя — спусташалася ўсё.

З іншага боку, калі партызаны злучэння Каўпака сапраўды ваявалі з немцамі, то пра рабункі, марадзёрства ніхто з іх не думаў, бо калі такія выпадкі дапускаліся, то парушальніку не пазбегнуць было расстрэлу. Кажу пра гэта не на аснове нейкіх літаратурных крыніц, а на базе «карцінак» з натуры. Рэч у тым, што каўпакоўцы двойчы праязджалі і спыняліся на кароткі час у нашых мясцінах.

Вернемся, аднак, да вучобы. На маю вялікую радасць, з 1 верасня 1944 года мне пашчасціла зноў займацца ў майго настаўніка Іосіфа Дзямешкі, які ўзначаліў пачатковую школу, чатыры класы якой я скончыў у 1947 годзе. Пасля гэтага давялося два гады працаваць у калгасе, які на той час быў створаны. Сямігадовая школа адкрылася толькі ў 1949 годзе, а ў 1952-м я скончыў сем класаў з адзнакай. Нягледзячы на ўсе цяжкасці матэрыяльнага парадку, мой бацька нястомна паўтараў: «Мне грунт вывучыць Грышку». І слова сваё ён стрымаў, дазволіўшы ехаць на вучобу ў тэхнікум. Я выбраў Пінскі фінансава-крэдытны (потым улікова-крэдытны) тэхнікум. У 1955 годзе скончыў яго з чырвоным дыпломам.

Сядзець далей на шыі ў сваёй сям'і не стаў, а таму надалей выбраў завочную вучобу. Адразу ж паступіў на эканамічны факультэт МДУ імя Ламаносава. У 1961-м атрымаў дыплом, які даваў права выкладаць палітычную эканомію, што было маёй марай.

## Машэраў: накарміць Беларусь

Першым самастойным заданнем, якое даў мне П. Машэраў, было даручэнне падрыхтаваць для яго даклад на семінары, дзе мелі быць адлюстраваны найважнейшыя пытанні аграрнай палітыкі. Задача для мяне была, шчыра кажучы, архіскладаная. Семінар павінен быў прайсці ўлетку 1974 года ў Гродзенскай вобласці.

У склад групы падрыхтоўкі дакладу былі ўлучаныя, акрамя мяне, намеснік загадчыка сельгасаддзела ЦК КПБ Я. Сакалоў і журналіст «Сельской газеты» С. Барадоўскі. Працавалі мы дружна, з уздымам, вельмі напружана — па 15–16 гадзін у суткі, без выхадных...

У першай жа гутарцы Машэраў выказаў меркаванні наконт зместу дакладу. Яго навізна мела быць у тым, што ўпершыню ставілася задача выйсці на ўраджайнасць збожжавых у 28–32 цэнтнеры з гектара. Прычым у выніку не проста пажадання, а лепшага выкарыстання наяўнага патэнцыялу.

У прызначаны тэрмін перадалі тэкст дакладу больш чым на сто старонак П. Машэраву. Вось мы ў ягоным кабінеце. Пасля прывітання пачулі: «Сябры, я вам сардэчна ўдзячны за матэрыял, які вы мне далі. Гэта тое, што трэба. Глыбокі пафактарны аналіз пераканаўча паказвае, што ў збожжавай гаспадарцы нам пад сілу тыя рубяжы, якія мы намецілі. Матэрыял выдатны. Гэта не тое, што ў групы, якая рыхтуе даклад на ідэалагічную тэму, дзе суцэльнае пустазелле».

Вось тут да месца будзе адно тлумачэнне, што практычна не ўлічваецца, калі гаворка заходзіць пра вельмі высокія паказнікі ў галіне сельскай гаспадаркі, дасягненне якіх патрабаваў Петр Машэраў.

А сутнасць у наступным.

Як вядома, эканоміка СССР была адзіным гаспадарчым комплексам дзяржавы, які меў развівацца паводле цэнтралізаванага плану. У план закладаліся і ўсе паказнікі развіцця асобных рэспублік. Калі ўзяць канкрэтна сельскую гаспадарку, то кожная рэспубліка атрымлівала план паставак у так званы «саюзны фонд» тых прадуктаў, на вытворчасці якіх яна спецыялізавалася. БССР павінна была пастаўляць у гэты фонд немалыя аб'ёмы малака, мяса, яек, збожжа, бульбы і шэрагу іншых прадуктаў. А паколькі зацверджаны Вярхоўным Саветам СССР план — гэта закон, то, зразумела, ён павінен быў выконвацца няўхільна.

Атрымлівалася нярэдка так, што для выканання плану аддаваліся ў саюзны фонд усе аб'ёмы выробленай прадукцыі, а для так званага рынкавага фонду, г. зн. той часткі прадукцыі, якая мела ісці ў распараджэнне рэспубліканскіх органаў для продажу праз гандаль насельніцтву, нічога не заставалася або заставалася ў мізэрных аб'ёмах. Адсюль і нястача прадуктаў у крамах, пустыя паліцы. Дылема: як жа і план выканаць, і палепшыць забеспячэнне свайго насельніцтва харчам ды іншымі таварамі? Як рассекчы гэты гордзіеў вузел?

Разлічваць на паслабленне з боку цэнтральных органаў пры складанні планаў не даводзілася, бо саюзныя планы і так былі разлічаныя на спажывецкі мінімум, які мела гарантаваць дзяржава. Выйсце адно — павялічваць аб'ёмы прадукцыі, бо практычна ўсё, што выраблялася звыш цэнтралізаванага плану, заставалася ў распараджэнні рэспублікі. На гэтым, калі заўгодна, і палягала адносная самастойнасць рэспублік.

Як чалавек мудры, рупячыся пра інтарэсы свайго народу, Машэраў як ніхто засвоіў гэтую выснову і зрабіў яе крэда сваёй бурнай і неспакойнай палітычнай дзейнасці. Павелічэнне вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі і паляпшэнне на гэтай аснове забеспячэння сваіх людзей было для яго альфай і амегай. Ён не рысаваўся і не прамаўляў заклінанняў накшталт «трэба народ накарміць і даць яму чарку і скварку», а на практыцы рабіў сам тое, што павінен быў зрабіць, знаходзячыся на сваёй пасадзе, і патрабаваў таго ж ад іншых.

Ці разумелі і падтрымлівалі яго ў гэтай справе іншыя кіраўнікі высокага ўзроўню? Далёка не ўсе. Больш за тое, некаторыя з іх чынілі яўнае супрацьдзеянне. Той жа старшыня Савета міністраў БССР рабіў гэта цішком. Як правіла, сваю нязгоду з высокімі лічбамі ён выказваў вуснамі старшыні Дзяржплана БССР, які заўсёды ўступаў у спрэчку з Машэравым з прычыны высокіх аб'ёмаў сельскагаспадарчай вытворчасці.

У такіх выпадках Пётр Міронавіч тлумачыў яму: «Філіп Лаўрэнцьевіч, я не ўрываюся ў вашы планы і не буду пярэчыць, калі вы дамажацеся ад саюзных органаў уключэння ў іх невысокіх паказнікаў, гэта ваша прэрагатыва. І я не прымушаю вас уключаць у план тыя аб'ёмы вытворчасці, пра якія ідзе гаворка. Я стаўлю задачу перад нашымі кадрамі вырабляць больш, чым вы плануеце. Зрабіць гэта нам дазваляе створаны і абноўлены за апошнія гады эканамічны патэнцыял. Трэба проста лепш яго выкарыстоўваць, удасканальваць метады гаспадарання, абапірацца на матэрыяльнае стымуляванне работнікаў, бо на адміністрацыйных рычагах далёка не заедзеш. Вось таму ў якасці арыенціру і ўносяцца прапановы вытвараць асноўныя віды сельскагаспадарчай прадукцыі ў значна большых аб'ёмах, чым закладзена ў плане. Словам, план і забавязанні — катэгорыі розныя».

**І вось аднойчы ўвечары Пётр Міронавіч зайшоў да мяне ў кабінет, дзе я працаваў над чарговым дакладам. Тут і адбылася вельмі цікавая размова. Спачатку пра даклад. А потым Машэраў сказаў літаральна наступнае...**

## Кадравы партыкулярызм Машэрава

У 1977 годзе перад Машэравым паўстала праблема выбару кандыдатуры на вакантную пасаду другога сакратара ЦК КПБ. Яна ўскладнялася такою акалічнасцю. У функцыі другога сакратара ўваходзіла праца з кадрамі. ЦК КПСС строга выконваў ім жа вызначаны парадак, пры якім другі сакратар ЦК саюзнай рэспублікі павінен быць рускім.

Выключэнне рабілася дагэтуль, мабыць, толькі для ЦК КПБ, калі яшчэ з часоў Мазурава другімі сакратарамі па чарзе былі беларусы — Ц. Кісялёў, П. Машэраў, Ф. Сурганаў, А. Аксёнаў. Калі ж з'явілася гэтая вакансія, па ўсім адчувалася, што Масква нагадала Машэраву пра неабходнасць выконваць агульнавызначаны парадак і ў Мінску. Гэта я зразумеў пасля неаднаразовых размоваў з Пятром Міронавічам. Ён сам казаў, што вельмі цяжка вырашаецца пытанне пра другога сакратара.

І вось аднойчы ўвечары Пётр Міронавіч зайшоў да мяне ў кабінет, дзе я працаваў над чарговым дакладам. Тут і адбылася вельмі цікавая размова. Спачатку пра даклад. А потым Машэраў сказаў літаральна наступнае: «Кандыдатуру на другога сакратара я ўжо знайшоў».

На маё пытанне, ці магу я ведаць, хто гэта, ён адказаў: «Бровікаў. Ён кандыдат філасофскіх навук, але не гэта галоўнае, нас не так цікавяць яго навуковая ступень і распрацоўкі. З гэтым мы самі паспяхова спраўляемся. Важна, што ён ведае рэспубліку, сам родам адсюль і будзе з веданнем справы выконваць функцыі другога сакратара...»

Я яшчэ раз у думках ацаніў мудрасць Машэрава. Вядома, сумневаў не было, што яму навязвалася нейкая кандыдатура рускага па нацыянальнасці, не знаёмага з рэспублікай. Але, мяркуючы па ўсім, ён упарта ад яе сыходзіў.

І вось знаходзіць кампрамісны варыянт, сутнасць якога ў наступным. Уладзімір Бровікаў нарадзіўся і вырас у Ветцы, скончыў БДУ, працаваў на Віцебшчыне. Журналіст. Пасля заканчэння Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС быў накіраваны на пасаду сакратара Віцебскага абкаму КПБ, адкуль з часам яго ўзялі ў апарат ЦК КПСС намеснікам загадчыка аддзела арганізацыйна-партыйнай працы, дзе ён працаваў даволі доўга. А таму пярэчыць супраць яго кандыдатуры там не мелі падстаў, бо гэта акурат аддзел, які рэгуляваў кадравыя справы. І атрымалася: чалавек з Масквы, але і не масквіч ці сібірак, работнік, для якога ўсё беларускае не ў навіну і не чужое яму... І не будзе вучыць розуму першага сакратара…

## Бацька за сына

Асабліва заўзята ваяваў тагачасны сталічны гарком супраць майго сына як аднаго з лідараў моладзевага дэмакратычнага руху (гаркамаўцы называлі яго галоўным ідэолагам) і сузаснавальнікаў БНФ. Тут яны сябе не абмяжоўвалі. Але не даваў спакою кіраўнікам гаркама не толькі мой сын, але ягоны бацька. Ніяк не маглі змірыцца з тым, што мне былі давераныя высокія пасады ў партыйных і дзяржаўных органах, у Вярхоўным Савеце БССР. Таму, паводле іх задумы, выйграць барацьбу са мной значыла падняць свой уласны аўтарытэт, а адсюль займець сур'ёзныя падставы для прасоўвання па службовай лесвіцы.

Невыпадкова менавіта з гаркама прыйшла інтрыга пакараць мяне ў партыйным парадку ажно да выключэння з партыі, чым адкрыць шлях для вызвалення мяне ад дзяржаўных пасадаў. Але ім не ўдалося ажыццявіць гэтыя планы. Падзеі развіваліся так бурна, што ім самім прыйшлося выдаваць сябе за дэмакратаў.

Але не спыніліся. Чарговую спробу маёй дыскрэдытацыі зрабілі, калі дэмакратычныя сілы рыхтавалі грандыёзны мітынг на стадыёне «Дынама», а мой сын павінен быў весці гэты мітынг. У іх выспеў план — сутыкнуць тут майго сына са мной, даручыўшы мне выступаць на мітынгу ад імя ўраду і ў абарону ўладаў (у гэты час маё месца працы — першы намеснік старшыні Дзяржплана БССР).

Калі мяне па лініі гарадской партыйнай арганізацыі папярэдзілі, што я мушу выступаць на стадыёне, я неадкладна патэлефанаваў Валерыю Пячэннікаву, сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі, і ва ўпор яго спытаўся: «Хто прыдумаў гэтую авантуру?» Валерый Аляксеевіч папрасіў прабачэння і кажа: «Рыгор Мікалаевіч, усё гэта хітрыкі кіраўніцтва гаркама, на лепшае яны не здольныя...» Я праігнараваў гэтыя «ўказіўкі», на мітынг не пайшоў, не кажучы ўжо пра выступ на ім. Прыцягнуць мяне за гэта да партыйнай адказнасці, мабыць, не паспелі, бо неўзабаве развалілася КПСС.

КІНО

# «НІМФАМАНКА»: ТРЫЕРАЎСКІ МАНІФЕСТ ЗБОРКІ

Андрэй РАСІНСКІ

**Німфаманка блукае па Еўропе. Усе прагрэсіўныя сілы кінуліся святарна цкаваць гэтую здань: карціна Трыера забароненая ў Румыніі і Арменіі, пракатчыкі Гродна і Ваўкавыска леглі касцьмі, абы толькі «па маральна-этычных прычынах» паказу не дапусціць.**

Нават на даступных пляцоўках дэманструюцца ўрэзаныя версіі (у двух частках, па дзве гадзіны; цяпер у Мінску стартавала першая частка). Рэжысёрскі варыянт, дакладней, яго палову, Ларс Трыер прымеркаваў да Берлінскага кінафэсту, што акурат завяршыўся.

Прыйшоў час самім німфаманкам растлумачыць, за што яны б'юцца і чаго прагнуць, дзеля чаго бунтуюць і чаго дамагаюцца.

Скандальная стужка — гісторыя німфаманкі, расказаная ёй самой. Халодным ранкам самотны халасцяк Селігман знаходзіць непрытомную і моцна збітую Джо (Шарлот Гейнсбур). Ён прыводзіць кабету дадому, лекуе раны, саграваe — і распытвае, што адбылося. Гераіня распавядае пра бурлівае жыццё, поўнае ўсялякіх сэксуальных прыгодаў.

Сюжэт такой карціны мог стаць — а часам і станавіўся — нагодай для звычайнага порнафільму. Хаця ў фільме Трыера процьма рызыкоўных інтымных момантаў, не прыхаваных аніякай рэтушу (дублёрамі выступалі порнаакцёры), аматараў салодкага чакае серыя разлічаных ударaў пыльным мехам па галаве.

Пачынаюцца гэтыя ўдары халоднай сцэнай, аформленай пад Таркоўскага — і з жорсткай музычнай аранжыроўкай «Рамштайна».

Гуллівыя сцэны дзяцінства змяняюцца бадзёра-гратэскным эпізодам пазбаўлення нявіннасці ў адпаведнасці з лікамі Фібаначы (на рамантычнай ролі першага каханка Шайя Лабаф). Гераічнае паляванне на мужчынаў у цягніку (саліруе Стэйсі Марцін, якая сыграла Джо ў маладосці) суправаджаецца трапнымі каментарамі Селігмана, які параўноўвае сэкс з рыбалкай. Колькасць ахвяраў німфаманкі расце ў геаметрычнай прагрэсіі, колькасць гледачоў у накаўце — таксама.

Фільм Трыера — гэта выказванне, што мае некалькі слаёў.

Першы слой, які ляжыць на паверхні, — гэта выказванне пра інтымнасць, самоту і апантанасць. Сучасныя сацыёлагі — ад Зыгмуна Баўмана да Энтані Гідэнса — дыягнастуюць крызіс прыватнасці, пішуць пра «вадкага» чалавека, што кідаецца ў разнастайныя хэнці. Паказ гэтага — не самае вялікае прызнанне.

Але німфаманія паводле Трыера — гэта пэўная тэхналогія зборкі, мантаж, які ляжыць у падмурку кінамастацтва (і цяперашняй цывілізацыі). Дзяўчына, якая калекцыянуе мужчынаў, займаецца мантажам: далоні ад аднаго, вочы ад другога, вусны ад другога, а вось цэлая падборка чэлесаў розных памераў і колераў, ахайна каталагізаваная і пранумараваная.

Увогуле, пагоня за жаданнем — ёсць мантаж, пачуцці мантажуюцца ў фільме кантрастна: з полымя — у лёд, са спёкі — у холад. За іранічнымі сэксуальнымі забавамі ідзе эпізод вар'яцтва і смерці (ролю бацькі Джо на разрыў сыграў Крыстыян Слэйтар), гераіня задыхаецца ў роспачы — а па яе назе сцякае кропля вільгаці з нетраў вагіны.

Але самы глыбінны слой фільму не сэксуальнасць, не самота, не вычварная тэхналогія зборкі, а гнастыцызм. Гнастыцызм — колішняе вучэнне, згодна з якім матэрыяльны свет створаны злым бажаством, цела ёсць зло, а душа мусіць вызваліцца з вязніцы. «Німфаманка» — як гнастычны фільм ёсць дыягназам сучаснай цывілізацыі, прасякнутай старажытнай герэзіяй.

Асноўны канфлікт фільму — гэта канфлікт паміж бязвольнай культурай і драпежнай прыродай. Цнатлівец Сэлігман (мы даведваемся пра гэта пазней) і німфаманка Джо — два бакі аднаго медалю. Гэта апаведанні, якія люструюцца. Злая прырода спакушае культуру, каб зьлявіць яе і ўвязніць. У трызненнях (другая частка карціны) з'яўляюцца Вавілонская блудніца і фантом Месаліны — галоўнай рымскай німфаманкі. А раскол паміж каталіцтвам і праваслаўем — становіцца чарговай нагодай для сэксуальных практыкаванняў.




Гераіня бунтуе супраць кахання як буржуазнага забабону — і арганізуе ведзьмаўскі культ вагіны. Страта чуласці — найгоршае пакаранне. Калі першая частка карціны яшчэ лашчыла гледача (у перапынках паміж накаўтамі), то другая частка (на Беларусі будзе ў сакавіку) — дабівае сцэнамі жорсткай лупцоўкі.

Але «Німфаманка» — фільм не настолькі здзеклівы з чалавека, як «Антыхрыст». Бездакорна-маніпулятыўны мантаж сагравaецца чорным гумарам і іроніяй.

Дваццаціхвілінная сцэна з Умай Турман — гэта істэрычна-хітрая і бліскучая феерыя кабеты, у якой німфаманка ўявіла мужа.

Але німфаманка хлусіла, калі сцвярджала, што яе галоўны грэх — распуста.

Яе галоўны грэх — гэта галоўны грэх гностыкаў, якія ўпіваліся сваёю выключнасцю, грэх фанабэрыстых кінааўтараў, што спрытна выкарыстоўваюць гледача.

Яе грэх пыхі — гэта грэх бунтоўных феміністак (з кактэйлямі Молатава; у фільме маецца), грэх адукаваных культурнікаў — і грэх распешчанага цела, узнесенага на публічны эшафот гонару.

А таму німфаманкам няма чаго губляць, акрамя выстаўленага на паказ аргазму. Але сваёю ласкай яны накрыюць увесь свет.

АБВЕСТКА

## ЗАПРАШАЕМ!

**Бясплатныя штотыднёвыя заняткі па беларускай мове, гісторыі, інфарматыцы і іншых прадметах**

для школьнікаў 7–9-х класаў у памяшканні Таварыства беларускай мовы (Мінск, вул. Румянцава, 13, ст. метро «Плошча Перамогі»).

Арганізацыйны сход — у панядзелак, 3 сакавіка, 17.00.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**Магчыма, у вашым сэрцы і вашым доме знойдзецца месца для гэтых адданых сяброў. Паглядзіце ім у вочы — можа, гэта менавіта ваш сабака, і ён вас чакае.**

### Мона



Маладая прыгожая дзяўчынка Мона шукае дом! Актыўная, гуллівая, жыццярадасная.

Па характару падобная да рэтрывера — будзе добрай нянькай і кампаньёнам. Ростам каля 50 см. Вельмі ахайная дзяўчына, любіць доўгія прагулкі. Стэрылізаваная. Зазірніце ў гэтыя вочы — і вы не зможаце не пазваніць валанцёру Анастасіі, каб пазнаёміцца з гэтым цудам! 8-029-775-57-53.

### Тэдзі



Шчанё-мядзведзік Тэдзі дапаможа зразумець, якая гэта радасць, калі цябе дома сустракае сабака! Тэдзіку ўсяго тры месяцы, але ён не па ўзросце сур'ёзны і кемлівы. Ужо навучыўся трываць да прагулкі і прызвычаены да 3–4-разовага выгулу. Ведае правілы добрых паводзінаў — нічога не грызе і не брэша. Вельмі разумны і прыязны хлопчык! Сябруе з іншымі сабакамі і коткамі.

Зараз ён каля 35 см у холцы, вырасце сабакам сярэдняга памеру. Здаровы, апрацаваны ад паразітаў. Тэдзі — лепшае выратаванне ад недахопу пазітыву ў жыцці! Званіце валанцёру Ганне 8-033-361-04-60 і 8-029-977-43-98

### Бэці

Бэці — забаўнае рудое дзяўчо, якой яшчэ не споўнілася і года. Барадацік ужо ростам каля 45 см і вырасце недзе да 60 см у холцы. Актыўная, сяброўская, адданая, вясёлая і мегаразумная. Не прызвычаеная да выгулу, але цудоўна падыдзе да ўтрымання ў прыватным доме — ахоўніца і звонкі званочак.

Здаровенькая, апрацаваная ад паразітаў, рыхтуецца да стэрылізацыі (а значыцца, не будзе праблемаў са шчанюкамі). Калі вам запала ў сэрца гэта барадатае сонейка, званіце валанцёру Насці 8-029-7755753; 8-029-1911095.



### Нюся



Гадавалая прыгажуня Нюся выдатна падыходзіць да ўтрымання ў кватэры: прызвычаеная да выгулу, а ростам усяго 35 см. Ужо стэрылізаваная, здаровенькая, апрацаваная ад паразітаў. Актыўная, вясёлая, ласкавая, прыязная і адданая Нюся нават умее ўсміхацца!

Калі вы адчулі, што Нюся — гэта ваш сабака, званіце валанцёрам: 8-029-6121226 (Ірына) і 8-029-3215994 (Дар'я).

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 265

Падпісана да друку 28.02.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.